3ок-2
2600
(бел.)

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XI

. ГОСБИБЛИОТЕКА Б.С.С.Р.
Инв. №

ПАПРАЎКІ:

На стар. 1-ай, у першым радку знізу, у частцы тыража надрукавана „ССС", трэба чытаць „СССР".

На стар. 91-ай, у трэцім радку другога абзаца зверху, трэба чытаць „па ліквідацыі" замест набранага „па кіквідацыі".



*У дапамогу прапагандысту*



аб 05
18500



Зок-2
2600
(бел)

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

. ГОСБІБЛІЯТЭКА Б.С.С.Р.
Інв. №

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XI

№ 7

Ліпень 1937 г.

ЗМЕСТ



аб 05
18500



*Жыццё мясцовых партарганізацый.*



---

**Адрас рэдакцыі:**
**Менск, Чырвонаармейская вул.,**
**ЦК КП(б)Б, пакой 8.**
**Тэлефон рэдакцыі па камутатару**
**20000, даб. 50.**

# АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ „ПАЛАЖЭННЯ АБ ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ СССР“

## Пастанова 4-й сесіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР VII скліканняя

**Цэнтральны Выканаўчы Камітэт СССР пастанаўляе:**

**ЗАЦВЕРДЗІЦЬ „ПАЛАЖЭННЕ АБ ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ САЮЗА СОВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК“**

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэта СССР **М. Калінін**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэта СССР **А. Горкін**

Масква, Крэмль,
9 ліпеня 1937 г.

---

# Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР

## Раздзел I

### Выбарчая сістэма

АРТЫКУЛ 1. На падставе артыкула 134 Канстытуцыі СССР выбары дэпутатаў у Вярхоўны Совет СССР праводзяцца выбаршчыкамі на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

АРТЫКУЛ 2. На падставе артыкула 135 Канстытуцыі СССР выбары дэпутатаў з'яўляюцца ўсеагульнымі: усе грамадзяне СССР, дасягнуўшыя 18 год, незалежна ад расавай і нацыянальнай прыналежнасці, веравызнання, адукацыйнага цэнза, аседласці, соцыяльнага паходжання, маемаснага становішча і мінулай дзейнасці, маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў і быць выбранымі ў Вярхоўны Совет СССР, за выключэннем страціўшых розум і асоб, асуджаных судом з пазбаўленнем выбарчых праў.

АРТЫКУЛ 3. На падставе артыкула 136 Канстытуцыі СССР выбары дэпутатаў з'яўляюцца роўнымі: кожны грамадзянін мае адзін голас; усе грамадзяне прымаюць удзел у выбарах на роўных падставах.

АРТЫКУЛ 4. На падставе артыкула 137 Канстытуцыі СССР жанчыны карыстаюцца правам выбіраць і быць выбранымі нараўне з мужчынамі.

АРТЫКУЛ 5. На падставе артыкула 138 Канстытуцыі СССР грамадзяне, якія знаходзяцца ў радах Чырвонай Арміі, карыстаюцца правам выбіраць і быць выбранымі нараўне з усімі грамадзянамі.

АРТЫКУЛ 6. На падставе артыкула 141 Канстытуцыі СССР кандыдаты пры выбарах выстаўляюцца па выбарчых акругах.

## Раздзел II

### Спісы выбаршчыкаў

АРТЫКУЛ 7. Спісы выбаршчыкаў складаюцца ў гарадах гарадскім Советам дэпутатаў працоўных, а ў гарадах з раённым падзелам—раённым Советам; у сельскіх мясцовасцях—сельскім (станіцы, вёскі, хутара, кішлака, аўла) Советам дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 8. У спісы выбаршчыкаў уключаюцца ўсе грамадзяне, якія маюць выбарчае права і пражываюць пастаянна ці часова к моманту складання спісаў на тэрыторыі данага Совета, дасягнуўшыя ка дню выбараў 18 год.

АРТЫКУЛ 9. Не ўносяцца ў спісы выбаршчыкаў асобы, пазбаўленыя выбарчых праў па судовых прыгаворах на працягу ўсяго ўстаноўленага ў прыгаворы тэрміну пазбаўлення выбарчых праў, а таксама асобы, прызнаныя ва ўстаноўленым законам парадку страціўшымі розум.

АРТЫКУЛ 10. Спісы выбаршчыкаў складаюцца па кожнаму выбарчаму ўчастку ў алфавітным парадку з указаннем прозвішча, імя, імя па бацьку, узросту і месца жыхарства выбаршчыка і падпісваюцца старшынёю і сакратаром Совета дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 11. Ніхто з выбаршчыкаў не можа быць унесен больш, чым у адзін выбарчы спіс.

АРТЫКУЛ 12. Спісы выбаршчыкаў, якія знаходзяцца ў вайсковых часцях і вайсковых злучэннях, складаюцца камандаваннем за подпісамі камандзіра і ваеннага камісара. Усе іншыя ваеннаслужачыя ўносяцца ў спісы выбаршчыкаў па месцу жыхарства адпаведнымі Советамі дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 13. За 30 дзён да выбараў Совет дэпутатаў працоўных вывешвае спісы выбаршчыкаў для ўсеагульнага агляду ці забяспечвае выбаршчыкам магчымасць азнаямляцца з гэтымі спісамі ў памяшканні Совета.

АРТЫКУЛ 14. Арыгінал спісаў выбаршчыкаў захоўваецца адпаведна ў Совеце дэпутатаў працоўных і ў вайсковай часці ці ў вайсковым злучэнні.

АРТЫКУЛ 15. Пры перамене выбаршчыкам месца свайго прабывання ў тэрмін паміж апублікаваннем спіса выбаршчыкаў і днём выбараў адпаведны Совет дэпутатаў працоўных выдае яму па форме, устаноўленай Цэнтральнай выбарчай камісіяй, «пасведчанне на права галасавання» і адзначае ў спісе выбаршчыкаў—«выбыў»; у пункце новага месцажыхарства—пастаяннага ці часовага—выбаршчык уносіцца ў спіс выбаршчыкаў пры прад'яўленні пасведчання асобы, а таксама «пасведчання на права галасавання».

АРТЫКУЛ 16. Заява аб няправільнасці ў спісе выбаршчыкаў (неўключэнне ў спісы, выключэнне са спісаў, скажэнне прозвішча, імя, імя па бацьку, няправільнае ўключэнне ў спісы асоб, пазбаўленых выбарчых праў) падаецца ў Совет дэпутатаў працоўных, які апублікаваў спісы.

АРТЫКУЛ 17. Выканаўчы камітэт Совета дэпутатаў працоўных абавязан разглядзець кожную заяву аб няправільнасці ў спісе выбаршчыкаў у трохдзённы тэрмін.

АРТЫКУЛ 18. Пасля разгляду заявы аб няправільнасці ў спісе выбаршчыкаў, выканаўчы камітэт Совета дэпутатаў працоўных

абавязан або ўнесці неабходныя выпраўленні ў спіс выбаршчыкаў, або выдаць заявіцелю пісьмовую даведку аб матывах адхілення яго заявы; пры нязгодзе з рашэннем Совета дэпутатаў працоўных заявіцель можа падаць скаргу ў народны суд.

АРТЫКУЛ 19. Народны суд на працягу трох дзён абавязан у адкрытым судовым пасяджэнні з выклікам заявіцеля і прадстаўніка Совета разгледзець скаргу на няправільнасць у спісе і сваё рашэнне неадкладна паведаміць як заявіцелю, так і Совету. Рашэнне народнага суда канчатковае.

Раздзел III

## Выбарчыя акругі па выбарах у Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей

АРТЫКУЛ 20. На падставе артыкула 34 Канстытуцыі СССР Совет Саюза выбіраецца грамадзянамі СССР па выбарчых акругах.

АРТЫКУЛ 21. Выбарчая акруга па выбарах у Совет Саюза складаецца па прынцыпу: 300.000 насельніцтва—на акругу. Кожная выбарчая акруга па выбарах у Совет Саюза пасылае аднаго дэпутата.

АРТЫКУЛ 22. На падставе артыкула 35 Канстытуцыі СССР Совет Нацыянальнасцей выбіраецца грамадзянамі СССР па выбарчых акругах. Выбарчая акруга па выбарах у Совет Нацыянальнасцей складаецца па прынцыпу: 25 акруг па кожнай саюзнай рэспубліцы, 11 акруг па кожнай аўтаномнай рэспубліцы, 5 акруг па кожнай аўтаномнай вобласці і 1 выбарчая акруга ў кожнай нацыянальнай акрузе. Кожная выбарчая акруга па выбарах у Совет Нацыянальнасцей пасылае аднаго дэпутата.

АРТЫКУЛ 23. Утварэнне выбарчых акруг па выбарах у Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей праводзіцца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета СССР.

АРТЫКУЛ 24. Спіс выбарчых акруг па выбарах у Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей апублікоўваецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета СССР адначасова з назначэннем дня выбараў.

Раздзел IV

## Выбарчыя ўчасткі

АРТЫКУЛ 25. Для прыёму выбарчых бюлетэняў і падліку галасоў тэрыторыя гарадоў і раёнаў, што ўваходзяць у выбарчыя акругі, падзяляецца на выбарчыя ўчасткі, агульныя для выбараў у Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей.

АРТЫКУЛ 26. Утварэнне выбарчых участкаў праводзіцца ў гарадах гарадскімі Советамі дэпутатаў працоўных, у гарадах з раённым падзелам—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных; у сельскіх мясцовасцях—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 27. Утварэнне выбарчых участкаў праводзіцца не пазней, чым за 45 дзён да выбараў.

АРТЫКУЛ 28. Тэрыторыя сельсовета, які налічвае не больш двух тысяч жыхароў, складае, як правіла, адзін выбарчы ўчастак, у кожнай станіцы, вёсцы, кішлаку, ауле, якія налічваюць ад 500, але не больш 2.000 жыхароў, арганізуецца асобы выбарчы ўчастак.

АРТЫКУЛ 29. У аддаленых паўночных і ўсходніх раёнах, дзе пераважаюць дробныя паселішчы, дапускаецца арганізацыя выбарчых участкаў з колькасцю не менш 100 чалавек насельніцтва.

АРТЫКУЛ 30. Гарады, прамысловыя пункты, а таксама сёлы і тэрыторыі сельсовета, дзе налічваецца больш 2.000 жыхароў, падзяляюцца на выбарчыя ўчасткі з разліку адзін выбарчы ўчастак на 1.500—2.000 чалавек насельніцтва.

АРТЫКУЛ 31. Вайсковыя часці і вайсковыя злучэнні складаюць асобныя выбарчыя ўчасткі з колькасцю не менш 50 і не больш 1.500 выбаршчыкаў, якія ўваходзяць у выбарчую акругу па месцу знаходжання часці або вайсковага злучэння.

АРТЫКУЛ 32. Судны, з колькасцю выбаршчыкаў не менш 50, якія знаходзяцца ў плаванні ў дні выбараў, могуць скласці асобныя выбарчыя ўчасткі, уваходзячыя ў выбарчыя акругі па месцу прыпіскі судна.

АРТЫКУЛ 33. Пры бальніцах, радзільных дамах, санаторыях, дамах інвалідаў з колькасцю выбаршчыкаў не менш 50 ствараюцца асобныя выбарчыя ўчасткі.

## Раздзел V

## Выбарчыя камісіі

АРТЫКУЛ 34. Цэнтральная выбарчая камісія па выбарах у Вярхоўны Совет СССР складаецца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета СССР адначасова з апублікаваннем дня выбараў.

АРТЫКУЛ 35. Цэнтральная выбарчая камісія ўтвараецца ў складзе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 12 членаў.

АРТЫКУЛ 36. Цэнтральная выбарчая камісія:

а) наглядае на ўсёй тэрыторыі СССР за няўхільным выкананнем у ходзе выбараў «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР»;

б) разглядае скаргі на няправільныя дзеянні выбарчых камісій і выносіць па скаргах канчатковыя рашэнні;

в) устанаўлівае ўзоры выбарчых скрынак, форму «пасведчання на права галасавання», форму і колер выбарчых бюлетэняў і канвертаў для іх, формы спіса выбаршчыкаў, форму пратаколаў па падліку галасоў, форму пасведчанняў аб выбранні;

г) рэгіструе выбраных дэпутатаў у Вярхоўны Совет СССР;

д) здае мандатным камісіям Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей справаводства па выбарах.

АРТЫКУЛ 37. У кожнай саюзнай і аўтаномнай рэспубліцы, аўтаномнай вобласці і нацыянальнай акрузе стварающца Выбарчыя камісіі саюзнай і аўтаномнай рэспублікі, аўтаномнай вобласці і нацыянальнай акругі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей.

АРТЫКУЛ 38. Выбарчыя камісіі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей складаюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаюцца Прэзідыумамі Вярхоўных Советаў саюзных і аўтаномных рэспублік, Советамі дэпутатаў працоўных аўтаномных абласцей і нацыянальных акруг не пазней, чым за 50 дзён да выбараў.

АРТЫКУЛ 39. Выбарчыя камісіі саюзнай і аўтаномнай рэспублік, аўтаномнай вобласці і нацыянальнай акругі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей утвараюцца ў складзе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 6—10 членаў.

АРТЫКУЛ 40. Выбарчая камісія саюзнай, аўтаномнай рэспублікі, аўтаномнай вобласці і нацыянальнай акругі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей:

а) наглядае на тэрыторыі рэспублікі, аўтаномнай вобласці, нацыянальнай акругі за няўхільным выкананнем у ходзе выбараў у Совет Нацыянальнасцей «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР»;

б) разглядае скаргі на няправільныя дзеянні па выбарах у Совет Нацыянальнасцей.

АРТЫКУЛ 41. У кожнай акрузе па выбарах у Совет Саюза ствараецца акруговая па выбарах ў Совет Саюза выбарчая камісія.

АРТЫКУЛ 42. У рэспубліках, якія маюць краявы ці абласны падзел, акруговыя па выбарах у Совет Саюза выбарчыя камісіі складаюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварystваў працоўных і зацвярджаюцца Советамі дэпутатаў працоўных краёў і абласцей; у рэспубліках, якія не маюць абласнога ці краявога падзелу,—Прэзідыумамі Вярхоўных Советаў рэспублік—не пазней, чым за 55 дзён да выбараў.

АРТЫКУЛ 43. Акруговая па выбарах у Совет Саюза выбарчая камісія ствараецца ў складзе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і васьмі членаў.

АРТЫКУЛ 44. Акруговая па выбарах у Совет Саюза выбарчая камісія:

а) наглядае за своечасовай арганізацыяй выбарчых участкаў адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі Советаў дэпутатаў працоўных;

б) наглядае за своечасовым складаннем і давядзеннем да ўсеагульнага ведама спісаў выбаршчыкаў;

в) рэгіструе выстаўленых з захаваннем патрабаванняў Канстытуцыі СССР і «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» кандыдатаў у дэпутаты ў Совет Саюза;

г) снабжае ўчастковыя выбарчыя камісіі выбарчымі бюлетэнямі па выбарах у Совет Саюза і канвертамі па ўстаноўленай форме;

д) робіць падлік галасоў і ўстанаўлівае рэзультаты выбараў па акрузе;

е) прадстаўляе ў Цэнтральную выбарчую камісію справаводства па выбарах;

ж) выдае выбранаму дэпутату пасведчанне аб выбранні.

АРТЫКУЛ 45. У кожнай акрузе па выбарах у Совет Нацыянальнасцей ствараецца акруговая па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчая камісія.

АРТЫКУЛ 46. Акруговыя па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчыя камісіі складаюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаюцца Прэзідыумамі Вярхоўных Советаў саюзных і аўтаномных рэспублік і Советамі дэпутатаў працоўных аўтаномных абласцей—не пазней, чым за 50 дзён да выбараў.

АРТЫКУЛ 47. Акруговая па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчая камісія ствараецца ў складзе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 8 членаў.

АРТЫКУЛ 48. Акруговая па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчая камісія:

а) рэгіструе выстаўленых з захаваннем патрабаванняў Канстытуцыі СССР і «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» кандыдатаў у дэпутаты ў Совет Нацыянальнасцей;

б) снабжае ўчастковыя выбарчыя камісіі выбарчымі бюлетэнямі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей па ўстаноўленай форме;

в) робіць падлік галасоў і ўстанаўлівае вынікі выбараў па акрузе;

г) прадстаўляе справаводства па выбарах у Цэнтральную выбарчую камісію і адпаведна ў Рэспубліканскую выбарчую камісію па выбарах у Совет Нацыянальнасцей ці ў Выбарчую камісію аўтаномнай вобласці па выбарах у Совет Нацыянальнасцей;

д) выдае выбранаму дэпутату пасведчанне аб выбранні.

АРТЫКУЛ 49. Участковыя выбарчыя камісіі складаюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаюцца ў гарадах гарадскімі Советамі дэпутатаў працоўных, а ў гарадах з раённым падзелам—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных; у сельскіх мясцовасцях—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных—не пазней, чым за 40 дзён да выбараў.

АРТЫКУЛ 50. Участковая выбарчая камісія ствараецца ў складзе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 4—8 членаў.

АРТЫКУЛ 51. Участковая выбарчая камісія:

а) робіць па выбарчаму ўчастку прыём выбарчых бюлетэняў;

б) робіць падлік галасоў па кожнаму кандыдату ў дэпутаты Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей;

в) перадае справаводства па выбарах адпаведна ў Акруговую па выбарах у Совет Саюза і ў Акруговую па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчыя камісіі.

АРТЫКУЛ 52. Пасяджэнні Цэнтральнай выбарчай камісіі, Рэспуб-



ліканскай выбарчай камісіі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей, Выбарчых камісій аўтаномных абласцей і нацыянальных акруг па выбарах у Совет Нацыянальнасцей, Акруговай па выбарах у Совет Саюза выбарчай камісіі і Акруговай па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчай камісіі, а таксама Ўчастковых выбарчых камісій, лічацца сапраўднымі, калі на іх прымае ўдзел больш паловы агульнага складу камісій.

АРТЫКУЛ 53. Усе пытанні ў выбарчых камісіях вырашаюцца простай большасцю галасоў; пры роўнасці галасоў—голас старшыні дае перавагу.

АРТЫКУЛ 54. Выдаткі, звязаныя з правядзеннем выбараў у Вярхоўны Совет СССР, робяцца за кошт дзяржавы.

АРТЫКУЛ 55. Цэнтральная выбарчая камісія, Рэспубліканскія выбарчыя камісіі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей, Выбарчыя камісіі аўтаномнай вобласці, нацыянальнай акругі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей, Акруговая па выбарах у Совет Саюза выбарчая камісія, Акруговая па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчая камісія і Ўчастковыя выбарчыя камісіі маюць сваю пячатку па ўзору, устаноўленаму Цэнтральнай выбарчай камісіяй.

## Раздзел VI

## Парадак выстаўлення кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР

АРТЫКУЛ 56. Права выстаўлення кандыдатаў у Вярхоўны Совет СССР забяспечваецца за грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных — на падставе артыкула 141 Канстытуцыі СССР за комуністычнымі партыйнымі арганізацыямі, прафесіянальнымі саюзамі, кааператывамі, арганізацыямі моладзі, культурнымі таварыствамі і іншымі арганізацыямі, зарэгістраванымі ва ўстаноўленым законам парадку.

АРТЫКУЛ 57. Права выстаўлення кандыдатаў ажыццяўляюць як цэнтральныя органы грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, так і іх рэспубліканскія, краявыя, абласныя і раённыя органы, таксама як агульныя сходы рабочых і служачых па прадпрыемствах, чырвонаармейцаў—па вайсковых часцях, а таксама агульныя сходы сялян па калгасах, рабочых і служачых соўгасаў па соўгасах.

АРТЫКУЛ 58. Кандыдаты ў дэпутаты не могуць быць членамі акруговых па выбарах у Совет Саюза і ў Совет Нацыянальнасцей выбарчых камісій, а таксама Ўчастковых выбарчых камісій той акругі, дзе яны выстаўлены кандыдатамі ў дэпутаты.

АРТЫКУЛ 59. Не пазней, чым за 30 дзён да выбараў, усе грамадскія арганізацыі ці таварыствы працоўных, якія высоўваюць кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР, абавязаны зарэгістраваць кандыдатаў у дэпутаты адпаведна ці ў Акруговай па выбарах у Совет

Саюза выбарчай камісіі, ці ў Акруговай па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчай камісіі.

АРТЫКУЛ 60. Акруговыя па выбарах у Совет Саюза і па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчыя камісіі абавязаны зарэгістраваць усіх кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР, выстаўленых грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных з захаваннем патрабаванняў Канстытуцыі СССР і «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР».

АРТЫКУЛ 61. Грамадская арганізацыя ці таварыства працоўных, якія высоўваюць кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР, абавязаны прадставіць у Акруговую выбарчую камісію наступныя дакументы:

а) пратакол схода ці пасяджэння, высунуўшага кандыдата ў дэпутаты, падпісаны членам Прэзідыума, з указаннем іх узросту, месца жыхарства, назвы арганізацыі, высунуўшай кандыдата, указання аб месцы, часе і колькасці ўдзельнікаў схода ці пасяджэння, высунуўшага кандыдата ў дэпутаты, прычым у пратаколе павінны быць указаны прозвішча, імя, імя па бацьку кандыдата ў дэпутаты, яго ўзрост, месца жыхарства, партыйнасць, заняткі;

б) заяву кандыдата ў дэпутаты аб яго згодзе балаціравацца па данай выбарчай акрузе ад выставіўшай яго арганізацыі.

АРТЫКУЛ 62. Кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР можа галасавацца толькі ў адной акрузе.

АРТЫКУЛ 63. Адмаўленне Акруговай па выбарах у Совет Саюза выбарчай камісіі ў рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты можа быць абскарджана ў двухдзенны тэрмін у Цэнтральную выбарчую камісію, рашэнне якой з'яўляецца канчатковым.

АРТЫКУЛ 64. Адмаўленне Акруговай па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчай камісіі ў рэгістрацыі кандыдата можа быць абскарджана ў двухдзенны тэрмін у Выбарчую камісію саюзнай, аўтаномнай рэспублікі, аўтаномнай вобласці, а рашэнне апошняй—у Цэнтральную выбарчую камісію, рашэнне якой з'яўляецца канчатковым.

АРТЫКУЛ 65. Прозвішча, імя, імя па бацьку, узрост, заняткі, партыйнасць кожнага зарэгістраванага кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР і назва грамадскай арганізацыі, высунуўшай кандыдата, апублікоўваюцца адпаведна Акруговай па выбарах у Совет Саюза выбарчай камісіяй і Акруговай па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчай камісіяй не пазней, чым за 25 дзён да выбараў.

АРТЫКУЛ 66. Усе зарэгістраваныя кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР падлягаюць абавязковаму ўключэнню ў выбарчы бюлетэнь.

АРТЫКУЛ 67. Акруговая па выбарах у Совет Саюза выбарчая камісія і Акруговая па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчая камісія абавязаны не пазней, чым за 15 дзён да выбараў у Вярхоўны

Совет СССР надрукаваць і разаслаць усім Участковым выбарчым камісіям выбарчыя бюлетэні.

АРТЫКУЛ 68. Выбарчыя бюлетэні друкуюцца на мовах насельніцтва адпаведнай выбарчай акругі.

АРТЫКУЛ 69. Выбарчыя бюлетэні друкуюцца па форме, устаноўленай Цэнтральнай выбарчай камісіяй. і ў колькасці, якая забяспечвае снабжэнне ўсіх выбаршчыкаў выбарчымі бюлетэнямі.

АРТЫКУЛ 70. Кожнай арганізацыі, выставіўшай кандыдата, зарэгістраванага ў Акруговай выбарчай камісіі, таксама як кожнаму грамадзяніну СССР, забяспечваецца права бесперашкоднай агітацыі за гэтага кандыдата на сходах, у друку і іншымі спосабамі, згодна артыкула 125 Канстытуцыі СССР.

Раздзел VII

## Парадак галасавання

АРТЫКУЛ 71. Выбары ў Вярхоўны Совет СССР праводзяцца на працягу аднаго дня—агульнага для ўсяго СССР.

АРТЫКУЛ 72. Дзень выбараў у Вярхоўны Совет СССР устанаўліваецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета СССР згодна артыкула 54 Канстытуцыі СССР, не пазней, чым за 2 месяцы да тэрміну выбараў. Выбары праводзяцца ў нерабочы дзень.

АРТЫКУЛ 73. Штодня на працягу апошніх 20 дзён перад выбарамі Участковая выбарчая камісія апублікоўвае ці шырока паведамляе выбаршчыкаў якім-небудзь іншым спосабам аб дні выбараў і месцы выбараў.

АРТЫКУЛ 74. Падача галасоў выбаршчыкамі робіцца ў дзень выбараў ад 6 гадзін раніцы да 12 гадзін ночы.

АРТЫКУЛ 75. У 6 гадзін раніцы ў дзень выбараў старшыня Участковай выбарчай камісіі ў прысутнасці яе членаў правярае выбарчыя скрынкі і наяўнасць складзенага па ўстаноўленай форме спіса выбаршчыкаў, пасля чаго закрывае і апячатвае скрынкі пячаткаю камісіі і запрашае выбаршчыкаў прыступіць да падачы галасоў.

АРТЫКУЛ 76. Кожны выбаршчык галасуе асабіста, з'яўляючыся для гэтага ў памяшканне для галасавання, прычым падача галасоў выбаршчыкамі робіцца шляхам апускання ў выбарчую скрынку выбарчых бюлетэняў, запячатаных у канверце.

АРТЫКУЛ 77. У памяшканні для выбараў вызначаецца для запаўнення бюлетэняў асобны пакой, у якім у часе галасавання забараняецца прысутнасць каго-б там ні было, у тым ліку і членаў Участковай выбарчай камісіі, апрача галасуючых; пры допуску ў пакой для запаўнення бюлетэняў адначасова некалькіх выбаршчыкаў ён павінен быць абсталёван перагародкамі ці шырмамі па ліку дапускаемых адначасова выбаршчыкаў.

АРТЫКУЛ 78. Выбаршчык, які з'явіўся ў выбарчае памяшканне,

прад'яўляе сакратару Ўчастковай выбарчай камісіі або пашпарт, або калгасную кніжку, або профсаюзны білет, або іншае пасведчанне асобы і пасля праверкі па спісу выбаршчыкаў і адзнакі ў спісе выбаршчыкаў атрымлівае выбарчыя бюлетэні і канверт устаноўленага ўзору.

АРТЫКУЛ 79. На асоб, якія з'явіліся ў памяшканне для выбараў з «пасведчаннем на права галасавання», згодна артыкула 15 гэтага «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР», Участковая выбарчая камісія вядзе асобны спіс, які прыкладаецца да спіса выбаршчыкаў.

АРТЫКУЛ 80. Выбаршчык у пакоі, адведзеным для запаўнення выбарчых бюлетэняў, астаўляе ў кожным выбарчым бюлетэні прозвішча таго кандыдата, за якога ён галасуе, выкрэсліваючы астатніх; заклеіўшы бюлетэні ў канверт, выбаршчык пераходзіць у пакой, дзе змяшчаецца Ўчастковая выбарчая камісія, і апускае канверт з выбарчымі бюлетэнямі ў выбарчую скрынку.

АРТЫКУЛ 81. Выбаршчыкі, якія не маюць магчымасці з прычыны непісьменнасці ці якога-небудзь фізічнага недахопу самастойна запоўніць выбарчыя бюлетэні, управе запрасіць у пакой, дзе запаўняюцца выбарчыя бюлетэні, любога іншага выбаршчыка для запаўнення выбарчых бюлетэняў.

АРТЫКУЛ 82. Выбарная агітацыя ў выбарчым памяшканні ў часе падачы галасоў не дапускаецца.

АРТЫКУЛ 83. Адказнасць за парадак у выбарчым памяшканні нясе старшыня камісіі, і яго распараджэнні для ўсіх прысутных абавязковы.

АРТЫКУЛ 84. У 12 гадзін ночы дня выбараў старшыня Ўчастковай выбарчай камісіі абвяшчае падачу галасоў закончанай, і камісія прыступае да ўскрыцця выбарчых скрынак.

Раздзел VIII

## Вызначэнне вынікаў выбараў

АРТЫКУЛ 85. У памяшканні, дзе Ўчастковая выбарчая камісія робіць падлік галасоў, пры падліку галасоў маюць права прысутнічаць спецыяльна ўпаўнаважаныя на тое прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, а таксама прадстаўнікі друку.

АРТЫКУЛ 86. Участковая выбарчая камісія, ускрыўшы скрынкі, звярае колькасць паданых канвертаў з колькасцю асоб, якія прымалі ўдзел у галасаванні, і вынікі зверкі заносіць у пратакол.

АРТЫКУЛ 87. Старшыня Ўчастковай выбарчай камісіі ўскрывае канверты і агалашае ў прысутнасці ўсіх членаў Участковай выбарчай камісіі вынікі галасавання па кожнаму бюлетэню.

АРТЫКУЛ 88. Запіс вынікаў галасавання вядзецца асобна па выбарах у Совет Саюза і ў Совет Нацыянальнасцей.

АРТЫКУЛ 89. На кожнага кандыдата ў дэпутаты вядзецца падлі-

ковы ліст у 2-х экземплярах сакратаром камісіі і ўпаўнаважанымі на гэта членамі Ўчастковай выбарчай камісіі.

АРТЫКУЛ 90. Прызнаюцца несапраўднымі бюлетэні:

а) неўстаноўленага ўзору і колеру;

б) паданыя без канверта ці ў канверце неўстаноўленага ўзору;

в) з колькасцю кандыдатаў, перавышаючай лік выбіраемых дэпутатаў.

АРТЫКУЛ 91. Пры ўзнікненні сумненняў у сапраўднасці выбарчага бюлетэня пытанне вырашаецца Ўчастковай выбарчай камісіяй шляхам галасавання, што адзначаецца ў пратаколе.

АРТЫКУЛ 92. Участковая выбарчая камісія складае па ўстаноўленай форме пратакол галасавання ў трох экземплярах, падпісваемых усімі членамі Ўчастковай выбарчай камісіі, у тым ліку абавязкова старшынёю і сакратаром.

АРТЫКУЛ 93. У пратаколе галасавання Ўчастковай выбарчай камісіяй павінна быць указана:

а) час пачатку і сканчэння падачы галасоў;

б) лік выбаршчыкаў, падаўшых галасы па спісу выбаршчыкаў;

в) лік выбаршчыкаў, падаўшых галасы па «пасведчаннях на права галасавання»;

г) лік паданых канвертаў;

д) кароткі змест заяў і скарг, паданых ва Ўчастковую выбарчую камісію, і прынятыя Ўчастковай выбарчай камісіяй рашэнні;

е) вынікі падліку галасоў па кожнаму кандыдату.

АРТЫКУЛ 94. Пасля сканчэння падліку галасоў і складання пратакола старшыня камісіі агалашае вынікі галасавання ў прысутнасці ўсіх членаў камісіі.

АРТЫКУЛ 95. Адзін экземпляр пратакола галасавання, складзенага Ўчастковай выбарчай камісіяй, з абодвума экземплярамі падліковых лістоў на кандыдатаў у дэпутаты Совета Саюза накіроўваецца з нарачным на працягу 24 гадзін у Акруговую па выбарах у Совет Саюза выбарчую камісію; другі экземпляр пратакола галасавання, складзенага Ўчастковай выбарчай камісіяй, з абодвума экземплярамі падліковых лістоў на кандыдатаў у дэпутаты Совета Нацыянальнасцей накіроўваецца з нарачным на працягу 24 гадзін у Акруговую па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчую камісію.

АРТЫКУЛ 96. Усе выбарчыя бюлетэні (асобна сапраўдныя і асобна прызнаныя несапраўднымі) асобна па Совету Саюза і асобна па Совету Нацыянальнасцей павінны быць апячатаны пячаткай Участковай выбарчай камісіі і разам з трэцім экземплярам пратакола галасавання і пячаткай зданы старшынёю Ўчастковай выбарчай камісіі на хаванне: у гарадах—гарадскім Советам дэпутатаў працоўных, а ў гарадах з раённым падзелам—раённым Советам дэпутатаў працоўных; у сельскіх мясцовасцях—раённым Советам дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 97. На Советы дэпутатаў працоўных ускладаецца абавя-

зак захоўваць выбарчыя бюлетэні аж да зацвярджэння мандатаў дэпутатаў ад адпаведнай акругі Вярхоўным Советам СССР.

АРТЫКУЛ 98. Акруговая выбарчая камісія вытварае падлік галасоў на падставе пратаколаў, прадстаўленых Участковымі выбарчымі камісіямі.

АРТЫКУЛ 99. У памяшканні, дзе Акруговая выбарчая камісія вытварае падлік галасоў, маюць права прысутнічаць пры падліку галасоў спецыяльна на тое ўпаўнаважаныя прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і таварystваў працоўных, а таксама прадстаўнікі друку.

АРТЫКУЛ 100. На кожнага кандыдата Акруговай выбарчай камісіяй вядзецца ў 2-х экземплярах падліковы ліст, у якім адзначаецца колькасць галасоў, атрыманых кожным кандыдатам у дэпутаты.

АРТЫКУЛ 101. Акруговая выбарчая камісія складае пратакол галасавання ў 2-х экземплярах, падпісваемых усімі членамі Акруговай выбарчай камісіі, у тым ліку абавязкова старшынёю і сакратаром.

АРТЫКУЛ 102. У пратаколе Акруговай выбарчай камісіі павінна быць указана:

а) агульны лік выбаршчыкаў па акрузе;

б) агульны лік выбаршчыкаў, прыняўшых удзел у галасаванні;

в) лік галасоў, паданых за кожнага кандыдата ў дэпутаты;

г) кароткі выклад заяў і скарг, паданых у акруговую выбарчую камісію, і прынятыя Акруговай выбарчай камісіяй рашэнні.

АРТЫКУЛ 103. Не пазней 24 гадзін пасля сканчэння падліку галасоў старшыня Акруговай па выбарах у Совет Саюза, а таксама старшыня Акруговай па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчай камісіі абавязаны пераслаць першы экземпляр пратакола з прыкладзенымі падліковымі лістамі ў запячатаным выглядзе праз нарачнага ў Цэнтральную выбарчую камісію, другі экземпляр пратакола—у Выбарчую па выбарах у Совет Нацыянальнасцей камісію саюзнай рэспублікі, аўтаномнай рэспублікі, аўтаномнай вобласці.

АРТЫКУЛ 104. Кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР, які атрымаў абсалютную большасць галасоў, г. зн. больш паловы ўсіх галасоў, паданых па акрузе і прызнаных сапраўднымі, лічыцца выбраным.

АРТЫКУЛ 105. Пасля падпісання пратакола старшыня Акруговай па выбарах у Совет Саюза выбарчай камісіі агалашае вынікі выбараў і выдае выбранаму кандыдату ў дэпутаты Совета Саюза пасведчанне аб выбранні.

АРТЫКУЛ 106. Пасля падпісання пратакола старшыня Акруговай па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбарчай камісіі агалашае вынікі выбараў і выдае выбранаму кандыдату ў дэпутаты Совета Нацыянальнасцей пасведчанне аб выбранні.

АРТЫКУЛ 107. Калі ні адзін з кандыдатаў не атрымаў абсалютнай большасці галасоў, адпаведная Акруговая выбарчая камісія адзначае аб гэтым спецыяльна у пратаколе і паведамляе: у Цэнтральную выбар-

чую Камісію і Выбарчую камісію рэспублікі, аўтаномнай вобласці ці нацыянальнай акругі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей і адначасова абвяшчае перабалаціроўку двух кандыдатаў, атрымаўшых найбольшую колькасць галасоў, а таксама назначае дзень перабалаціроўкі не пазней, чым у двухтыднёвы тэрмін пасля скончэння першага туру выбараў.

АРТЫКУЛ 108. Калі паданая колькасць галасоў па акрузе складае менш паловы выбаршчыкаў, якія маюць права галасаваць па гэтай акрузе, Акруговая выбарчая камісія па выбарах у Совет Саюза ці па выбарах у Совет Нацыянальнасцей, адзначае аб гэтым асобна ў пратаколе і паведамляе неадкладна ў Цэнтральную выбарчую камісію і ў Выбарчую камісію рэспублікі, аўтаномнай вобласці па выбарах у Совет Нацыянальнасцей, прычым у гэтым выпадку Цэнтральная выбарчая камісія назначае новыя выбары не пазней, чым у двухтыднёвы тэрмін пасля першых выбараў.

АРТЫКУЛ 109. Перабалаціроўка кандыдатаў у дэпутаты, таксама як новыя выбары ўзамен прызнаных несапраўднымі, праводзяцца па спісах выбаршчыкаў, складзеных для першых выбараў, і ў поўнай адпаведнасці з гэтым «Палажэннем аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР».

АРТЫКУЛ 110. У выпадку выбыцця дэпутатаў са складу Вярхоўнага Совета СССР Прэзідыум Вярхоўнага Совета СССР у двухтыднёвы тэрмін назначае ў адпаведнай выбарчай акрузе тэрмін выбараў новага дэпутата, але не пазней, чым у двухмесячны тэрмін пасля выбыцця дэпутатаў з складу Вярхоўнага Совета СССР.

АРТЫКУЛ 111. Усякі, хто шляхам гвалту, ашуканства, пагроз ці подкупу будзе перашкаджаць грамадзяніну СССР у ажыццяўленні яго права выбіраць і быць выбраным у Вярхоўны Совет СССР,—караецца пазбаўленнем волі на тэрмін да 2-х год.

АРТЫКУЛ 112. Службовая асоба Совета ці член выбарчай камісіі, зрабіўшыя падробку выбарчых дакументаў ці заведама няправільны падлік галасоў,—караюцца пазбаўленнем волі на тэрмін да 3-х год.

**Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР М. КАЛІНІН**

**Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР А. ГОРКІН**

Масква, Крэмль,
9 ліпеня 1937 г.

# Аб праекце „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР“

*Даклад тав. Якаўлева Я. А. на 4-й сесіі ЦВК СССР VII склікання 7 ліпеня 1937 года*

I

## Як забяспечваюцца ўсеагульнае, роўнае і прамое выбарчае права і тайнае галасаванне

Надзвычайны VIII З'езд Советаў СССР даручыў Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Саюза ССР на аснове новай Канстытуцыі СССР распрацаваць і зацвердзіць «Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР».

Прадстаўляемы Прэзідыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР на разгляд і зацвярджэнне сесіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта праект «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» уяўляе сабой па сутнасці інструкцыю да раздзела Канстытуцыі СССР аб выбарчай сістэме. Праект Выбарчага закона мае задачай гарантаваць няўхільнае выкананне выбарчай сістэмы, устаноўленай Сталінскай Канстытуцыяй СССР.

Канстытуцыяй СССР устаноўлена **ўсеагульнае** выбарчае права.

Адпаведна Выбарчы закон забяспечвае кожнаму грамадзяніну, дасягнуўшаму ка дню выбараў 18 год, уключэнне яго ў спісы асоб, якія маюць права выбіраць і быць выбранымі ў Вярхоўны Совет (артыкул 8). Разумеецца, асобы, пазбаўленыя выбарчых праў па судовых прыгаворах, а таксама асобы, прызнаныя ва ўстаноўленым законам парадку страціўшымі розум, у выбарчыя спісы не ўключаюцца (артыкул 9).

Ніякага цэнза аседласці наш выбарчы закон не патрабуе ад выбаршчыкаў, у той час як нават найбольш дэмакратычныя краіны з ліку капіталістычных дзяржаў пазбаўляюць права ўдзелу ў выбарах грамадзян, якія жывуць у данай мясцовасці менш пэўнага тэрміну (тры месяцы ў Вялікабрытаніі, 6 месяцаў у Бельгіі і Францыі, ад трох месяцаў да двух год—па-рознаму ў розных штатах—у Злучаных Штатах Амерыкі).

Грамадзяніну, перамяніўшаму месца свайго прабывання, прадастаўляецца магчымасць прымаць удзел у выбарах па «пасведчанню на права галасавання», выданаму яму Советам дэпутатаў працоўных па ранейшаму месцу яго жыхарства (артыкул 15 і 79).

Само сабой разумеецца, што праект Выбарчага закона сацыялістычнай краіны выключае ўсякае патрабаванне маемаснага цэнза, як гэта мае месца, напрыклад, па раду штатаў Злучаных Штатаў Аме-

рыкі. Па асобных штатах ЗША ад выбаршчыкаў патрабуецца мецьпэўную ўласнасць.

Выбарчыя законы раду нават найбольш дэмакратычных буржуазных дзяржаў пазбаўляюць магчымасці прымаць удзел у выбарах і быць выбранымі актыўную моладзь, якая знаходзіцца ў арміі (Францыя, Чэхаславакія). У адрозненне ад такіх парадкаў наш праект у адпаведнасці з Канстытуцыяй СССР забяспечвае асобам, якія знаходзяцца ў Чырвонай Арміі, сапраўдную магчымасць прымаць удзел у выбарах і быць выбранымі (артыкул 12). Не прыходзіцца матываваць гэтага адрознення: для буржуазнай арміі палітычная асвета раўназначна разбурэнню вайсковай дысцыпліны; нашу-ж Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію палітычная асвета ўмацоўвае, павышае ў ёй вайсковую дысцыпліну.

Жанчына ў радзе буржуазна-дэмакратычных краін, нават такіх, як Швейцарыя, Францыя, Бельгія, пазбаўлена выбарчых праў. У нас-жа жанчыны карыстаюцца правам выбіраць і быць выбранымі нараўне з мужчынамі.

Нарэшце, наша «Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» забяспечвае ўсеагульнасць выбарчага права тым, што выключае ў якой-бы там ні было форме магчымасць адхілення каго-б там ні было ад выбараў па нацыянальнаму прызнаку. І ў гэтай частцы праект Выбарчага закона не абмяжоўваецца адным агалашэннем праў, ён высвятляе ўсе лазейкі, праз якія магло-б прабіцца абмежаванне выбарчых праў для не-рускай нацыянальнасці і закрывае гэтыя лазейкі. Вось чаму, у прыватнасці, праект нашага Выбарчага закона прадугледжвае, што выбарчыя бюлетэні друкуюцца на мове насельніцтва адпаведнай выбарчай акругі (арт. 68). І ў гэтых дэталях наш праект адрозніваецца ад заканадаўчай практыкі, напрыклад, Злучаных Штатаў Амерыкі, дзе Паўднёвыя Штаты з вялікім негрыцянскім насельніцтвам устанавілі для выбаршчыкаў патрабаванне граматнасці ў англійскай мове і на гэтай падставе не менш 2 мільёнаў неграў пазбавілі выбарчага права.

Нарэшце, праект Выбарчага закона прадугледжвае рад гарантый для выбаршчыкаў:

спіс выбаршчыкаў павінен быць выстаўлен за 30 дзён да выбараў да ўсеагульнага агляду і праверкі (арт. 13);

выканаўчы камітэт Совета дэпутатаў працоўных абавязан вырашаць не больш, чым у 3-дзенны тэрмін любую скаргу грамадзян на няправільнасці ў спісах выбаршчыкаў (артыкулы 16, 17 і 18);

апошняе слова па скаргах на няправільнасці ў спісе выбаршчыкаў праект прадастаўляе народнаму суду, які абавязан у трохдзенны тэрмін у адкрытым судовым пасяджэнні з выклікам заявіцеля і прадстаўніка Совета разгледзець скаргу грамадзяніна. Рашэнне народнага суда абавязкова для адпаведнага Совета (артыкулы 18 і 19).

Так справа абстаіць з забеспячэннем прынцыпа ўсеагульнага выбарчага права,—такога сапраўды ўсеагульнага выбарчага права, якое забяспечвае наш выбарчы закон у адпаведнасці са Сталінскай Канстытуцыяй, не ведае ні адна буржуазна-дэмакратычная дзяржава. **(Апладысменты.)**

Пераходжу да пытання аб тым, як забяспечваецца ўстаноўленае Канстытуцыяй СССР **роўнае** выбарчае права.

Праект Выбарчага закона забяспечвае пры выбарах у Совет Саюза і ў Совет Нацыянальнасцей роўнасць голасу рабочага і селяніна.

Выбарчая акруга па выбарах у Совет Саюза складаецца па прынцыпу: 300.000 насельніцтва на акругу—аднолькава для горада і вёскі, аднолькава і для рабочых і для сялян. Кожная выбарчая акруга па выбарах у Совет Саюза пасылае аднаго дэпутата (арт. 21).

Такая арганізацыя выбарчых акруг выключае няроўнасць выбарчых акруг, якая ёсць, напрыклад, ва Францыі, дзе 1-шы ўчастак буржуазнай 6-й акругі Парыжа з 8.000 выбаршчыкаў пасылае аднаго дэпутата,—аднаго-ж дэпутата пасылае 2-гі ўчастак акругі Корбей з 50.000 выбаршчыкаў, размешчаны ў пролетарскім прадмесці Парыжа.

Так забяспечваецца роўнасць усіх грамадзян СССР пры выбарах у Совет Саюза, дзе, як указаў таварыш Сталін, прадстаўлены **агульныя** інтарэсы **ўсіх працоўных незалежна ад іх нацыянальнасці.** Выбарчы закон забяспечвае роўнасць усіх саюзных рэспублік, роўнасць усіх аўтаномных рэспублік, роўнасць усіх аўтаномных абласцей, роўнасць усіх нацыянальных акруг пры выбарах у Совет Нацыянальнасцей, які, як указаў таварыш Сталін у сваім дакладзе аб Канстытуцыі СССР, мае сваёй задачай адлюстроўваць **асобыя** спецыфічныя інтарэсы, звязаныя з нацыянальнымі асаблівасцямі нацыянальнасцей СССР.

Выбарчая акруга па выбарах у Совет Нацыянальнасцей складаецца па прынцыпу: 25 акруг па кожнай саюзнай рэспубліцы, 11 акруг па кожнай аўтаномнай рэспубліцы, 5 акруг па кожнай аўтаномнай вобласці і адна выбарчая акруга ў кожнай нацыянальнай акрузе. Кожная выбарчая акруга па выбарах у Совет Нацыянальнасцей таксама пасылае аднаго дэпутата (арт. 22).

Нарэшце, у мэтах забеспячэння роўнага выбарчага права праект «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» забараняе ўнясенне каго-б там ні было з выбаршчыкаў больш, чым у адзін выбарчы спіс (арт. 11).

Канстытуцыяй установлена прамое выбарчае права.

Адпаведна Выбарчы закон прадугледжвае, што ўсе дэпутаты як у Совет Саюза, так і ў Совет Нацыянальнасцей выбіраюцца шляхам прамых выбараў. Кожны выбаршчык галасуе непасрэдна за таго ці іншага кандыдата як у Совет Саюза, так і ў Совет Нацыянальнасцей.

І ў гэтых адносінах наш праект «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» адрозніваецца ад выбарчых парадкаў у радзе буржуазна-дэмакратычных краін, якія арганізуюць звычайна адну з палат не дэмакратычным шляхам, ці адмаўляючыся ад прынцыпа прамога выбарчага права (як, напрыклад, ва Францыі пры выбарах сената), ці фарміруючы другую палату не шляхам выбрання, а шляхам назначэння, як гэта мае месца ў Англіі ў адносінах палаты лордаў.

Канстытуцыяй СССР, нарэшце, установлена тайнае галасаванне.

Адпаведна Выбарчы закон устанаўлівае такую тэхніку галасавання, якая забяспечвае тайну галасавання:

падача галасоў выбаршчыкамі праводзіцца шляхам апускання ў выбарчую скрынку выбарчых бюлетэняў, запячатаных у канверты (арт. 76);

для запаўнення бюлетэняў выдзяляецца спецыяльны пакой, у якім у часе галасавання забараняецца прысутнасць каго-б там ні было, у тым ліку і членаў Участковай выбарчай камісіі, апрача галасуючых (арт. 77);

пры допуску ў пакой для запаўнення бюлетэняў адначасова не-


Дзяржаўная бібліятэка БССР імя В. І. Леніна

калькіх выбаршчыкаў пакой павінен быць абсталёван перагародкамі ці шырмамі па ліку дапускаемых аднaчасова выбаршчыкаў (арт. 77);

выбаршчык асабіста апускае канверт з бюлетэнем у выбарчую скрынку (арт. 80);

бюлетэні, паданыя без канверта ці ў канверце неўстаноўленага ўзору, прызнаюцца несапраўднымі (арт. 90).

Так справа абстаіць з забеспячэннем у Выбарчым законе ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні. У адпаведнасці з тэкстам і духам Сталінскай Канстытуцыі праект «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» не абмяжоўваецца фіксаваннем фармальных праў грамадзян, а кожным сваім артыкулам праяўляе клопаты аб ажыццяўленні на справе гэтых праў грамадзян, якія ўсеагульным галасаваннем ствараюць вышэйшы орган дзяржаўнай улады СССР—Вярхоўны Совет СССР. **(Апладысменты.)**

II

## Як забяспечваецца права грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных на выстаўленне сваіх кандыдатаў

Пераходжу да пытання аб тым, як праект Выбарчага закона забяспечвае права грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных на выстаўленне сваіх кандыдатаў.

Працытую артыкул 56-ты Выбарчага закона, аснаваны на артыкуле 141 Канстытуцыі СССР:

> «Права выстаўлення кандыдатаў у Вярхоўны Совет СССР забяспечваецца за грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных—на падставе артыкула 141 Канстытуцыі СССР: за комуністычнымі партыйнымі арганізацыямі, прафесіянальнымі саюзамі, кааператывамі, арганізацыямі моладзі, культурнымі таварыствамі і іншымі арганізацыямі, зарэгістраванымі ва ўстаноўленым законам парадку».

Далей цытую артыкул 57-мы:

> «Права выстаўлення кандыдатаў ажыццяўляюць як цэнтральныя органы грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, так і іх рэспубліканскія, краявыя, абласныя і раённыя органы, таксама як агульныя сходы рабочых і служачых па прадпрыемствах, чырвонаармейцаў—па вайсковых часцях, а таксама агульныя сходы сялян па калгасах, рабочых і служачых соўгасаў—па соўгасах».

Гэтыя артыкулы маюць велізарнае значэнне—яны ўнесены па прапанове таварыша Сталіна; іх мэта—развіць, расшырыць, гарантаваць совецкую дэмакратыю. Прадастаўляючы права выстаўлення кандыдатаў у дэпутаты агульным сходам рабочых і служачых па прадпрыемствах, чырвонаармейцаў—па вайсковых часцях, а таксама агульным сходам сялян па калгасах, рабочых і служачых соўгасаў—па соўгасах, гэтыя артыкулы забяспечваюць сапраўды соцыялістычны дэмакратызм на выбарах у Вярхоўны Совет СССР.

Прапануемы праектам Выбарчага закона парадак рэгістрацыі кандыдатаў мае на мэце аблягчыць і спрасціць грамадскім арганізацыям і таварыствам працоўных выстаўленне сваіх кандыдатаў у дэпутаты ў Вярхоўны Совет СССР.

На Акруговыя выбарчыя камісіі ўскладаецца абавязак зарэгістраваць усіх без выключэння кандыдатаў у дэпутаты ў Вярхоўны Совет СССР, якія выстаўлены грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі

працоўных з захаваннем патрабаванняў Канстытуцыі СССР і «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» (арт. 60). Адмаўленне Акруговай выбарчай камісіі ў рэгістрацыі кандыдата ў Вярхоўны Совет СССР можа быць абскарджана ў двухдзённы тэрмін ў вышэйстаячую Выбарчую камісію (артыкулы 63 і 64).

Усе зарэгістраваныя кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР падлягаюць абавязковаму ўключэнню ў выбарчы бюлетэнь (арт. 66). Выбарчыя бюлетэні з пералікам усіх кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР Акруговыя выбарчыя камісіі абавязаны пераслаць усім Участковым выбарчым камісіям не пазней, чым за 15 дзён да выбараў (арт. 67).

Для выстаўлення сваіх кандыдатаў ад грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных патрабуецца толькі прадстаўленне пратакола схода ці пасяджэння, высунуўшага кандыдата па ўстаноўленай у артыкуле 61 форме.

Да кандыдатаў у дэпутаты не прад'яўляецца ніякіх асобых патрабаванняў, апрача ўказання ў пратаколе схода ці пасяджэння, высунуўшага кандыдата, прозвішча, імя і імя па бацьку кандыдата, яго ўзрост, месца жыхарства, партыйнасць, заняткі, а таксама асабістай згоды кандыдата ў дэпутаты галасавацца па данай выбарчай акрузе ад выставіўшай яго арганізацыі (арт. 61).

У пераважнай большасці буржуазных краін, якія нават афішыруюць дэмакратычныя асновы, грамадзяне падзяляюцца на актыўных і пасіўных, актыўнае і пасіўнае выбарчыя правы не супадаюць. Так, нават у Злучаных Штатах Амерыкі не могуць быць выбраны ў ніжнюю палату асобы маладзей 25 год, а ў верхнюю—маладзей 30 год; ва Францыі не могуць быць выбраны ў ніжнюю палату асобы, маладзей 25 год, а ў верхнюю—асобы маладзей 40 год; у Чэхаславакіі не могуць быць выбраны ў ніжнюю палату асобы маладзей 30 год, а ў верхнюю—асобы маладзей 45 год, і ў Нарвегіі не могуць быць выбраны як у ніжнюю, так і ў верхнюю палаты асобы маладзей 30 год. У адрозненне ад іх праект нашага Выбарчага закона не ведае ніякіх абмежаванняў па ўзросту для кандыдатаў у дэпутаты. Асобам, якія не маюць непрыемнасці пераваліць ужо за 40 год, наш Выбарчы закон прадастаўляе магчымасць быць выбранымі ў Вярхоўны Совет, калі яны заслужаць гэтага асабістымі здольнасцямі і карыснай працай для грамадства. У гэтым факце знаходзяць сваё адлюстраванне іншыя адносіны да моладзі ў совецкай краіне, чым у краінах буржуазных. Совецкая краіна дае сваёй моладзі роўныя правы не толькі на вытворчасці, але і ў кіраванні дзяржавай, не толькі ў праве выбіраць, але і ў праве быць выбранай.

Наш праект Выбарчага закона не патрабуе для кандыдата ў дэпутаты павялічанага цэнза аседласці і тым больш выключае такія абмежаванні дэмакратычных прынцыпаў, якія прымяняюцца, напрыклад, у Англіі, дзе патрабуецца ўнясенне залогу ў 150 фунтаў стэрлінгаў за кожнага высунутага кандыдата, або ва Францыі і Чэхаславакіі, дзе на кандыдата ўскладаецца, напрыклад, расход па аплаце кошту выбарчых бюлетэняў.

Праект нашага «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» у адрозненне ад такіх буржуазна-дэмакратычных краін прадугледжвае аплату ўсіх выдаткаў, у тым ліку і па друкаванню выбарчых бюлетэняў за кошт дзяржавы.

Не маемаснае становішча, не нацыянальнае паходжанне, не пол,

не службовае становішча, не ўзрост, а асабістыя здольнасці і асабістая праца кожнага грамадзяніна вызначаюць магчымасць выбрання таго ці іншага грамадзяніна ў Вярхоўны Совет СССР, роўна як у любы Совет дэпутатаў працоўных. (**Апладысменты.**)

Кожнай грамадскай арганізацыі і таварыству працоўных, якія высунулі кандыдата, зарэгістраванага ў Акруговай выбарчай камісіі, роўна як кожнаму грамадзяніну СССР, праект «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» забяспечвае права і фактычную магчымасць агітаваць за гэтага кандыдата на сходах, у друку і іншымі спосабамі, указанымі ў артыкуле 125 Канстытуцыі СССР, які гаворыць:

> «У адпаведнасці з інтарэсамі працоўных і ў мэтах умацавання соцыялістычнага ладу грамадзянам СССР гарантуецца законам:
>
> а) свабода слова,
>
> б) свабода друку,
>
> в) свабода сходаў і мітынгаў,
>
> г) свабода вулічных працэсій і дэманстрацый.
>
> Гэтыя правы грамадзян забяспечваюцца прадастаўленнем працоўным і іх арганізацыям друкарань, запасаў паперы, грамадскіх будынкаў, вуліц, сродкаў сувязі і іншых матэрыяльных умоў, неабходных для іх ажыццяўлення».

Так справа абстаіць з пытаннем аб парадку выстаўлення кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР.

З усяго вышэйпрыведзенага відаць, што праект Выбарчага закона пасляхова вырашае задачу гарантаваць грамадскім арганізацыям і таварыствам працоўных права вылучэння кандыдатаў.

Германскі-ж фашысцкі афіцыёз «Фелькішэр беобахтэр» у нумары ад 3 ліпеня малюе справу так, што наш Выбарчы закон быццам прадастаўляе права вылучэння кандыдатур толькі комуністычнай партыі і падпарадкаваным ёй арганізацыям, пры гэтым гэты афіцыёз фашысцкай германскай партыі спасылаецца нават на артыкул 56 праекта Выбарчага закона.

Мы тут ловім хлусоў на месцы злачынства!

Параўнайце гэтае сцверджанне з артыкуламі 56 і 57 праекта Выбарчага закона, мною ўжо працытаванымі, якія прадастаўляюць права выстаўлення кандыдатаў не толькі комуністычным партыйным арганізацыям, але і прафесіянальным саюзам, кааператывам, арганізацыям моладзі, культурным таварыствам і іншым арганізацыям, зарэгістраваным ва ўстаноўленым законам парадку, не толькі цэнтральным органам гэтых грамадскіх арганізацый і таварыствам працоўных, але і агульным сходам рабочых і служачых па прадпрыемствах, чырвонаармейцаў—па вайсковых часцях, а таксама агульным сходам сялян па калгасах, рабочых і служачых соўгасаў—па соўгасах.

Чаму-ж паны фашысты ў сваім афіцыёзе заяўляюць аб тым, быццам артыкул 56 забараняе каму-б там ні было, апрача комуністычнай партыі і падпарадкаваных ёй арганізацый, выстаўляць сваіх кандыдатаў? Ясна з гэтага адно: яны баяцца паведаміць праўду нават членам сваёй фашысцкай партыі аб нашым Выбарчым законе. (**Апладысменты.**) Яны баяцца праўды, яны баяцца таго, як-бы рабочыя і сяляне і нават некаторыя члены іх фашысцкай партыі не даведаліся-б аб тым, што на выбарах вышэйшага органа ўлады нашай краіны любое прадпрыемства, любы калгас і соўгас, любая вайсковая часць могуць выставіць сваіх кандыдатаў, за іх змагацца

і агітаваць. Яны баяцца параўнання з Выбарчым законам социялістычнай краіны сваіх выбарчых парадкаў, згодна якіх усіх кандыдатаў на выбарах па ўсёй краіне выстаўляе адзін Гітлер за ўвесь народ, ці італьянскіх фашысцкіх парадкаў, згодна якіх увесь спіс кандыдатаў у 400 чалавек выстаўляецца «фашысцкім советам», гэта значыць зноў-такі Мусаліні. Наконт гэтага, аднак, не шкодзіць успомніць старую рускую прыказку: «Праўда—што шыла ў мяшку: не утоіш». **(Працяжныя апладысменты.)** Між іншым: няхай папрабуюць паны фашысты, імянуючыя сябе нацыянал-социялістамі, а на справе—песняры сярэдневякоўя, мракабесся і іезуіцкага ордэна—прымяніць нашу выбарчую сістэму! Няхай папрабуюць прадаставіць на выбарах права выстаўлення кандыдатаў нават сваім фашысцкім прафесіянальным саюзам! Няхай дазволяць выставіць сваіх кандыдатаў калектывам рабочых, батракоў памешчыцкіх маёнткаў, радавых служачых іх устаноў! Што астанецца ад фашызма?! І пуху не будзе!! **(Працяжныя апладысменты.)**

На прыкладзе таго, як будуць выстаўляцца кандыдаты ў Вярхоўны Совет СССР, з усёй сілай дэманструецца зноў і зноў той факт, што советская дэмакратыя з'яўляецца дэмакратыяй нязмерна больш высокай і больш шырокай, больш перадавой у параўнанні з дэмакратыяй буржуазнай, што советская дэмакратыя, у адрозненне ад буржуазнай, не толькі не баіцца народу, не толькі не аддзяляе сябе ад народу, але зварочваецца да мас працоўных, прапануе працоўным выстаўляць сваіх кандыдатаў на заводах, фабрыках, у калгасах, соўгасах. Справа тут у тым, што большэвікі, як указаў таварыш Сталін,

> «... моцны тым, што трымаюць сувязь са сваёй мацерай, з масамі, якія парадзілі, узгадавалі і выхавалі іх. І пакуль яны трымаюць сувязь са сваёй мацерай, з народам, яны маюць усе шансы на тое, каб астацца непераможнымі». **(Працяжныя апладысменты.)**

III

## Арганізацыя выбараў

Самая арганізацыя выбараў і падліку галасоў распрацавана ў праекце «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» такім чынам, каб гарантаваць ажыццяўленне дэмакратыі на практыцы і абараніць грамадзян СССР ад усіх спроб сказіць рэзультаты галасавання.

Наш праект прадугледжвае апублікаванне спісаў выбарчых акруг адначасова з назначэннем дня выбараў (артыкулы 23 і 24), што дасць магчымасць пабудаваць выбарчыя акругі ў адпаведнасці з тым, як складзецца насельніцтва краіны да выбараў.

Праект «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» у пытанні аб арганізацыі выбарчых участкаў кіруецца задачай аблягчыць кожнаму грамадзяніну СССР ажыццяўленне яго выбарчага права. Гарады, прамысловыя пункты, буйныя сёлы і тэрыторыі сельсоветаў, якія налічваюць больш 2.000 жыхароў, падзяляюцца на выбарчыя участкі з разліку адзін выбарчы ўчастак на 1.500—2.000 насельніцтва. Тэрыторыя сельсовета, які налічвае не больш 2.000 жыхароў, як правіла, павінна складаць адзін выбарчы ўчастак.

Аднак, у кожнай станіцы, вёсцы, кішлаку, ауле, які налічвае ад 500, але не больш 2.000 жыхароў, арганізуецца асобны выбарчы ўчастак.

Для аддаленых паўночных і ўсходніх раёнаў, дзе пераважаюць дробныя паселішчы,—праект Выбарчага закона прапануе дапусціць арганізацыю выбарчых участкаў, пачынаючы са 100 чалавек насельніцтва. Гэта зроблена па просьбе работнікаў паўночных раёнаў, якія заявілі, што ў праціўным выпадку грамадзянам, якія жывуць у паўночных раёнах, прышлося-б для ажыццяўлення свайго выбарчага права прыязджаць за дзесяткі кілометраў, што не заўсёды даступна.

Для суднаў, якія знаходзяцца ў плаванні ў дзень выбараў, для больніц, санаторыяў, радзільных дамоў, дамоў інвалідаў праект лічыць магчымым арганізацыю выбарчых участкаў пры наяўнасці не менш 50 выбаршчыкаў.

Для вайсковых часцей і вайсковых злучэнняў праект прадугледжвае арганізацыю выбарчых участкаў з колькасцю не менш 50 і не больш 1.500 выбаршчыкаў. Такім чынам, будзе дадзена магчымасць прыняць удзел у выбарах самым дробным вайсковым часцям, якія ахоўваюць рубяжы СССР. Асобы, якія знаходзяцца ў арміі, але не ўваходзяць у вайсковыя часці ці вайсковыя злучэнні, як, напрыклад, работнікі Наркамата Абароны, згодна гэтага праекта, будуць прымаць удзел у галасаванні нараўне з астатнімі грамадзянамі СССР па месцу свайго жыхарства.

Выбары будуць адбывацца ў адзін з нерабочых дзён з 6 гадзін раніцы да 12 гадзін ночы. Як відаць, прыдзецца выбраць адну з нядзель, як нерабочы дзень у вёсцы. Пажадана пры гэтым выбраць тую нядзелю, з якою супадаў-бы выхадны дзень у горадзе.

Для падліку галасоў, для рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты, снабжэння выбаршчыкаў выбарчымі бюлетэнямі і ў мэтах забеспячэння няўхільнага выканання ў ходзе выбараў Выбарчага закона прапануецца стварыць выбарчыя камісіі: Цэнтральную, Выбарчыя камісіі саюзных і аўтаномных рэспублік, аўтаномных абласцей і нацыянальных акруг па выбарах у Совет Нацыянальнасцей, Акруговыя па выбарах у Совет Саюза, Акруговыя па выбарах у Совет Нацыянальнасцей і Ўчастковыя выбарчыя камісіі.

Каб забяспечыць сапраўдны народны кантроль за правядзеннем выбараў і ў асаблівасці за падлікам галасоў і выключыць усякую магчымасць злоўжыванняў, праект прапануе складаць усе выбарчыя камісіі, пачынаючы ад Цэнтральнай выбарчай камісіі і канчаючы Ўчастковымі, з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных з зацвярджэння адпаведнага Совета дэпутатаў працоўных. Такім чынам, праект прапануе адмовіцца ад выбарчых камісій, назначаемых Советамі. Замест прынцыпа назначэння праект прапануе ўвесці прынцып прадстаўніцтва ад грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных.

Функцыі выбарчых камісій, як відаць з папярэдняга, абмежаваны толькі задачамі, якія выцякаюць з неабходнасці забяспечыць няўхільнае выкананне Выбарчага закона ў ходзе выбараў: зарэгістраваць кандыдатаў, разаслаць выбарчыя бюлетэні, падлічыць галасы і сачыць за выкананнем Выбарчага закона. Ніякіх іншых функцый на выбарчыя камісіі не ўскладаецца, і ніякіх іншых праў ім не прадастаўляецца.

І ў гэтай частцы расперазаўшыяся хлусы з афіцыёза германскай фашысцкай партыі ашукваюць сваіх чытачоў. Яны пішуць у тым-жа нумары «Фелькішэр беобахтэр» ад 3 ліпеня, нібыта афіцыяльным выбарчым камісіям прадастаўлена права адхіляць без асобых труднасцей выбарчыя прапановы пярвічных арганізацый.

Я не буду затрудняць вас абвяржэннем гэтай хлусні. Паны фашысты нават не ўказваюць, з якога артыкула вычыталі яны сваё паведамленне—і гэта не выпадкова, бо яны вынайшлі неіснуючы артыкул у Выбарчым законе. Да падобных метадаў звярачаюцца людзі не ад добрага жыцця, відаць, хлусня ёсць умова для іх існавання.

Не адстаюць ад германскіх фашыстаў і іх польскія лакеі: газета «Ілюстрованы кур'ер цодзенны» у паведамленні ад 4 ліпеня з Масквы, а на справе, відаць, з Берліна, паведамляе, што праект Выбарчага закона нібыта дае ўрадавай выбарчай камісіі «права змяняць кандыдацкія спісы арганізацый». Што-ж—гэта нас не здзіўляе! Відаць, польскае фашысцкае яблычка ад германскай яблыні недалёка падае! **(Апладысменты, смех.)**

Каб ні адна скарга на тыя ці іншыя няправільнасці не выслізнула ад грамадскага кантролю, наш праект Выбарчага закона ўстанаўлівае цвёрды парадак разгляду рознага роду скарг.

Ад Участковай выбарчай камісіі патрабуецца ўключэнне ў пратакол галасавання кароткага зместу заяў і скарг, паданых ва Участковую выбарчую камісію і прынятых Участковай выбарчай камісіяй рашэнняў (арт. 93). Такое-ж патрабаванне прад'яўляецца да Акруговай выбарчай камісіі (арт. 102).

На Цэнтральную выбарчую камісію ўскладаецца разгляд скарг на няправільныя дзеянні Выбарчых камісій і вынясенне па скаргах канчатковых рашэнняў.

Некаторыя фармальнасці пры вызначэнні вынікаў выбараў, уведзеныя раздзелам VIII праекта Выбарчага закона, могуць здацца некаторым таварышам залішнімі і нават бюракратычнымі, але там, дзе пытанне ідзе аб стварэнні вышэйшага дзяржаўнага органа, неабходна найвялікшая дасканаласць, тут ніякая фармальнасць не будзе залішняй, калі яна стварае дадатковую гарантыю дакладнага выканання Канстытуцыі і Выбарчага закона: выбарчыя бюлетэні, якія ўключаюць усіх выстаўленых па данай акрузе грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных кандыдатаў у дэпутаты, выдаюцца выбаршчыкам у памяшканні Участковай выбарчай камісіі (арт. 78); на кожнага кандыдата ў дэпутаты вядзецца падліковы ліст у двух экземплярах сакратаром камісіі і ўпаўнаважаным на тое членам Участковай выбарчай камісіі (арт. 89); Участковая выбарчая камісія пасылае ў Акруговую выбарчую камісію не толькі пратакол галасавання, але і абодва экземпляры падліковых лістоў на кожнага кандыдата (арт. 95); Совет дэпутатаў працоўных абавязан хаваць выбарчыя бюлетэні аж да зацвярджэння мандатаў Вярхоўным Советам СССР (арт. 97) і т. д.

Задачу забяспечыць правільнасць падліку галасоў праследуе прадугледжваемая праектам публічнасць падліку галасоў. Гэта публічнасць дасягаецца ўжо самім складам выбарчых камісій, якія арганізуюцца не з асоб, назначаных органамі ўлады, а з асоб, высунутых грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных. Праект Выбарчага закона, аднак, не абмяжоўваецца гэтым і прадугледжвае права прысутнасці пры падліку галасоў у памяшканнях як Участковай выбарчай камісіі, так і Акруговай выбарчай камісіі, спецыяльна на тое ўпаўнаважаных прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, а таксама прадстаўнікоў друку (арт. 85 і 99).

Мэта—забяспечыць дакладнае волевыяўленне працоўных—праследуе прапануемае праектам Выбарчага закона правіла, згодна якому

выбраным лічыцца толькі кандыдат, які атрымаў абсалютную большасць галасоў,—калі ні адзін з кандыдатаў на выбарах не атрымаў абсалютнай большасці галасоў, то абавязкова (не пазней, чым у двухтыднёвы тэрмін) перабалатыроўка двух кандыдатаў, якія атрымалі найбольшую колькасць галасоў (арт. 107).

Тую-ж мэту—забяспечыць дакладнае волевыяўленне працоўных—праследуе правіла, згодна якому ў тых выбарчых акругах, дзе паданая колькасць галасоў па выбарчай акрузе складае менш паловы выбаршчыкаў, выбары абвяшчаюцца несапраўднымі і праводзяцца новыя выбары.

Нарэшце, праект прапануе ўстанавіць найстражэйшае пакаранне для ўсіх, хто паспрабуе парушыць на выбарах Канстытуцыю СССР ці «Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР».

Я канчаю характарыстыку Выбарчага закона. Я думаю, што вы згодзіцеся з тым, што асноўнай асаблівасцю праекта Выбарчага закона, у поўнай адпаведнасці з характарам Сталінскай Канстытуцыі, з'яўляецца «яго паслядоўны і да канца вытрыманы дэмакратызм» (Сталін). **(Апладысменты.)**

Совецкі Выбарчы закон не толькі прадастаўляе выбарчыя правы грамадзянам, але і стварае ўсе неабходныя ўмовы для таго, каб яны маглі ажыццявіць гэтыя правы на справе і прыняць актыўны ўдзел у выбарах.

Выбарчы закон скарыстоўвае ўсё лепшае, што стварылі ў гэтай галіне буржуазна-дэмакратычныя краіны, і разам з тым, ператвараючы фармальныя правы грамадзян у правы сапраўдныя, у правы гарантаваныя, робіць велізарны крок наперад у адпаведнасці з умовамі соцыялістычнай дэмакратыі, якая змяняе дэмакратыю буржуазную. **(Апладысменты.)**

## IV

## Аб недахопах у рабоце Советаў

Таварышы, нашы Советы з'яўляюцца формай дзяржаўнага кіравання непараўнана больш высокай і перадавой, чым любая найбольш дэмакратычная буржуазная форма кіравання. Народныя масы любяць і цэняць Советы, як органы сваёй народнай улады. Праз Советы ажыццяўляецца рабоча-сялянскі саюз, праз Советы рабочы клас ажыццяўляе кіраўніцтва сялянствам, праз Советы працоўныя прымаюць удзел у кіраванні краінай, у соцыялістычным будаўніцтве. У Советах і праз Советы ажыццяўляецца бесперапынная, гібкая і моцная сувязь беспартыйных з комуністамі. Советы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі пабудавалі соцыялістычнае грамадства, ператварылі адсталую Расію ў магутную дзяржаву, адстаялі, наперакор прошукам імперыялістаў усяго свету і іх трацкісцка-бухарынскіх агентаў і шпіёнаў, незалежнасць краіны.

Аднак, з гэтага ні ў якім разе не выцякае, што ў нас няма ўстаноў, якія працуюць дрэнна,—у нас іх нямала; з гэтага не выцякае, што ў нас няма Советаў дэпутатаў працоўных, дрэнна выконваючых свае абавязкі,—у нас іх нямала; з гэтага не выцякае, што ў нас няма людзей, якія дрэнна працуюць, адарваліся ад мас, забюракраціліся,—у нас іх, нажаль, таксама нямала. Значыць,—і гэта няўхільна ўкараняе ў нашу свядомасць таварыш Сталін,—страта была-б нанесена Совецкай уладзе, калі-б дасягненні Советаў паслужылі падставай у час падрыхтоўкі выбараў для прытуплення пільнасці і прыглушэння

крытыкі і самакрытыкі недахопаў у рабоце тых ці іншых кіраўнікоў Советаў, тых ці іншых кандыдатаў у дэпутаты.

Пачну з сельскіх Советаў. У многіх сельскіх советах работа па спагнанню грашовых і натуральных падаткаў ператварылася ў асноўную работу, а ўсе астатнія галіны работы—гаспадарчая, культурная і палітычная—ператварыліся ў другарадныя. Органы Наркамфіна і Камітэта загатовак незаконна прабуюць ператварыць такія Советы ў свой бясплатны падсобны апарат па спагнанню падаткаў.

Факт, што роля ўпаўкамзага вельмі часта зводзіцца да таго, што ён снабжае сельсоветы бланкамі, ставіць факсіміле і пячатку пад запоўненымі сельсоветам абавязкамі па пастаўках і ў выпадку нездавальняючага ходу загатовак патрабуе праз райвыканком ці райком пакарання віноўнага старшыні сельсовета. У сваю чаргу многія райфа вельмі зручна для сябе звялі сваю работу да таго, што яны напамінаюць сельсоветам аб тэрмінах унясення таго ці іншага падатку, выклікаюць да сябе старшынь сельсоветаў для накачкі, прапануюць ім узмацніць збор грашовых сродкаў і зноў-такі праз райком ці РВК патрабуюць пакарання таго ці іншага старшыні сельсовета.

Такая сістэма тым больш няправільна, што ў падатковых арганізацый, а таксама ў загатоўчых арганізацый, ёсць не малы апарат, які аплочваецца дзяржавай.

Не дзіўна, што ў некаторых сельскіх Советах страцілася ўяўленне аб тым, што ёсць іншыя галіны работы, столькі-ж важныя, як і падатковая. Факт, напрыклад, што з 73 пастаноў і распараджэнняў Кармілаўскага сельсовета, Кармілаўскага раёна, Омскай вобласці, няма ні адной аб школе, аб фельчару і т. д.

Гэта не значыць, вядома, што Советам трэба забараніць займацца падаткамі. Нават калі Наркамфін і Камітэт загатовак пачнуць працаваць праз свой апарат, як гэтага патрабуе ўрад, то гэта не зніме з Советаў адказнасць за своечасовы збор усіх падаткаў. Справа ідзе аб тым, каб побач з падатковай работай,—як не менш важнай, а ў іншых выпадках і больш важнай,—Советы вялі работу па абслугоўванню насельніцтва ў галіне гандлю, культуры, аховы здароўя і т. д.

Практыка-ж сканцэнтравання асобных Советаў толькі на падатковай рабоце выклікае немінуча адрыў сельскіх Советаў ад насельніцтва, прыніжэнне іх ролі, як гаспадарчых, палітычных і культурных кіраўнікоў.

Вось чым выклікана вядомае рашэнне СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб выключэнні падатковай работы з Советаў і ўскладанні падатковай і загатоўчай работы непасрэдна на апараты Камітэта загатовак і Наркамфіна.

Пераходжу да недапушчальнай практыкі, якая мае месца ў радзе гарадоў, практыкі, якая вядзе да ператварэння некаторых гарадскіх Советаў у падсобныя апараты да раённых выканкомаў. Пад выглядам скарачэння штатаў у радзе пунктаў, дзе горад супадае з раённым цэнтрам, гарадскія Советы маюць звычайна толькі комунальны, а часам і фінансавы аддзелы, а больніцы, школы, магазіны выключаны з падпарадкавання горсоветаў і перададзены ў прамое падначаленне адпаведных аддзелаў раённых выканаўчых камітэтаў. Так, у Каломне, дзе ёсць буйны машына-будаўнічы завод і 70000 насельніцтва, школы, больніцы, установы соцыяльнага забеспячэння, магазіны і пякарні, сталовыя падначалены непасрэдна аддзелам РВК і выключаны з падначалення горсовета. Горсовет мае толькі комунальны і фінансавы аддзелы. У такім-жа становішчы знаходзіцца Разань, былы губернскі

горад з насельніцтвам у 70.000, у тым ліку 20.000 рабочых і служачых. Разанскі горсовет мае толькі комунальны і фінансавы аддзелы, прычым апошні створан толькі нядаўна.

Няма чаго гаварыць, што падобная практыка звужэння правоў горсоветаў пярэчыць Канстытуцыі, якая прадугледжвае падначаленне мясцовых гаспадарчых і культурна-палітычных устаноў адпаведным мясцовым Советам і прадугледжвае, у прыватнасці, стварэнне ў гарадскіх Советах аддзелаў фінансавага, комунальнай гаспадаркі, унутранага гандлю, аховы здароўя, народнай асветы, соцыяльнага забеспячэння, агульнага, планавай камісіі, сектара кадраў пры старшыні выканкома і, апрача таго, у адпаведнасці з асаблівасцямі горада: аддзелаў мясцовай прамысловасці і зямельнага.

Падобная практыка асабліва шкодна ў сучасны момант, калі гарады падвоілі за адно дзесяцігоддзе сваё насельніцтва і новыя мільёны рабочых і служачых іменна праз советы праходзяць школу дзяржаўнага кіравання. Падобная практыка асабліва недапушчальна пасля таго, як пытанне аб неабходнасці ўзняць кіруючую ролю рабочага класа з такой сілай было растлумачана таварышом Сталіным на лютаўска-сакавіцкім Пленуме ЦК ВКП(б).

Адсюль вывад аб неабходнасці знішчыць маючыяся недахопы ў рабоце горсоветаў, арганізаваць у іх аддзелы, прадугледжаныя Канстытуцыяй, падпарадкаваць ім мясцовыя гаспадарчыя і культурна-палітычныя ўстановы, узняць іх значэнне з тым, каб яны былі для Советаў у сельскіх мясцовасцях узорам таго, як трэба ставіць совецкую работу, як трэба арганізоўваць народны кантроль за работай выканаўчых органаў, як трэба згуртоўваць народную масу вакол Советаў, як трэба кіраваць культурна-палітычным і гаспадарчым будаўніцтвам на сваёй тэрыторыі.

Мы маем у Советах такі выдатны апарат для ўцягнення народных мас у кіраванне, якім з'яўляюцца секцыі Советаў. Мільёны дэпутатаў лічацца ў секцыях Советаў. З велізарнай энергіяй і прагнасцю працаваць на карысць народу запісваюцца, як правіла, дэпутаты Советаў у секцыі. Праверка, аднак, паказвае, што нярэдка члены секцый, з натхненнем прыступіўшыя да работы ў секцыях, хутка да яе становяцца абыякавымі, пачынаюць унікаць пасяджэнняў секцый,—секцыі развальваюцца, астаюцца на паперы. Справа тут у тым, што загадчыкі аддзелаў, кіраўнікі адпаведных галін гаспадаркі Советаў часта ператвараюць секцыі ў свой падсобны апарат, бяссільны што-небудзь змяніць у рабоце адпаведнага аддзела ці кіраўніцтва. Справа ў тым, таксама, што склад секцый Советаў Советамі не выбіраецца,—дэпутаты Советаў распісваюцца звычайна па секцыях апаратам аргаддзелаў Советаў.

Мала таго, у тых шматлікіх выпадках, калі секцыі Советаў праяўляюць ініцыятыву, ускрываюць недахопы, патрабуюць іх выпраўлення, крытыкуюць загадчыкаў,—загадчыкі нярэдка пачынаюць іх асаджваць, ігнараваць, перастаюць хадзіць на секцыі, пасылаюць замест сябе на секцыі пяціступенных работнікаў і тым самым паступова зводзяць секцыі на-нішто.

Я мог-бы тут прывесці шматлікія прыклады выдатнай работы секцый: па Маскве, па Ленінграду, Днепрапетроўску, Ташкенту, але, на жаль, па ўсіх гэтых пунктах я вымушан быў-бы адначасова прывесці шматлікія факты ігнаравання секцый з боку тых ці іншых бюракратаў, якія ўвабражаюць, што стаяць вышэй адказнасці перад Советамі.

Вось чаму трэба абмеркаваць пытанне аб замене цяперашніх і нікім не выбраных секцый у Советах камісіямі ці аб спалучэнні секцый з камісіямі, выбранымі Советамі па асноўных пытаннях гаспадарчага, культурнага і палітычнага жыцця, напрыклад: бюджэтнай, школьнай, аховы здароўя, жыллёвай, комунальнай, па гандлю, сельскагаспадарчай і іншых з тым, каб камісіям было прадастаўлена права кантролю за ўсімі без выключэння справамі і паперамі адпаведнага аддзела ці кіраўніцтва Совета, а загадчыкі былі абавязаны па запытаннях членаў камісіі даваць свае тлумачэнні не больш чым у 2-дзенны тэрмін.

Паўстае таксама пытанне аб прадастаўленні камісіям Советаў наступнага права: ва ўсіх выпадках, калі камісія прызнае работу загадчыка аддзела нездавальняючай, старшыня Совета абавязан у тыднёвы тэрмін склікаць пленум Совета, які заслухоўвае даклад камісіі і тлумачэнні загадчыка і вырашае, якія меры неабходны для выпраўлення становішча ці, у выпадку непапраўнасці адпаведнага загадчыка аддзела, пытанне аб звальненні загадчыка.

Некаторыя загадчыкі аддзелаў, якія ўяўбражаюць сябе незаменнымі манапалістамі і спецыялістамі ці то па ахове здароўя, па фінансах і па земляробству, ці па гандлю, магчыма, адчуюць сябе пакрыўджанымі такой прапановай, якая ўзмацняе кантроль радавых дэпутатаў Совета і Совета ў цэлым за іх работай. Што-ж—няхай сабе крыўдзяцца!

Усе нашы работнікі павінны зразумець, што няма людзей, якія маглі-б прэтэндаваць на бескантрольнасць у рабоце, што падкантрольнасць любога работніка выцякае з асноў совецкай улады, што толькі з дапамогай кантролю знізу, які дапаўняе кантроль і кіраўніцтва зверху, можна паляпшаць работу Советаў. **(Апладысменты.)**

Адным з буйных недахопаў у рабоце Советаў з'яўляецца парушэнне ўстаноўленага дэмакратычнага парадку вядзення спраў. Бываюць, напрыклад, такія Советы і іх выканаўчыя камітэты, якія засядаюць і прымаюць рашэнні без наяўнасці кворума.

Факт, што ўсе пасяджэнні прэзідыума Одэскага горсовета за 1936 і 1937 гады, дзве трэці ўсіх пасяджэнняў Днепрапетроўскага облвыканкома праходзілі пры адсутнасці кворума.

Важнейшыя рашэнні, якія датычаць жыватрапечучых інтарэсаў працоўных, прымаюцца нярэдка апытаннем. Факт, што больш двух трэціх усіх пытанняў, вырашаных Чэлябінскім облвыканкомам, больш 90 проц. Орджанікідзенскім крайвыканкомам, больш 70 проц. Свердлоўскім облвыканкомам і больш 80 проц. Азова-Чорнаморскім крайвыканкомам былі вырашаны апытаннем.

З такой практыкай рашэння совецкіх спраў прэзідыумамі і выканаўчымі камітэтамі звычайна звязваецца падмена советаў іх выканаўчымі камітэтамі, выканаўчых камітэтаў—прэзідыумамі і выкарыстанне пленумаў Советаў пераважна для балбатні па тых ці іншых урачыстых выпадках.

Факт, што з 9 пленумаў Днепрапетроўскага горсовета ў 1936 годзе 4 было «урачыстых», з 10 пленумаў Омскага горсовета ў 1936 годзе 5 было «урачыстых», з 15 пленумаў Запарожскага горсовета—11 «урачыстых».

Ёсць таксама, праўда, параўнаўча нешматлікія выпадкі, калі пленумы Советаў падмяняюцца скліканнем так званых «Советаў з актывам».

Да чаго прыводзяць так званыя пасяджэнні з актывам, відаць на прыкладзе тыповага для такіх пасяджэнняў пасяджэння Закабякін-

скага сельсовета Яраслаўскай вобласці з актывам: з 36 дэпутатаў Совета на пасяджэнні ўдзельнічаюць 12, затое прымаюць удзел у пасяджэнні і галасуюць 60 так званых «актывістаў».

Гэтыя і падобныя ім парушэнні дэмакратычнага парадку вядзення спраў недапушчальны, у асаблівасці таму, што яны ствараюць глебу для безадказнасці совецкіх работнікаў, затрудняюць кантроль за работай совецкіх работнікаў.

Некалькі слоў аб парадку разгледжання скарг некаторымі кіраўнікамі Советаў. Ёсць кіраўнікі Советаў і ў асаблівасці загадчыкі аддзеламі выканкомаў, якія месяцамі не прымаюць радавых грамадзян і нават не маюць устаноўленых прыёмных гадзін. Скаргі радавых грамадзян у некаторых выканкомах і аддзелах месяцамі ляжаць без разгледжання. Мала таго, скаргі нярэдка перасылаюцца на ўгледжанне тых самых органаў і асоб, на дзеянні якіх паступілі скаргі.

Няма чаго гаварыць аб тым, што падобная практыка пагардлівых адносін і ігнаравання скаргаў радавых грамадзян нічога агульнага не мае з совецкай сістэмай. Неабходна, відаць, увесці ў абавязковую практыку ўстанаўленне штодзенных прыёмных гадзін (не менш двух гадзін у дзень) для прыёму скаргаў, заяў і патрабаванняў радавых грамадзян як у старшынь выканкомаў, так і ў загадчыкаў аддзеламі з забаронай у гэтыя гадзіны праводзіць якія-б там ні было пасяджэнні, уходзіць ці прымаць работнікаў апарата.

Неабходнасць найстражэйшага выканання законаў ігнаруецца некаторымі кіраўнікамі выканкомаў Советаў. Агульнадзяржаўная законнасць падмяняецца такімі кіраўнікамі Советаў сваім уласным поглядам.

Прыкладам парушэння законаў можа служыць практыка выдання абавязковых пастаноў некаторымі мясцовымі Советамі, а таксама практыка выдання інструкцый у выкананне законаў некаторымі наркаматамі.

Факт таксама, што гэту практыку парушэння законаў скарысталі нашы ворагі ва ўсіх тых выпадках, калі ім удавалася пралезці на тыя ці іншыя пасты ў Советах. Гэта і не дзіўна: совецкія-ж законы, якія абараняюць рабочых і сялян, ненавісны панам рэстаўратарам капіталізма і агентам германа-японскага фашызма, якім патрэбны законы фашысцкія, г. зн. накіраваныя супроць рабочых і сялян. Трацкісцкія бандыты, пралезшыя ашуканчым шляхам у кіраўніцтва Магнітагорскім горсоветам, аштрафавалі, напрыклад, за адзін год больш 5.500 чалавек, правакуючы гэтым шляхам нездавальненне насельніцтва супроць совецкай улады.

Асуджаны зараз совецкім судом старшыня Лепельскага райвыканкома, пад кіраўніцтвам трацкіста і бандыта, пралезшага ў кіраўніцтва Лепельскім райкомам, вядомы з апублікаванай у друку справаздачы аб судовым працэсе над віноўнікамі лепельскіх агіднасцей, сам накладаў на сялян беззаконныя штрафы і сам-жа прадаваў з таргоў маёмасць сялян за няўзнос накладзеных ім штрафаў.

Само сабой разумеецца, што практыка падмены законаў поглядам той ці іншай групы бюракратаў з'яўляецца справай антысовецкай. Селянін, як і любы, аднак, грамадзянін, мяркуе аб уладзе не толькі па таму, які закон,—будзь закон выдатны, але калі выканаўца скажае яго ў сваёй дзейнасці,—селянін будзе меркаваць аб уладзе ў першую чаргу на падставе дзеянняў выканаўца.

Напомню ў сувязі з гэтым вядомыя ўказанні па гэтаму поваду таварыша Леніна і таварыша Сталіна:

Таварыш Ленін у пісьме на імя таварыша Сталіна для Палітбюро па поваду пракуратуры пісаў:

... законнасць не можа быць калужская і казанская, а павінна быць адзіная ўсерасійская і нават адзіная для ўсёй Федэрацыі совецкіх рэспублік...

... законнасць павінна быць адна, і асноўным злом ва ўсім нашым жыцці і ва ўсёй нашай некультурнасці з'яўляюцца патуранне спрадвеку-рускага погляду і прывычкі поўдзікуноў, якія жадаюць захаваць законнасць калужскую ў адрозненне ад законнасці казанскай» (**Ленін**, т. XXVII, стар. 298-299).

Ва ўсіх у памяці бічуючая ацэнка таварышом Сталіным на XVII з'ездзе партыі людзей, якія не лічаць сваім абавязкам выконваць рашэнні партыі і ўрада і якія разбураюць, такім чынам, асновы партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны.

Бясспрэчна, што на выбарах недахопы ў рабоце Советаў тых ці іншых кандыдатаў, тых ці іншых устаноў будуць узяты пад суровую крытыку.

Задача заключаецца ў тым, каб зразумець недахопы ў рабоце нашых Советаў, усвядоміць іх і падняць на выбарах масы на іх знішчэнне.

Задача заключаецца ў тым, каб народ правяраў кандыдатаў у дэпутаты, каб у вышэйшы орган нашай улады—Вярхоўны Совет СССР прайшлі толькі людзі, адданыя справе соцыялізма, адданыя справе партыі Леніна—Сталіна, каб у Советы не прайшоў ні адзін з замаскаваўшыхся ворагаў народу.

Злавіць ворагаў рабочага класа і сялянства нельга, дзейнічаючы толькі зверху, толькі аднымі вачамі комуністаў, кіруючых тымі ці іншымі органамі,—ворагаў трэба лавіць і знізу і зверху, бо комуністы, якія кіруюць тымі ці іншымі органамі, усяго ўбачыць не могуць. Злавіць і раздавіць ворагаў Советаў, ворагаў рабочых і сялян можна толькі разгарнуўшы дэмакратыю ва-ўсю, як гэтага патрабуе партыя, як гэта патрабуе таварыш Сталін, як гэта патрабуе Сталінская Канстытуцыя. **(Апладысменты.)**

У сувязі з гэтым дазвольце напомніць словы таварыша Сталіна ў гутарцы з Рой Говардам:

> «... выбарчая барацьба будзе ажыўленай, яна будзе працякаць наўкол мноства вастрэйшых пытанняў,—галоўным чынам пытанняў практычных, якія маюць першаступеннае значэнне для народу. Наша новая выбарчая сістэма падцягне ўсе ўстановы і арганізацыі, прымусіць іх палепшыць сваю работу. Усеагульныя, роўныя, прамыя і тайныя выбары ў СССР будуць бізуном у руках насельніцтва супроць дрэнна працуючых органаў улады».

Так сказаў таварыш Сталін. Гэта значыць, што выбары будуць суровай праверкай, суровым экзаменам для совецкіх работнікаў—хто яго не вытрымае, паляціць,—і па заслугах!

## V

## Аб вылучэнні новых кадраў

Пераходжу да пытання, якое мае асабліва істотнае значэнне з пункту погляду надыходзячых выбараў у Советы,—да пытання аб падборы кадраў у Советах. Советы з'яўляюцца арганізацыямі, праз якія мільёны людзей узнімаюцца да кіравання. Бясспрэчна, што ў галіне вылучэння новых кадраў праз Советы можна, аднак, зрабіць яшчэ больш.

Нярэдка маюць месца факты, даволі добра вядомыя, калі груба парушаецца важнейшая ўмова ўмацавання Советаў, а іменна: бесперапыннае папаўненне Советаў і іх выканаўчых органаў новымі маладымі сіламі, якія вырастаюць у рабочым класе і сялянстве.

На жаль, практыка недастатковага вылучэння маладых растучых сіл мае месца і ў такіх Советах, дзе на чале стаяць найлепшыя работнікі. У такіх выпадках гэта практыка выклікаецца зусім неабгрунтаванай боязню новых людзей. Многія з таварышоў, якія недастаткова вылучаюць новыя сілы, апраўдваюцца тым, што быццам-бы няма кадраў, а на справе яны проста часта баяцца: як-бы гэтыя нававылучаныя людзі не аказаліся лепшымі работнікамі, чым яны самі.

Тое, што гаварыў нам таварыш Сталін на Пленуме Цэнтральнага Камітэта партыі,—калі-б мы займаліся вылучэннем людзей, то быў-бы лішак кадраў—больш за ўсё, я думаю, адносіцца іменна да Советаў!

Сярод работнікаў фабрык, заводаў, транспарту, соўгасаў, калгасаў, МТС, нашых совецкіх устаноў ёсць сотні і тысячы людзей, якія даўно перараслі тую работу, якую яны робяць,—трэба толькі падвучыць іх і дапамагчы ім, і мы атрымаем сапраўдных работнікаў, неабходных Советам людзей, здольных абараніць інтарэсы рабочага класа і сялянства супроць любога ворага працоўных, людзей дзелавых, якія ўмеюць і жадаюць працаваць, а не балбатаць, людзей, адданых справе соцыялізма і інтарэсам працоўных,—як комуністаў, так і беспартыйных.

Далей аб беспартыйных. У той час як мільёны беспартыйных рабочых, сялян, інтэлігентаў сталі сапраўднымі непартыйнымі большэвікамі, аб якіх гаварыў таварыш Сталін, лік беспартыйных у складзе выканкомаў і асабліва ў складзе кіраўнікоў аддзелаў і іх намеснікаў зусім недастатковы. Ёсць кіраўнікі Советаў, якія ганарацца, як «дасягненнем», тым, што ў іх усе кіраўнікі аддзелаў і іх намеснікі—члены партыі. Ці трэба даказваць, што пагардлівыя адносіны да беспартыйных і заціранне беспартыйных пярэчыць традыцыям і палітыцы ленінска-сталінскай большэвіцкай партыі. Ці трэба даказваць, што на чале многіх зямельных органаў і органаў народнай асветы, напрыклад, лепш было-б мець чэсных і вопытных беспартыйных, чым людзей, якія сядзяць на гэтых пастах, адзінай вартасцю якіх нярэдка з'яўляецца толькі тое, што ў іх ёсць партыйны білет.

Далей аб жанчынах. У той час як мільёны жанчын у СССР даюць узоры адданасці справе рабочага класа і калгаснага сялянства, узоры свядомасці, асабістай чэснасці і здольнасці быць кіраўнікамі, роля жанчыны ў Советах, і асабліва ў выканкомах, у рэзультаце бюракратычных скажэнняў у апараце недастаткова расце. Вядома, жанчын у нашых Советах у сто раз больш, чым у буржуазных парламентах,—аднак, гэтага недастаткова.

Характэрна між іншым, што ў складзе дэпутатаў Советаў чвэрць усяго складу дэпутатаў Советаў складаюць жанчыны, але ў складзе старшынь РВК жанчын толькі 2%, у складзе старшынь горсоветаў—6%, у складзе старшынь сельсоветаў—6%; ні адной амаль жанчыны не выбрана ў якасці старшыні ці намесніка старшыні край.(обл.)выканкома. Трэба сказаць, што і Масква тут не служыць асабліва добрым прыкладам. У складзе Маскоўскага Совета 578 жанчын, а сярод кіраўнікоў аддзелаў і прэзідыума Совета толькі дзве жанчыны. У 23 раённых Советах Масквы няма ні адной жанчыны старшыні Совета і толькі адна—нам. старшыні Совета.

Падобная практыка недаацэнкі жанчыны нічога агульнага не мае з праграмай ленінска-сталінскай партыі, якая ў вызваленай соцыялізмам жанчыне бачыць велізарную крыніцу сіл для ўмацавання і паляпшэння работы Советаў. Варта ўспомніць любую з калгасных нарад, што праходзілі тут, у Крэмлі, у гэтай зале, каб не шукаць іншых доказаў наяўнасці велізарных рэзерваў, якія вырасціла наша краіна ў асобе жанчын. **(Апладысменты.)**

Я не гавару ўжо аб комсамольцах, сярод якіх сотні тысяч людзей дасягнулі немалога ўзросту, маюць немалы вопыт арганізацыйнай і палітычнай работы. Сотні і тысячы комсамольцаў могуць узняць сур'ёзную кіруючую работу ў Советах.

Неабходна смялей вылучаць беспартыйных, комсамольцаў і жанчын на пасты членаў Советаў, выканкомаў Советаў і кіраўнікоў аддзеламі, памятаючы неаднаразовыя ўказанні Леніна і Сталіна аб тым, што не наяўнасць партыйнага білета, а тым больш не прыналежнасць да мужчынскага полу робіць чалавека вартым займаць той ці іншы пост, а толькі сапраўдная адданасць справе соцыялізма і дзелавыя якасці.

Каб гэта справа вышла, каб не атрымалася быстрага расчаравання, трэба толькі адно—дапамагчы гэтым людзям вучыцца.

Трэба сказаць, што з навучаннем совецкіх кадраў справа абстаіць няважна. Ёсць велізарная колькасць курсаў совецкіх работнікаў, але яны вучаць не старшынь сельсоветаў і старшынь РВК, а людзей, часта вызваленых з совецкай работы за нягоднасцю, і, апрача таго, яны вучаць у большасці не таму, чаму трэба, толькі мізэрную частку часу прысвячаючы вывучэнню Канстытуцыі і арганізацыі совецкай работы.

Задача тут заключаецца ў тым, каб вучыць іменна кіраўнікоў Советаў і дапамагаць ім расці.

* * *

Я заканчваю. Прадстаўляемы на ваша разгледжанне праект Выбарчага закона дае найбольш сапраўдныя гарантыі ажыццяўлення ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

У гэтых гарантыях яшчэ раз праяўляецца сутнасць пролетарскай дэмакратыі, якая, як указаў таварыш Сталін, заключаецца ў тым, што пролетарская дэмакратыя, у адрозненне ад буржуазнай, не абмяжоўваецца толькі фіксаваннем фармальных праў грамадзян, а клапоціцца «аб умовах ажыццяўлення гэтых праў, аб магчымасці іх ажыццяўлення, аб сродках іх ажыццяўлення».

Тое-ж самае ўсеагульнае выбарчае права, якое значная частка буржуазна-дэмакратычных краін прызнае ў сваіх канстытуцыях і фармальна ажыццяўляе пры выбарах, але якое на справе абкарнываецца, уразаецца, адмяняецца дзесяткамі спосабаў самім механізмам капіталістычнай дэмакратыі, выключаючым і выштурхоўваючым рабочых, беднякоў-сялян і радавых інтэлігентаў з актыўнага ўдзелу ў дэмакратыі,—наш праект Выбарчага закона ператварае ў зброю ўцягвання ўсёй масы працоўных у палітыку, у сродак уцягнення ўсяго народу ў актыўны ўдзел у дэмакратыі, ва ўсеабдымную зброю народнага кантролю за сваімі выбраннікамі.

Тут наша партыя, Советы кіруюцца ўказаннем таварыша Сталіна на III Усерасійскім З'ездзе Советаў дзевятнаццаць год назад:

> «Нам, прадстаўнікам рабочых нізоў, трэба, каб народ быў не толькі галасуючым, але і кіруючым».

Справа выбараў—справа вельмі сур'ёзная, да яе трэба падрыхтавацца сур'ёзна. Да выбараў асталося толькі некалькі месяцаў, а падрыхтоўка выбараў і самое правядзенне выбараў патрабуюць найвялікшай арганізаванасці.

У нас яшчэ сустракаюцца такія дзівакі, якія разумеюць дэмакратыю, як анархічную распушчанасць, як трыумф безначалля. Няма чаго гаварыць аб тым, што гэта не наш, не бальшэвіцкі, не ленінска-сталінскі погляд. Дэмакратыя не ёсць безначалле, наадварот, дэмакратыя азначае наяўнасць арганізаванай дзяржавы, наяўнасць урада, наяўнасць працаздольных цэнтраў грамадскіх арганізацый. Дэмакратыя не ёсць адмаўленне ад арганізаванасці, наадварот, дэмакратыя ёсць вышэйшая арганізаванасць, можна сказаць,—заварашэнне арганізаванасці. Наша пролетарская дэмакратыя азначае і патрабуе ў першую чаргу максімальнай арганізаванасці ад рабочага класа, які кіруе рабоча-сялянскім саюзам, ад яго авангарда—комуністычнай партыі.

Няўхільнае ажыццяўленне Канстытуцыі СССР і выцякаючага са Сталінскай Канстытуцыі Выбарчага закона бясспрэчна забяспечыць далейшае разгортванне **совецкай дэмакратыі**, расшырэнне базы пролетарскай дыктатуры. Няўхільнае ажыццяўленне Сталінскай Канстытуцыі і Выбарчага закона бясспрэчна забяспечыць на аснове крытыкі недахопаў работы Советаў і вылучэння ў Советы новых людзей паляпшэнне работы Советаў зверху данізу. Сілу народнага падтрымання Советаў правяралі на сваёй скуры нашы ворагі не раз. Што ўвесь народ стаіць сцяной за Советы—у гэтым лішні раз нядаўна пераканаліся германа-японскія фашысты ў трацкісцкай ці бухарынскай лічыне,—наша рабоча-сялянская краіна раздушыла іх, як клапоў. **(Апладысменты.)**

Няўхільнае ажыццяўленне новай Канстытуцыі СССР і выцякаючага з Сталінскай Канстытуцыі Выбарчага закона забяспечыць яшчэ большае згуртаванне вакол Советаў народных мас і абранне такога Вярхоўнага Совета СССР і такіх Советаў дэпутатаў працоўных, якія пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна правядуць у жыццё Сталінскую Канстытуцыю і павядуць народы СССР, сакрушаючы ўсіх і ўсялякіх ворагаў рабочага класа і сялянства, да новых перамог у справе будаўніцтва соцыялізма. **(Працяжныя апладысменты. Усе ўстаюць.)**

---

# Аб аказанні дапамогі калгаснаму сялянству Беларускай ССР і аб ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў справе калгаснага ўпарадкавання

*Пастанова Совета Народных Камісараў СССР і Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)*

У мэтах аказання дапамогі калгаснаму сялянству і ліквідацыі вынікаў шкодніцтва банды нацыянал-фашыстаў і агентаў замежных фашысцкіх дзяржаў, прабраўшыхся ў кіруючыя зямельныя і совецкія органы БССР, Совет Народных Камісараў СССР і ЦК ВКП(б) **пастанаўляюць:**

I

### Аб забеспячэнні калгаснікаў прысядзібнай зямлёй

1. Абавязаць СНК БССР і ЦК КП(б)Б адвесці калгаснікам 32.000 гектараў прысядзібных зямель, незаконна адрэзаных шкоднікамі і залічаных у агульнакалгасныя фонды.

2. Абавязаць СНК БССР і ЦК КП(б)Б к 15 жніўня закончыць адвядзенне прысядзібных участкаў калгаснікаў у размерах нормы, устаноўленай пастановай Наркамзема СССР і Сельгасаддзела ЦК ВКП(б) аб парадку правядзення статута сельгасарцелі па Беларускай ССР.

3. Замяніць калгаснікам прысядзібныя ўчасткі, адведзеныя ў палявых землях, участкамі пры сядзібах.

Забараніць адвядзенне прысядзібных участкаў калгаснікам у палявых землях воддаль ад калгаснага двара.

II

### Аб ліквідацыі шкодніцкі арганізаваных соўгасаў і аб перадачы іх земляў калгаснаму сялянству Беларусі

4. Ліквідаваць 138 шкодніцкі арганізаваных соўгасаў і перадаць зямлю ліквідуемых соўгасаў, а таксама частку земляў астаючыхся соўгасаў—усяго ў колькасці 230.000 гектараў у першую чаргу тым калгасам, у якіх яна была шкоднікамі адрэзана пры арганізацыі соўгасаў, з занясеннем перадаваемай зямлі ў акты на вечнае карыстанне зямлёй калгасамі.

Абавязаць СНК і ЦК Беларусі, НКЗ СССР і Наркомсоўгасаў перадачу зямлі калгасам правесці не пазней 1 верасня 1937 года.

5. Размеркаванне зямлі ліквідуемых соўгасаў праводзіць камісіям у складзе: старшыні РВК, сакратара райкома, дырэктара соўгаса і

старшынь навакольных калгасаў з абмеркаваннем праекта размеркавання зямлі на агульных сходах членаў адпаведных калгасаў.

Устанавіць, што рашэнні гэтых камісій зацвярджаюцца пленумамі раённых выканаўчых камітэтаў.

6. Абавязаць Наркамзем СССР, Наркомсоўгасаў і СНК БССР жывёлу ліквідуемых соўгасаў часткай размясціць у астаючыхся соўгасах, часткай (малапрадукцыйную жывёлу) здаць дзяржаве ў парадку мясазагатовак, а частку жывёлы ў колькасці, падлягаючай зацверджанню СНК СССР, прадаць калгасным фермам па канвенцыйных цэнах на ўмовах 3—5-гадовага крэдыта ў размеры 90 проц. ад каштоўнасці купляемай жывёлы (з 3 працантаў гадавых).

7. Устанавіць, што ў тых выпадках, калі будынкі соўгаса не скарыстоўваюцца для МТС, а калгасы пажадаюць набыць будынкі і маёмасць соўгаса на тэрыторыі ліквідуемых соўгасаў, будынкі і маёмасць павінны быць прададзены калгасам па сапраўднай каштоўнасці з улікам iзносу па дагаворнасці з калгасамі.

Прапанаваць сельскагаспадарчаму банку ў гэтых выпадках прадастаўляць калгасам крэдыт на 4—6 гадоў у размеры балансавай каштоўнасці прадаваемых будынкаў і маёмасці (з 3 працантаў гадавых).

Крэдыты калгасам БССР на пакупку жывёлы, будынкаў і маёмасці соўгасаў адпусціць у межах агульнай сумы крэдытаў, прадугледжаных для сельскай гаспадаркі па агульнасаюзнаму плану.

III

## Аб арганізацыі новых МТС на базе ліквідуемых соўгасаў

8. Пашырыць дзяржаўную дапамогу калгасам трактарамі, для чаго закончыць у 1938 годзе ахоп МТС усіх калгасаў БССР.

9. Арганізаваць к 1 студзеня 1938 года 60 новых МТС, са скарыстаннем сядзіб ліквідуемых соўгасаў.

10. Абавязаць НКЗ СССР завезці ва ўноў арганізуемыя МТС к 1 лютага 1938 года 900 гусенічных трактароў з адпаведным камплектам прычэпнага інвентару.

11. Устанавіць, што маёмасць і будынкі соўгасаў, а таксама трактары і прычэпны інвентар, перадаваемыя з ліквідуемых соўгасаў машынатрактарным станцыям, перадаюцца МТС ў адпаведнасці з дзейнічаючым законам—безвазмезна.

IV

## Аб перадачы ў вечнае карыстанне калгасам Беларускай ССР 480.000 гектараў лесу і лясных угоддзяў і аб адмене шкодніцкага парадку карыстання лясамі, устаноўленага для насельніцтва Соўнаркомам БССР

12. Перадаць калгасам з занясеннем у акты на вечнае карыстанне зямлёй з лясоў дзяржаўнага мясцовага значэння 480.000 гектараў лясных угоддзяў, у тым ліку 110.000 гектараў лясоў дзяржаўнага значэння і 370.000 гектараў лясоў мясцовага значэння. З ліку лясных угоддзяў перадаць калгасам 93.000 гектараў сенажацей, вырубак і пасбішчаў, якія знаходзяцца ў лясах.

13. Устанавіць адказнасць калгасаў за захоўванне дзяржаўных правіл лесаскарыстання і лесааднаўлення ў лясах, што знаходзяцца ў іх вечным карыстанні, абавязаўшы калгасы праводзіць лесанасаджэнні ў размерах не менш вырубаемых плошчаў.

14. Скасаваць інструкцыю Наркамзема БССР і Кіраўніцтва лесааховы і лесанасаджэнняў пры СНК БССР, выданую ў 1937 годзе «Аб правілах пасьбы жывёлы ў лясах дзяржаўнага мясцовага значэння», як няправільную і супярэчачую інтарэсам дзяржавы і калгаснікаў.

Дазволіць калгасам, калгаснікам і аднаасобнікам бесперашкодна пасвіць жывёлу ў лясах як дзяржаўнага, так і мясцовага значэння за выключэннем плошчаў, занятых лесапітомнікамі, а таксама маладняком на плошчах, дзе арганізавана лесааднаўленне.

15. Скасаваць існуючы ў Беларускай ССР парадак продажу лесу, пры якім калгаснікі ў лясных раёнах фактычна пазбаўлены магчымасці купіць лес, вызначаны дзяржавай для продажу сялянам.

Абавязаць СНК БССР і ЦК КП(б)Б устанавіць новы парадак водпуску лесу, па якому водпуск лесу, вызначанага дзяржавай для сялян, праводзіцца шляхам продажу ўпаўнаважаным лесгаса сялянам лесарубачных білетаў у сельсоветах.

16. Адпусціць у 1938 годзе калгасам і калгаснікам з лясоў дзяржаўнага і мясцовага значэння—дзелавога лесу да 800.000 кубаметраў і дроў да 1,2 млн. кубаметраў, скарыстоўваючы пры водпуску дроў у першую чаргу сухастой, буралом і матэрыялы ад ачысткі лесу.

17. Зняць з калгаснікаў лічачыяся за імі 15 мільёнаў рублёў нядоімак па штрафах за парушэнне правіл лесакарыстання.

Устанавіць надалей парадак, згодна якога накладанне штрафаў за парушэнне ўстаноўленага парадку лесакарыстання праводзіцца па рашэнню Народнага суда, згодна акта, складзенага ляснохй аховай.

18. Зацвердзіць параённае размеркаванне земляў, адвадзімых для прысядзібных участкаў, лясоў, перадаваемых у вечнае карыстанне калгасаў, соўгасаў, падлягаючых ліквідацыі, і новых МТС, арганізуемых на базе ліквідуемых соўгасаў (гл. дадатак).

## V

## Аб скарачэнні пасеўнага плана па Беларускай ССР на 300.000 гектараў

19. Устанавіць, што ў мэтах падрыву ўраджайнасці і недапушчэння правільнага севазвароту шкоднікамі з Наркамзема і СНК БССР даваліся калгасам зачастую заданні па пасеву, перавышаючыя наяўныя ў іх рэсурсы зямлі, з прычыны чаго калгасы вымушаны былі пакідаць азімыя без чыстага папару, сеяць лён не па канюшыне і жыта па жыту.

Скараціць пасеўнае заданне на 1938 год па калгасах БССР на 300.000 гектараў, абавязаўшы НКЗ СССР, СНК БССР і ЦК КП(б)Б устанавіць у гадовы тэрмін правільныя севазвароты па калгасах БССР і забяспечыць пераход усіх калгасаў не пазней 3-гадовага тэрміну да пасеваў строга ў адпаведнасці з устаноўленымі севазваротамі.

## VI

## Аб дадатковых ільготах калгасам БССР па пастаўках сельскагаспадарчых прадуктаў і нядоімках за мінулыя гады

а) Па бульбе:

20. Спісаць з калгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў нядоімкі па бульбапастаўках 1936 года, а таксама запазычанасць па натураплаце МТС і насенпазыцы.

б) Па мясапастаўках:

21. Скараціць прад'яўленыя калгасным фермам абавязацельствы па мясапастаўках на 1937 год на 6.600 тон.

22. Зняць нядоімкі па мясапастаўках за 1935—1936 г.г. з калгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў.

в) Па малаку:

23. Устанавіць, пачынаючы з 1937 г., нормы малакопаставак для калгаснага двара Беларусі ў размеры 55 літраў з каровы.

24. Спісаць з калгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў нядоімкі па малакопастаўках за 1936 год.

## VII

## Аб ільготах для аднаасобнікаў, уступаючых у калгасы

25. Устанавіць, што аднаасобнікі, уступаючыя ў калгасы, плацяць сельскагаспадарчы падатак, культзбор і страхоўку па норме, устаноўленай для калгаснікаў.

26. Спісаць з аднаасобнікаў, уступаючых у калгас, усе нядоімкі на 1-е студзеня 1937 года па запазычанасці мінулых гадоў як па натуральных, так і па грашовых плацяжах.

27. Устанавіць, што аднаасобнікі, уступаючыя ў калгас, павінны быць надзелены прысядзібным участкам па норме, устаноўленай для калгаснікаў, у месячны тэрмін па ўступленні ў калгас.

28. Вызваліць аднаасобнікаў, уступаючых у калгас і не маючых насення і каня, ад унясення ў калгас каштоўнасці насення і каня.

**Старшыня Совета Народных Камісараў СССР В. МОЛАТАЎ.** **Сакратар ЦК ВКП(б) І. СТАЛІН.**

2 жніўня 1937 года.

## Дадатак да пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) „Аб аказанні дапамогі калгаснаму сялянству Беларускай ССР“.

| | Землі, адвадзімыя для прысядзібных участкаў калгаснікаў (у гектарах) | Лясы, перадаваемыя ў вечнае карыстанне калгасам (у гектарах) | | Соўгасы, падлягаючыя ліквідацыі, землі якіх перадаюцца калгасам | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Усяго | У тым ліку знаходзячыхся ў лясах сенажацей і пасбішч | УСЯГО | У тым ліку соўгасы, на базе якіх арганізуюцца новыя МТС |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| **Лепельская акруга** | 1800 | 15000 | 2600 | | |
| Бягомльскі | 500 | 1500 | 1000 | | |
| Лепельскі | 400 | 4800 | 800 | | |
| Ушацкі | 700 | 5800 | 400 | | |
| Чашніцкі | 200 | 2900 | 400 | Абрубы-Чысцік, Пачаевічы | Пачаевічы. |
| **Мозырская акруга** | 5700 | 61500 | 18500 | | |
| Даманавіцкі | 1000 | 6000 | 1000 | | |
| Ельскі | 500 | 7000 | 2500 | | |
| Жыткавіцкі | 400 | 7000 | 3000 | | |
| Капаткевіцкі | 600 | 5500 | 1000 | | |
| Лельчыцкі | 500 | 11000 | 3000 | | |
| Мозырскі | 800 | 5500 | 1000 | | |
| Нараўлянскі | 400 | 8500 | 3000 | Дзярновічы, Обухава | Дзярновічы. |
| Петрыкаўскі | 400 | 6500 | 2000 | | |
| Тураўскі | 1100 | 4500 | 2000 | | |
| **Полацкая акруга** | 950 | 25800 | 4300 | | |
| Асвейскі | 200 | 2500 | 500 | Асвея | |
| Ветрынскі | 150 | 3800 | 300 | Нача-Шпакоўшчына | Нача-Шпакоўшчына. |
| Дрысенскі | 200 | 6000 | 2000 | Бігосава, Боркавічы | Бігосава. |
| Полацкі | 200 | 7000 | 500 | Праца. | Праца. |
| Расонскі | 200 | 6500 | 1000 | | |
| **Слуцкая акруга** | 5700 | 27500 | 3400 | | |
| Грэскі | 700 | 4600 | 600 | Пакрашава. | Пакрашава. |
| Копыльскі | 1500 | 5000 | 500 | Цімкавічы, Старыцы, Забалоцце. | Аддзяленне Чыжэвічы соўгаса Доктаравічы. Забалоцце. |
| Любаньскі | 1000 | 5000 | 1000 | Азёрнае, Загалле. | Загалле. |
| Слуцкі | 900 | 3300 | — | Імя Кірава, Браншыцы. | |
| Старобінскі | 1000 | 6600 | 800 | Ударнік, Капацэвічы. | Капацэвічы. |
| Чырвонаслабодскі | 600 | 3000 | 500 | Старчыцы, Боркі-Бялевічы. | Боркі-Бялевічы. |
| **Раёны па-за акругамі** | | | | | |
| Аршанскі | 500 | 2000 | 1000 | Окцябр, 2-я пяцігодка, Высокае, Анібалава, Большэвік. | Высокае, Окцябр. |
| Асіповіцкі | 400 | 10500 | 1500 | | |
| Бабруйскі | 300 | 8800 | 2500 | | |

| | Землі, адвадзімыя для прысядзібных участкаў калгаснікаў (у гектарах) | Ляcы, передаваемыя ў вечнае карыстанне калгасам (у гектарах) | | Соўгасы, падлягаючыя ліквідацыі, землі якіх перадаюцца калгасам | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Усяго | У тым ліку знаходзячыхся ў лясах сенажацей і пасбішч | УСЯГО | У тым ліку соўгасы, на базе якіх арганізуюцца новыя МТС |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| Багушэўскі . . . | 100 | 5100 | 600 | | |
| Барысаўскі . . . | 100 | 6500 | 2500 | Палелюм, Ваенгас. | Палелюм |
| Бешанковіцкі . . | 100 | 3000 | 500 | Дзягілева. | |
| Брагінскі . . . | 500 | 4680 | 200 | | |
| Будакашалёўскі . | 200 | 2200 | 1000 | Рагінь. | Рагінь. |
| Быхаўскі . . . | 200 | 7000 | 3000 | Грудзінаўка. | Лучыцы. |
| Бялыніцкі . . . | 300 | 6000 | 1500 | Зара. | Зара. |
| Бярэзінскі . . . | 600 | 3600 | 500 | Бярэзіна, Вялікі Бор. | |
| Веткаўскі . . . | 150 | 2600 | 500 | Закружжа. | Закружжа. |
| Віцебскі . . . . | 100 | 5200 | 400 | Тулава, Белева, МОПР, Цірасполь, Парыжская комуна, Мазальмава. | Мазальмава. |
| Гарадоцкі . . . | 50 | 4500 | 500 | | Праца. |
| Глускі . . . . | 1000 | 11000 | 3000 | Саколкі, Рудабелка, Харомцы. | Рудабелка. |
| Гомельскі . . . | 300 | 3700 | 1500 | Васільеўскі, Клёнкі, Лешчынец. | Васільеўскі. |
| Горацкі . . . . | 100 | 1705 | 400 | Імя Леніна. | Імя Леніна. |
| Дзержынскі . . | 700 | 6200 | 600 | Свабода, імя Сталіна, Негарэлае, імя Свердлова, Фаніпаль, В. Навасёлкі. | Імя Свердлова, Негарэлае. |
| Добрушскі . . . | 100 | 3500 | 600 | Ачэса-Рудня. | |
| Дрыбінскі . . . | 200 | 5000 | 1000 | | Прагрэс. |
| Дубровенскі . . | 100 | 1000 | 1000 | Арловічы, Спаборніцтва, Собалева. | Арловічы. |
| Жлобінскі . . . | 100 | 900 | 400 | Каменка, Правда, Пірэвічы. | Каменка, Правда. |
| Журавіцкі . . . | 150 | 1850 | 850 | Чырвоны маяк. | Чырвоны маяк. |
| Заслаўскі . . . | 100 | 4300 | 500 | Валоўшчына, Зара Захада. | Зара захада. |
| Камарынскі . . . | 200 | 5000 | 1500 | Камарына. | |
| Кармянскі . . . | 200 | 3400 | 300 | | |
| Касцюковіцкі . . | 300 | 5000 | 1000 | Брацькавічы, Пролетарый, Забычанне. | Забычанне, Пролетарый. |
| Кіраўскі . . . . | 200 | 4000 | 1000 | | |
| Клімавіцкі . . . | 100 | 7800 | 800 | Імя 16-га з'езда, Прыволле. | Імя 16-га з'езда. |
| Клічаўскі . . . | 150 | 6400 | 1000 | Бацэвічы, Красіна, Колас, Стары Спор. | Бацэвічы, Красіна. |
| Круглянскі . . . | 100 | 3200 | 300 | Маладая гвардыя. | Маладая гвардыя. |
| Крупскі . . . . | 300 | 3900 | 400 | Перадавы, Крупкі. | Перадавы. |
| Крычаўскі . . . | 350 | 6500 | 1000 | Крычаў. | Крычаў. |
| Лагойскі . . . . | 300 | 6900 | 1200 | Косіна, Луцэўшчына. | Косіна. |
| Лёзненскі . . . | — | 10300 | 300 | Заольша. | |
| Лоеўскі . . . . | 350 | 6000 | 1500 | Прагрэс. | |
| Магілеўскі . . . | 100 | 4900 | 1000 | Цішоўка, Барэц, Палыкавічы, Казіміраўка, імя Варашылава, новы шлях. | Барэц, Казіміраўка |

| | Землі, адвадзімыя для прысядзібных участкаў калгаснікаў (у гектарах) | Лясы, перадаваемыя ў вечнае карыстанне калгасам (у гектарах) | | Соўгасы, падлягаючыя ліквідацыі, землі якіх перадаюцца калгасам | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Усяго | У тым ліку знаходзячыхся ў лясах сенажацей і пасбішч | УСЯГО | У тым ліку соўгасы, на базе якіх арганізуюцца новыя МТС |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| Менскі . . . . | 400 | 4900 | 200 | Прылукі, Сенніца, Новы Двор, Пролетарый, Окцябр. | |
| Мехаўскі. . . . | 200 | 5300 | 1500 | Праца. | |
| Мсціслаўскі. . . | 150 | 3900 | 300 | Чырвоны сцяг. | Чырвоны сцяг. |
| Парыцкі. . . . | 1200 | 12000 | 2000 | Ляскі. | |
| Плешчаніцкі . . | 100 | 5000 | 500 | Замошша, Забегі. | |
| Прапойскі . . . | 500 | 4600 | 600 | | |
| Пухавіцкі . . . | 600 | 9500 | 1500 | Магутны, Рэпішча. | Магутны. |
| Рагачоўскі . . . | 200 | 2500 | 1500 | Красніцы. | |
| Рэчыцкі . . . . | 200 | 9000 | 5000 | Жмураўка. | |
| Свяцілавіцкі . . | 150 | 3200 | 300 | Жалязнякі, імя Блюхера, Індустрыя. | Няглюбскі. |
| Сенненскі . . . | 100 | 6400 | 400 | Хадцы, Крывіна. | Хадцы. |
| Сіроцінскі . . . | 50 | 4100 | 400 | Ліскавічы, Нікароты, Чэрніцы. | Чэрніцы. |
| Смалявіцкі . . . | 300 | 6300 | 300 | Станок-Вадзіца. | Станок-Вадзіца. |
| Смілавіцкі . . . | 400 | 2950 | 350 | Дукора, Цытва, Габрыелеўка. | Габрыелаўка; Дукора. |
| Старадарожскі. . | 700 | 11115 | 1200 | Палажэвічы. | Палажэвічы. |
| Суражскі . . . | 100 | 4800 | 400 | | |
| Талачынскі . . . | 100 | 5200 | 700 | Сырыца. Скрыншчына, Лемніца, Куліcоўка, Усвіж-Буг. | Сырыца. |
| Увара іцкі . . . | 200 | 4000 | 600 | Кісялёўка, Стара-Бетіца, Комунар. | Комунар, Кісялёўка. |
| Уздзенскі . . . | 400 | 7300 | 800 | Пагранічнік, Ануфрава. | Пагранічнік. |
| Халопеніцкі. . . | 300 | 4900 | 600 | | |
| Хойніцкі. . . . | 500 | 6000 | 2000 | Рудакова, Міхнава. | Рудакова. |
| Хоцімскі. . . . | 300 | 3800 | 300 | Батаева, Звязда. | |
| Цераховускі. . . | 200 | 5000 | 500 | Пролетарый, Івакі, Пракопаўка. | Пролетарый. |
| Чырвонапольскі . | 150 | 5700 | 400 | Комінтэрн, Паўлаўка. | Паўлаўка. |
| Чавускі . . . . | 300 | 9300 | 300 | | |
| Чачэрскі. . . . | 150 | 6500 | 2000 | | |
| Чэрвеньскі . . . | 500 | 7500 | 1500 | Маладая гвардыя, Усохі. | Маладая гвардыя. |
| Чэрыкаўскі. . . | 200 | 3900 | 400 | Ударнік, Чырвоны Кастрычнік. | Ударнік. |
| Шклоўскі . . . | 100 | 1100 | 300 | | |
| Усяго. . | 32000 | 480000 | 93000 | Усяго 138 ліквідуемых соўгасаў, зямля якіх перадаецца калгасам. | Усяго 60 новых МТС на базе ліквідуемых соўгасаў. |

# Выбарчы закон краіны соцыялізма

Чацвертая сесія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР прыняла ўхвалены чэрвеньскім Пленумам ЦК ВКП(б) новы Выбарчы закон краіны соцыялізма. Увесь совецкі народ з радасцю сустрэў зацвярджэнне «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР». Совецкі народ атрымаў самы дэмакратычны ў свеце выбарчы закон, які ператварае ў жыццё вялікія дэмакратычныя прынцыпы, увасобленыя ў Сталінскай Канстытуцыі СССР.

Соцыялістычны дэмакратызм краіны Советаў выразна адрозніваецца ад буржуазнага дэмакратызма тым, што не толькі дэкларуе правы народу, але і прадастаўляе ўсяму совецкаму народу ўсе магчымасці для рэальнага ажыццяўлення сапраўднай дэмакратыі.

Уся сістэма буржуазнага дэмакратызма ў капіталістычных краінах пабудавана на прынцыпах абману шырокіх мас працоўнага народу ў інтарэсах капіталістычнай эксплаатацыі. Совецкі лад, кіруемы вялікай партыяй Леніна—Сталіна, асновай свайго існавання палажыў дыктатуру рабочага класа. У нашай краіне словы не разыходзяцца са справай. Гэта наглядна дэманструецца прынятым сесіяй ЦВК СССР новым Выбарчым законам.

У капіталістычных краінах, нават у так званых буржуазна-дэмакратычных, выбарчы закон фактычна накіраван на тое, каб усяляк абмежаваць правы працоўных. У розных краінах па рознаму праводзіцца гэта абмежаванне. Але сэнс і мэта адна—найбольш абмежаваць магчымасці працоўных удзельнічаць у выбарах дзяржаўных органаў. Ва Францыі, напрыклад, не маюць права ўдзельнічаць у выбарах жанчыны. У той-жа «дэмакратычнай» Францыі выбарчыя ўчасткі пабудаваны так, каб паставіць буржуазію ў больш прывілеяванае становішча ў адносінах да працоўных. Так, напрыклад, буржуазны выбарчы ўчастак Парыжа з 8.000 выбаршчыкаў прыраўнаны да 50.000 выбаршчыкаў пролетарскага раёна горада, бо абодва выбарчыя ўчасткі выбіраюць аднолькава—па аднаму дэпутату. У радзе капіталістычных краін выбарчыя правы працоўных абмяжоўваюцца ўстанаўленнем цэнзаў маемасных, аселасці, асветы і т. д. У Злучаных Штатах Амерыкі Выбарчы закон і ўся выбарчая сістэма пабудаваны так, што каля 2 мільёнаў негрыцянскага насельніцтва зусім пазбаўлена выбарчага права.

«Буржуазныя канстытуцыі маўкліва зыходзяць з прадпасылкі аб тым, што нацыі і расы не могуць быць роўнапраўнымі, што ёсць нацыі поўнапраўныя і ёсць нацыі няпоўнаправныя, што апрача таго існуе яшчэ трэцяя катэгорыя нацый або рас, напрыклад, у калоніях, у якіх ёсць яшчэ менш правоў, чым у няпоўна-

праўных нацый. Гэта значыць, што ўсе гэтыя канстытуцыі ў аснове сваёй з'яўляюцца нацыяналістычнымі, г. зн. канстытуцыямі пануючых нацый» **(Сталін).**

У нашай краіне Вялікая Кастрычніцкая рэволюцыя назаўсёды ліквідавала прыгнечанне ўсіх нацыянальнасцей, якія насяляюць неасяжныя прасторы Совецкага Саюза. Ажыццяўленне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі забяспечыла і забяспечвае роўнапраўе ўсім нацыям і расам. Усе народнасці краіны Советаў—роўнапраўныя грамадзяне ў дзяржаўным, гаспадарчым, грамадскім і культурным будаўніцтве. Запісанае ў Сталінскай Канстытуцыі Саюза ССР гэта роўнапраўе ўсіх нацый і рас гарантуецца Выбарчым законам.

Буржуазныя канстытуцыі звычайна абмяжоўваюцца фіксацыяй фармальных правоў грамадзян, але не клапоцяцца аб умовах ажыццяўлення гэтых правоў, каб імі на справе маглі карыстацца працоўныя масы. Прыкрываючыся славеснай балбатнёй аб дэмакратыі, буржуазія накіроўвае ўсю сістэму выбараў кіруючых органаў дзяржавы на тое, каб яшчэ больш узмацніць эксплаатацыю працоўных.

У капіталістычных краінах, не гаворачы ўжо аб фашысцкіх, дзе пануе нічым непрыкрыты тэрор і ліквідаваны ўсякія правы працоўных, балбочуць аб роўнапраўі грамадзян, «але забываюць, што не можа быць сапраўднай роўнасці паміж гаспадаром і рабочым, паміж памешчыкам і селянінам, калі ў першых ёсць багацце і палітычная вага ў грамадстве, а другія пазбаўлены і таго і другога, калі першыя з'яўляюцца эксплаататарамі, а другія эксплаатуемымі» **(Сталін).**

У краіне перамогшага соцыялізма совецкая ўлада пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў і таварыша Сталіна не абмяжоўваецца фармальнай дэкларацыяй правоў грамадзян, а прымае канкрэтныя меры к таму, каб гэтымі правамі маглі карыстацца грамадзяне ўсіх нацыянальнасцей і рас, увесь совецкі народ.

Выбарчы закон, прыняты чацвертай сесіяй ЦВК СССР, з'яўляецца нябачаным у гісторыі дзяржаўным дакументам, які ажыццяўляе тыя прынцыпы соцыялізма і дэмакратыі, за якія стагоддзямі змагаліся працоўныя масы. Наш выбарчы закон устанаўляе сапраўды роўнае выбарчае права для ўсіх грамадзян Совецкага Саюза, адмяняючы якія-б там ні было абмежаванні ў нацыянальных, маемасных і іншых адносінах. Усе грамадзяне, якія ка дню выбараў дасягнулі 18 год, маюць права выбіраць і быць выбранымі, за выключэннем асоб, пазбаўленых выбарчага права па суду і страціўшых розум.

* * *

Кожны грамадзянін СССР, незалежна ад полу, нацыянальнасці, расы, адукацыі, з'яўляецца поўнапраўным гаспадаром сваёй краіны. Але іменна таму ён нясе ў адносінах да сваёй соцыялістычнай радзімы і пэўныя абавязкі. Першы абавязак—захоўваць непарушнасць Сталінскай Канстытуцыі, найстражэйшую працоўную дысцыпліну, добрасумленна выконваць свае грамадскія абавязкі, берагчы соцыялістычную ўласнасць—аснову совецкага ладу, галоўную крыніцу багацця і магутнасці соцыялістычнай краіны, пільна стаяць на варце вялікіх заваёў і своечасова выкрываць усялякія прошукі класава-варожых элементаў, шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў.

Кожны грамадзянін краіны Советаў павінен цвёрда памятаць указанне таварыша Сталіна на тое, што Совецкі Саюз знаходзіцца ў капіталістычным акружэнні, што капіталістычныя краіны і ў далей-

шым будуць імкнуцца перакідаць у наш тыл сваіх агентаў, шпіёнаў, дыверсантаў, шкоднікаў для падрыву нашай эканамічнай і абароннай магутнасці. Асабліва гэта трэба памятаць грамадзянам БССР, якая знаходзіцца на мяжы з капіталістычным Захадам.

КП(б)Б пры дапамозе ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна, за апошні час выкрыла не мала ворагаў народу, прамых агентаў, шпіёнаў і дыверсантаў нямецкага і польскага фашызма. У Наркамземе, Наркомасветы, Дзяржплане і ў радзе іншых совецкіх, гаспадарчых і партыйных арганізацый ворагі народу звілі свае гнёзды.

Выкрыццё подлай банды здраднікаў радзімы і шпіёнаў (Тухачэўскага, Якіра, Убарэвіча, Бенека, Дзякава і іншых) з выключнаю сілай ілюструе праўдзівасць слоў таварыша Сталіна аб тым, што пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, капіталістычныя краіны будуць засылаць у наш тыл шкоднікаў, дыверсантаў, шпіёнаў, тэрарыстаў і вербаваць іх унутры нашай краіны з асяроддзя рэштак трацкісцка-зіноўеўскага, бухарына-рыкаўскага і нацдэмаўскага атрэп'я і іншых класава-варожых элементаў.

Указанне таварыша Сталіна абавязвае КП(б)Б, кожнага комуніста, увесь беларускі народ пільна сачыць за прошукамі ворагаў народу. Свяшчэнны доўг і абавязак усіх партыйных і непартыйных большэвікоў БССР—да канца выкарчаваць паследышаў Бенека, Дзякава, Убарэвіча і іншых, ліквідаваць вынікі шкодніцтва ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі і культурнага будаўніцтва і ператтварыць Совецкую Беларусь у магутны фарпост Совецкага Саюза на заходніх яго рубяжах.

Пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб аказанні дапамогі калгаснаму сялянству Беларускай ССР і ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў справе калгаснага ўпарадкавання наносіць сакрушальны ўдар прошукам ворагаў народу—фашысцкім наймітам, якія сваёй шкодніцкай дзейнасцю імкнуліся падарваць калгасны лад. Гэту гістарычную пастанову калгаснае сялянства і ўвесь беларускі народ сустрэлі з вялікім здавальненнем, бо ў ёй выражана Сталінская дапамога беларускаму народу, Сталінскі клопат аб умацаванні калгаснага ладу.

Задача КП(б)Б, усіх партыйных, зямельных, совецкіх арганізацый— выканаць гэту важнейшую пастанову партыі і ўрада, мабілізуючы шырокія масы калгаснага сялянства на далейшы ўздым калгаснай вытворчасці.

* * *

Новая выбарчая сістэма, распрацаваная на аснове Сталінскай Канстытуцыі, з'явіцца магутнай зброяй палітычнага выхавання і арганізацыі шырокіх мас і далейшага ўзмацнення сувязі дзяржаўнага апарата з шырокімі масамі працоўных.

Каб сустрэць новыя выбары так, як таго патрабуе наша партыя і таварыш Сталін, совецкія органы павінны рашуча перабудаваць сваю работу зверху да нізу.

На чацвертай сесіі ЦВК СССР недахопы ў рабоце Советаў былі падвергнуты суровай крытыцы. У рабоце совецкіх органаў БССР як у цэнтры, так і на месцах былі і ёсць яшчэ сур'ёзнейшыя прарывы і промахі. Аб гэтым сведчаць факты грубага парушэння совецкіх законаў і ў радзе раёнаў рэспублікі. Запушчанасці совецкай работы садзейнічалі ворагі народа, якія прабраліся на адказныя пасты совецкіх устаноў БССР. Да надыходзячых выбараў па новаму Выбар-

чаму закону неабходна рашуча ліквідаваць усе недахопы ў рабоце савецкіх органаў, неадкладна ачысціўшы іх ад усіх прытаіўшыхся ворагаў народу.

Варожыя элементы будуць імкнуцца выкарыстаць новыя выбары, каб прабрацца ў Советы. Наша задача—па-большэвіцку паставіць палітмасавую работу сярод рабочых, калгаснікаў і совецкай інтэлігенцыі, усямерна павышаючы іх рэволюцыйную пільнасць, каб ні адзін вораг народу не здолеў прабрацца ў нашы совецкія і гаспадарчыя органы.

Мы ўступаем у новы этап дзяржаўнага будаўніцтва. Выбары Советаў па новаму Выбарчаму закону будуць рэзка адрозніваццца ад папярэдніх. Замест адкрытага галасавання ўводзіцца тайнае, замест шматступеннай сістэмы—прамая сістэма выбараў на аснове ўсеагульнага і роўнага выбарчага права. Адсюль значна ўскладняецца падрыхтоўка і арганізацыя саміх выбараў. Улічваючы гэту акалічнасць, партыйныя і совецкія арганізацыі павінны перабудаваць сваю работу ў строгай адпаведнасці з рашэннямі лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказаннямі таварыша Сталіна.

Першачарговая задача партыйных арганізацый, іх кіраўнікоў і кожнага комуніста—давесці да шырокіх мас значэнне і сэнс новага Выбарчага закона. «Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» павінна быць растлумачана так, каб кожны грамадзянін нашай рэспублікі дасканала ўсвядоміў новую выбарчую сістэму, добра ведаў парадак выбараў па-новаму.

Правядзенне выбараў у Вярхоўны Совет Саюза ССР ускладае вялікую палітычную адказнасць на партыйныя арганізацыі і кожнага комуніста. Лютаўскі Пленум ЦК ВКП(б) указаў, што партыйныя арганізацыі абавязаны ўзначаліць паварот у палітычным жыцці краіны, які адбываецца ў сувязі з ажыццяўленнем Сталінскай Канстытуцыі, «стаць на чале гэтага павароту і забяспечыць поўнасцю сваю кіруючую ролю ў надыходзячых выбарах Вярхоўных органаў краіны».

Выконваючы ўказанні таварыша Сталіна і рашэнні лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б), партыйныя арганізацыі павінны паказаць сваю большэвіцкую здольнасць у арганізацыі мас, уменне кіраваць надыходзячымі выбарамі. Для гэтага патрэбна мабілізаваць усе свае сілы і энергію. Партыйныя арганізацыі абавязаны зараз асабліва ўзмацніць кіраўніцтва і сувязь з масамі, памятаючы словы таварыша Сталіна:

> «Большэвікі... моцны тым, што трымаюць сувязь са сваёй мацерай, з масамі, якія парадзілі, ускармілі і выхавалі іх. І пакуль яны трымаюць сувязь са сваёй мацерай, з народам, яны маюць усе шансы на тое, каб застацца непераможнымі».

Каб з большым поспехам правесці растлумачальную работу, кожнаму комуністу неабходна самому глыбока вывучыць «Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» і даклад тав. Якаўлева на чацвертай сесіі ЦВК СССР. Партыйныя арганізацыі павінны арганізаваць вывучэнне гэтых дакументаў у партшколах і гуртках так, каб ахапіць імі ўсіх комуністаў.

Тайнае галасаванне кандыдатаў у дэпутаты Совета Саюза, Совета Нацыянальнасцей і ніжэйстаячых совецкіх органаў павышае адказнасць партыйных арганізацый за кожную высунутую імі кандыдатуру. Партыйныя арганізацыі абавязаны шырока асвятліць перад

выбаршчыкамі годнасць кожнага кандыдата, як большэвіцкага барацьбіта за справу соцыялізма, як сапраўднага прадстаўніка народу і абаронцу інтарэсаў соцыялістычнай радзімы.

У барацьбе за справу соцыялізма за апошнія гады ў нас вырасла шмат новых загартаваных кадраў, таленавітых арганізатараў мас на канчатковую перамогу комунізма. У надыходзячыя выбары гэтыя кадры будуць змяняць людзей абюракраціўшыхся, аказаўшыхся нядольнымі працаваць у Советах.

Выбары і ўсеагульнае выбарчае права ў нашай краіне—магутная зброя ўзмацнення органаў дыктатуры рабочага класа. Яны служаць для таго, каб адабраць у кіруючыя дзяржаўныя органы лепшых людзей з асяроддзя працоўных. Усеагульнае, роўнае і прамое выбарчае права пры тайным галасаванні будзе служыць сапраўднай праверкай работы совецкіх органаў, садзейнічаць ўцягненню новых пластоў совецкага народу ў кіраўніцтва дзяржавай і тым самым яшчэ больш узмоцніць дыктатуру рабочага класа, пашырыць яе соцыяльную базу. Новыя выбары выклічуць далейшы рост творчай актыўнасці мас, развіццё стаханаўскага руху, яшчэ цясней згуртуюць увесь совецкі народ вакол большэвіцкай партыі, вакол свайго любімага правадыра таварыша Сталіна.

Совецкая краіна атрымала самы дэмакратычны ў свеце выбарчы закон. У гэты час фашысцкія галаварэзы вядуць шалёнае наступленне на ўсякую дэмакратыю. Нават урэзаная буржуазная дэмакратыя з яе фальшывай дэмагогіяй аказваецца непрыемлемай для фашысцкіх варвараў. Яны пазбаўляюць працоўныя масы ўсіх і ўсякіх правоў. У той час як совецкая краіна развівае і пашырае сапраўдную дэмакратыю для совецкага народу, дэмакратыю соцыялістычную, фашызм, учыняючы нябачаныя ў гісторыі здзекі над годнасцю чалавека, імкнецца пацягнуць свет назад, да змрочнай пары сярэдневякоўя.

Жадаючы патапіць у моры крыві ўсё перадавое і прагрэсіўнае чалавецтва, нямецкі, польскі і японскі фашызм шалёна рыхтуецца да новай сусветнай бойні і ў першую чаргу да нападу на Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Але дарэмны іх надзеі. Совецкі народ не дазволіць ні аднаму фашысцкаму псу пераступіць нашы граніцы. На спробу імперыялістаў пасягнуць на нашу соцыялістычную радзіму совецкі народ адкажа такім сакрушальным ударам, «каб у далейшым непаважна было ім соваць сваё свіное рыла ў наш совецкі агарод» **(Сталін).**

Наша краіна магутна і непераможна. Новы Выбарчы закон, прыняты чацвертай сесіяй ЦВК СССР,—яркая ілюстрацыя непахіснасці совецкага ладу. Ажыццяўленне гэтага закона ў надыходзячых выбарах яшчэ больш згуртуе совецкі народ у адзіную брацкую сям'ю, мабілізуе шырокія масы на новыя перамогі за справу Леніна—Сталіна, за канчатковую перамогу комунізма.

---

# Выканаць сталінскі дэкрэт аб дапамозе беларускаму народу

Гістарычную пастанову СНК СССР і ЦК ВКП(б) «Аб аказанні дапамогі калгаснаму сялянству Беларускай ССР і аб ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў справе калгаснага ўпарадкавання» ўвесь беларускі народ сустрэў з вялікай радасцю і здавальненнем.

Совецкі ўрад, партыя большэвікоў і асабіста таварыш Сталін з першых дзён існавання Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі аказвалі дапамогу беларускаму народу ў яго гаспадарча-культурным будаўніцтве і барацьбе з ворагамі, якія імкнуліся гвалтоўна адарваць БССР ад СССР, ад вялікай сям'і совецкага народу і аддаць яе ў рукі белапанскай фашысцкай Польшчы. І зараз, пры дапамозе ЦК ВКП(б), асабіста таварыша Сталіна і слаўных чэкістаў з НКУС, КП(б)Б і беларускі народ выкрыў і разграміў агалцелую банду здраднікаў соцыялістычнай радзімы—фашысцкіх шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў і забойцаў, якія шляхам двурушніцтва і прамога абману здолелі пралезці на адказныя пасты ў совецкія, партыйныя і гаспадарчыя арганізацыі і ўстановы БССР.

Гэтыя бандыты (Бенек, Дзякаў і іншыя) дзейнічалі па прамому ўказанню фашыстаў белапанскай Польшчы.

Сваёй канечнай мэтай крывавая банда польскіх шпіёнаў ставіла гвалтоўны адрыў БССР ад Совецкага Саюза і падпарадкаванне беларускага народу ўладзе польскіх капіталістаў і памешчыкаў. Сваю шкодніцкую работу шпіёнска-дыверсійная банда накіроўвала на аслабленне эканамічнай і абароннай магутнасці БССР і СССР, каб палегчыць справу ўстанаўлення капіталізма ў нашай краіне.

Польскія шпіёны і дыверсанты (Бенек і іншыя), прабраўшыся ў Наркамзем БССР пры прамой падтрымцы ворагаў народу, якія пралезлі на адказныя пасты ў совецкіх органах, накіроўвалі сваю шкодніцкую работу на падрыў соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, імкнуліся падарваць калгасны лад і выклікаць незадаволенасць калгаснага і аднаасобнага сялянства. Польскія шпіёны арганізоўвалі соўгасы на сялянскіх землях, пазбаўлялі калгаснікаў прысядзібных участкаў, адбіралі зямлю ў аднаасобнікаў, пазбаўлялі калгасы, калгаснікаў і аднаасобнікаў пашы для жывёлы, даводзілі да калгасаў і соўгасаў шкодніцкія планы пасеву, развіцця жывёлагадоўлі. Сваю шкодніцкую дзейнасць у галіне сельскагаспадарчай вытворчасці ворагі народу дапаўнялі накладаннем розных незаконных грашовых штрафаў на калгасы, калгаснікаў і аднаасобнікаў, незаконна адбіралі належачыя калгасам лясныя ўчасткі, парушалі севазвароты, праводзілі палітыку паланізацыі. Іх агенты і пасобнікі не спыняліся перад забойствам актывістаў вёскі, энтузіястаў калгаснага будаўніцтва. Рукі здрадніцкай банды акрываў-

лены крывёй лепшых сыноў беларускага народу, бязмежна адданых справе соцыялізма, беззаветна змагаўшыхся за справу Леніна—Сталіна, за справу комунізма. Бандыты (Бенек, Дзякаў і іншыя) злоўлены з палічным і панясуць заслужаную кару.

Пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб аказанні дапамогі калгаснаму сялянству Беларускай ССР і ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў справе калгаснага ўпарадкавання нанесла сакрушальны ўдар прошукам ворагаў беларускага народу, іх шкодніцкай дзейнасці.

Партыя і совецкі ўрад па ініцыятыве таварыша Сталіна вынеслі пастанову аб звароце калгаснікам незаконна адабраных шкоднікамі 32.000 гектараў прысядзібнай зямлі і замене калгаснікам прысядзібных участкаў, адведзеных у палявых землях, участкамі пры сядзібах.

Па рашэнню партыі і ўрада ліквідуецца 138 шкодніцкі арганізаваных соўгасаў, землі якіх, а таксама частка зямлі астаючыхся соўгасаў, усяго ў колькасці 230.000 га, перадаюцца калгасам у іх вечнае карыстанне.

Каб палепшыць абслугоўванне калгасаў машынатрактарнымі станцыямі, у БССР арганізуецца 60 новых МТС і ўвозіцца 900 новых гусенічных трактароў для апрацоўкі калгасных палёў.

Для таго каб забяспечыць увядзенне правільных севазваротаў і павысіць ураджайнасць калгасных палёў, пасеўнае заданне па калгасах БССР у 1938 годзе скарачаецца на 300 тысяч гектараў. Перадаецца калгасам 488 тысяч гектараў лесу дзяржаўнага і мясцовага значэння і знімаюцца з калгаснікаў 15 мільёнаў рублёў недоімак па штрафах за парушэнне правіл лесакарыстання.

Акрамя таго, пастановай ЦК ВКП(б) і СНК СССР прадастаўлен калгасам рад дадатковых ільгот па пастаўках сельскагаспадарчых прадуктаў і нядоімках за мінулыя гады. Прадастаўлены ільготы аднаасобнікам, якія ўступаюць у калгасы.

Калгаснае і аднаасобнае сялянства сустрэла ўсе гэтыя мерапрыемствы партыі і ўрада па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы БССР з выключна вялікім здавальненнем і радасцю.

Старшыні калгасаў на ўсебеларускай нарадзе, выражаючы думку ўсяго сялянства і працоўных мас Совецкай Беларусі, у сваім пісьме таварышу Сталіну і таварышу Молатаву гавораць:

«Яшчэ і яшчэ раз, наш родны таварыш Сталін, ад імя 5 мільёнаў беларускага сялянства, ад усяго нашага сэрца дзякуем Вам за клопаты аб беларускім народзе».

«Нашай радасці няма межаў,—гаворыць калгаснік Асташаў Іван з калгаса «Ленінскі шлях», Бабруйскага раёна, на мітынгу ў полі.— Што ні дзень, мы атрымліваем ўсё новую і новую вестку аб матчыных клопатах нашай партыі, нашага ўрада аб нас, калгасніках. Пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) прынесла бязмежную радасць у кожную сям'ю як калгасніка, так і аднаасобніка».

Пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) з'яўляецца магутнаю зброяй у руках КП(б)Б у барацьбе за хутчэйшую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы БССР і мабілізацыі мас сялянства і ўсіх працоўных нашай рэспублікі на выкарчоўку рэштак трацкісцка-бухарынскай і нацдэмаўскай банды фашысцкіх шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў.

Важнейшая задача ўсёй КП(б)Б, совецкіх зямельных органаў БССР, кожнай партыйнай арганізацыі і комуніста—безагаворачна выканаць гэту важнейшую пастанову партыі і ўрада ў вызначаныя пастановай тэрміны.

З паасобных раёнаў паступаюць ужо трывожныя сігналы аб тым, што не ўсе партыйныя арганізацыі і іх кіраўнікі прынялі неабходныя меры па ажыццяўленню пастановы партыі і ўрада.

Пастанова патрабавала, каб к 15 жніўню была закончана работа па адводу калгаснікам прысядзібных участкаў. У Бягомельскім раёне на 14 жніўня гэта работа закончана толькі па трох сельсоветах: Асоўскім, Нідальскім, Бягомельскім. Сакратар райкома партыі тав. Дэйч і старшыня РВК тав. Шэмпель не ведаюць, колькі гаспадарак калгаснікаў не маюць устаноўленай нормы прысядзібнай зямлі.

У Хоцімскім раёне, паводле звестак, паступіўшых у ЦК КП(б)Б, на 14 жніўня яшчэ не надзелены прысядзібнымі ўчасткамі 900 калгасных двароў.

У Веткаўскім раёне з 500 гаспадарак, якія не маюць мінімальнай нормы прысядзібнай зямлі, надзелена толькі 120 двароў. У Глускім раёне з 5749 гаспадарак надзелена мінімальнай нормай усяго 2.420. У Пухавіцкім—з 2.058 надзелена толькі 593 гаспадаркі і т. д.

Злачынная маруднасць у выкананні важнейшай пастановы партыі і ўрада сведчыць аб тым, што кіраўнікі партыйных і савецкіх арганізацый гэтых раёнаў—сакратары РК КП(б)Б і старшыні РВК—не зразумелі ўсёй сур'ёзнасці задачы і адказнасці перад ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б за хутчэйшую ліквідацыю вынікаў шкодніцкай дзейнасці шпіёнаў і дыверсантаў польска-нямецкага фашызма.

Усякім спробам, з чыйго боку яны ні былі-б, затармазіць ажыццяўленне гістарычнага рашэння ЦК ВКП(б) і СНК СССР неабходна даць рашучы адпор. Кожны комуніст павінен зразумець, што толькі прытаіўшыяся ворагі народу і соцыялізма могуць перашкаджаць нам у ажыццяўленні таго, што запісана ў гэтым сталінскім дэкрэце. Партыйныя арганізацыі і комуністы абавязаны неадкладна выявіць усіх, хто з'яўляецца віноўнікам маруднага выканання пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР, праверыць іх палітычны твар і даць ім па заслугах, бо ўсякі тормаз, усякая зацяжка ў ажыццяўленні пастановы партыі ўрада ёсць злачынства, якое не можа быць цярпімым.

Барацьба за своечасовае выкананне пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР—пярвейшы абавязак кожнай партыйнай, савецкай, зямельнай арганізацыі, кожнага комуніста.

**
*

За апошні час КП(б)Б, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і асабіста таварыша Сталіна, пры дапамозе органаў НКУС выкрыла не мала шпіёнска-дыверсійных і шкодніцкіх элементаў з лагера трацкісцка-бухарынскай банды і беларускіх нацыянал-фашыстаў, якія на працягу многіх год тварылі сваю контррэволюцыйную справу. Выкрыццё такіх ворагаў, як Бенек, Дзякаў і інш., не дае аднак нам права супакоіцца, аслабіць рэволюцыйную пільнасць. Трэба памятаць, што вораг хітра маскуецца, часам выступае нават з «вострай крытыкай» палітычнай бесклапотнасці паасобных людзей. Гэтым манеўрам вораг імкнецца адвесці ад сябе падазрэнне і накіраваць пільнасць комуністаў на ложны шлях.

Бенек, Дзякаў і іншыя ад'яўленыя ворагі народу, здолеўшы прабрацца на адказныя пасты, падбіралі ў апарат падхалімаў і верных сабе людзей, аддаляючы ад сябе людзей вытрыманых, адданых партыі і совецкаму народу. Яны імкнуліся насаджаць класавых ворагаў не

толькі вакол сябе, але і ва ўсёй сістэме, дзе яны знайшлі сабе прытулак. Таму ні на мінуту мы не можам супакоіцца тым, што выкрыты главары здрадніцкай банды шпіёнаў і дыверсантаў нямецка-польскага і японскага фашызма. Бязлітасна граміць і знішчыць усіх здраднікаў совецкага народу, усіх ворагаў соцыялізма—свяшчэнны абавязак кожнага большэвіка, партыйнага і непартыйнага.

У справе выяўлення і ліквідацыі вынікаў шкодніцтва мы не маем яшчэ рашучага зруху на радзе ўчасткаў гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, і там працягвае арудваць класавы вораг.

Аб гэтым гаворыць шкодніцкі маруднае будаўніцтва Магілеўскага косцеапрацоўчага завода, пачатае яшчэ ў 1929 годзе. Прайшло 7 год, а завод яшчэ не гатовы, тым часам як будаўніцтва магло быць закончана за 2—3 гады.

Аб гэтым гавораць факты злачыннага ігнаравання і сабатажу ў разгортванні стаханаўскага руху на радзе прадпрыемстваў БССР. На заводзе імя Варашылава (Менск) зарваўшыяся бюракраты і прытаіўшыяся класавыя ворагі пры яўным патуранні партыйнага камітэта, заўкома і заводакіраўніцтва «пабудавалі» сістэму зарплаты так, што рабочыя-стаханаўцы, якія перавыконваюць норму, зарабляюць менш тых рабочых, якія даюць толькі 100 проц. нормы. Рабочае месца «арганізавана» так, каб стаханавец траціў лішні час на пошукі неабходных інструментаў і дэталяў, прастойваў, не выконваў нормы. Заявы і прапановы стаханаўцаў аб лепшай арганізацыі работы марнуюцца ў кішэнях комуністаў—начальнікаў цэхаў, якія не хочуць нават прыслухацца да сігналаў рабочых. Пазіцыю бяздзейнасці занялі партком, заўком і заводакіраўніцтва.

Прыведзеныя факты сведчаць аб тым, што на заводзе імя Варашылава арудуюць прытаіўшыяся класавыя ворагі, а партыйны камітэт не прымае мер для мабілізацыі рабочай масы на выкрыццё канкрэтных шкоднікаў.

Газеты «Звязда» і «Рабочий» сігналізуюць, што ў Акадэміі Навук, у кандзіцерскай прамысловасці БЕЛКМО, на беларускай чыгунцы, у гандлёвай сетцы і на іншых участках яшчэ не выкарчаваны ворагі народу, якія сваімі шкодніцкімі справамі імкнуцца падарваць магутнасць і абароназдольнасць нашай краіны.

З прыведзенага ясна, што паасобныя партарганізацыі і іх кіраўнікі працуюць па-старынцы, што яны не зрабілі для сябе палітычных вывадаў з рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна, не перамаглі ідыёцкую хваробу—палітычную бесклапотнасць і благадушша.

Таварыш Сталін не раз папярэджаваў нас, што пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, капіталістычныя дзяржавы будуць весці барацьбу супроць Совецкага Саюза, каб аслабіць яго, падарваць яго магутнасць. На XVI і XVII з'ездах таварыш Сталін заклікаў партыю і ўсіх комуністаў быць пільнымі да прошукаў капіталістычных краін і іх агентаў унутры нашай краіны.

На лютаўскім Пленуме ЦК ВКП(б) таварыш Сталін зноў папярэджваў нас аб гэтым. Ён указаў:

> «Капіталістычнае акружэнне—гэта не простая фраза—гэта вельмі рэальная і непрыемная з'ява. Капіталістычнае акружэнне—гэта значыць, што ёсць адна краіна, Совецкі Саюз, якая ўстанавіла ў сябе соцыялістычныя парадкі, і ёсць, апрача таго,

многа краін—буржуазныя краіны, якія прадаўжаюць весці капіталістычны вобраз жыцця і якія акружаюць Савецкі Саюз, чакаючы выпадку для таго, каб напасці на яго, разбіць яго або, ва ўсякім выпадку,—падарваць яго магутнасць і аслабіць яго».

На яркіх прыкладах таварыш Сталін паказаў, што рэальна азначае гэта акружэнне, як дзейнічаюць капіталістычныя дзяржавы адна супроць другой, засылаючы сваіх шпіёнаў, дыверсантаў, забойцаў у тыл адна да другой, каб падарваць яго магутнасць. У звярынай нянавісці да Савецкага Саюза—бацькаўшчыны соцыялізма—фашысцкія дзяржавы засылаюць і будуць імкнуцца засылаць у нашыя тылы ўдвая і ўтрая больш шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў і тэрарыстаў.

«Ці не ясна,—гаворыць таварыш Сталін,—што пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, будуць існаваць у нас шкоднікі, шпіёны, дыверсанты і забойцы, засылаемыя ў нашы тылы агентамі замежных дзяржаў?»

Карыстаючыся нашай палітычнай слепатой і бесклапотнасцю, агенты фашызма здолелі заслаць на тэрыторыю БССР і завербаваць з трацкісцка-бухарынскага і нацдэмаўскага атрэп'я не мала дыверсантаў, шпіёнаў і шкоднікаў, выкрытых толькі ў апошні час. Прымежнае становішча нашай рэспублікі накладае асабліва вялікую адказнасць на КП(б)Б, на кожнага партыйнага і непартыйнага большэвіка ў справе барацьбы з фашысцкай агентурай. Кожная партарганізацыя, кожны комуніст павінен памятаць, што некалі ў БССР было нямала розных контррэволюцыйных нацыяналістычных партый і плыней (эсэры, бундаўцы, нацдэмы і т. п.), не мала элементаў трацкісцкага і права-апартуністычнага толку. Рэшткі гэтых разгромленых контррэволюцыянераў, асеўшых у БССР,—каштоўная знаходка для фашысцкіх дзяржаў і іх разведак. Наша задача—знішчыць класавага ворага з карэннем. Для гэтага неабходна ўзмоцнена працаваць над павышэннем палітычнага ўзроўню комуністаў і комсамольцаў, іх большэвіцкай загартаванасці, аўладання большэвізмам. Разам з тым, партыйныя арганізацыі і кожны комуніст абавязаны праводзіць сістэматычную работу сярод беспартыйных мас горада і вёскі, выхоўваючы ў іх нянавісць да ўсякіх ворагаў народу, мабілізуючы на бязлітаснае выкарчоўванне паследышаў дыверсійна-шпіёнскіх банд нямецка-польска-японскага фашызма. Совецкая зямля павінна быць ачышчана ад подлых падонкаў чалавечага роду—фашысцкіх наймітаў і здраднікаў радзімы.

Важнейшая задача партыйных арганізацый КП(б)Б, кожнага комуніста, зямельных і совецкіх органаў—давесці да свядомасці кожнага калгасніка і аднаасобніка важнасць гістарычнай пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб дапамозе беларускаму народу, растлумачыць велізарную ролю гэтай пастановы ў справе хутчэйшай ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы БССР.

Задача ўсёй КП(б)Б і кожнага комуніста—сваёй штодзённай работай дапамагчы ажыццяўленню клятвы, данай усебеларускай нарадай старшынь калгасаў у пісьме таварышу Сталіну:

«Клянемся і абяцаем ад імя ўсіх калгаснікаў Беларусі з сапраўднай большэвіцкай энергіяй і сталінскай настойлівасцю змагацца за тое, каб ліквідаваць вынікі шкодніцтва, своечасова і без страт убраць багаты ўраджай бягучага года і на справе ў найкарацейшы тэрмін выканаць Ваш лозунг, таварыш Сталін: «зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў,—заможнымі».

Кіраўнікі партыйных і совецкіх арганізацый нашай рэспублікі абавязаны зараз-жа прынядь усе меры, каб поўнасцю і своечасова выканаць пастанову СНК СССР і ЦК ВКП(б), надзяліць усе калгасныя двары прысядзібнымі ўчасткамі па ўстаноўленай норме, арганізаваць работу па ліквідацыі шкодніцкі арганізаваных соўгасаў і перадачу іх зямель калгасам у іх вечнае карыстанне, адвесці для калгасаў вызначаныя пастановай лясныя плошчы і ажыццявіць усе ільготы, якія прадугледжаны пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) для калгасаў, калгаснікаў і для аднаасобнікаў пры іх уступленні ў калгасы.

Прадастаўленыя аднаасобнікам ільготы пры іх уступленні ў калгасы неабходна шырока папулярызаваць сярод сялян-аднаасобнікаў і арганізаваць работу па ўцягненню іх ў калгасы.

Своечасовым выкананнем пастановы партыі і ўрада забяспечым хутчэйшае залячэнне ран, нанесеных беларускаму народу подлымі бандытамі, каварнымі ворагамі народу.

# Як карыстацца падручнікамі палітграматы

Выпушчаныя Партвыдатам ЦК ВКП(б) у гэтым, 1937, годзе падручнікі па палітграмаце (Б. Волін і С. Інгулаў—«Политграмота», другое выданне; С. Інгулаў—«Политбеседы», выданне трэцяе, перапрацаванне; В. Карпінскі—«Беседы о социализме», выданне чацвертае, перапрацаванае) хоць і правільна выкладаюць асновы праграмы і палітыкі партыі, маюць, аднак, рад істотных недахопаў, на якія трэба звярнуць увагу прапагандыстаў і слухачоў, якія карыстаюцца гэтымі падручнікамі.

Падручнік Воліна і Інгулава («Политграмота») быў падпісан да друку 28 снежня 1936 года, падручнік Інгулава («Политбеседы») быў падпісан да друку 8 студзеня 1937 года, а падручнік Карпінскага («Беседы о социализме»)—20 студзеня 1937 года. Зданы-ж у друк гэтыя падручнікі былі яшчэ раней.

Такім чынам, ні ў адным з гэтых падручнікаў не знайшлі адлюстравання рашэнні лютаўска-сакавіцкага (1937 года) Пленума ЦК ВКП(б). Не знайшло свайго адлюстравання таксама пісьмо таварыша Сталіна «Аб падручніку па гісторыі ВКП(б)».

Перад загадчыкамі аддзеламі партыйнай прапаганды і агітацыі крайкомаў, абкомаў, райкомаў, перад сакратарамі парткомаў стаіць зараз задача—указаць прапагандыстам на маючыяся ў падручніках палітграматы недахопы і прабелы. А прапагандысты—кіраўнікі школ палітграматы—павінны ў выкладанні ўнесці адпаведныя дадаткі да матэрыялаў падручнікаў і выпраўленні іх, кіруючыся дакладам і заключным словам таварыша Сталіна на лютаўска-сакавіцкім Пленуме ЦК ВКП(б), рашэннямі гэтага Пленума па дакладу таварыша Жданава, а таксама пісьмом таварыша Сталіна ўкладальнікам падручніка па гісторыі ВКП(б).

Прапагандысты павінны дапаўняць матэрыялы падручнікаў падрабязным растлумачэннем пытання аб капіталістычным акружэнні СССР, паказаць з дастатковай паўнатой і яснасцю супярэчнасць паміж СССР і буржуазнымі краінамі, «якія прадаўжаюць весці капіталістычны вобраз жыцця і якія акружаюць Совецкі Саюз, чакаючы выпадку для таго, каб напасці на яго, разбіць яго ці, ва ўсякім выпадку—падарваць яго магутнасць і аслабіць яго» **(Сталін.)**

Асабліва неабходна растлумачэнне гэтых пытанняў пры вывучэнні раздзелаў аб дыктатуры пролетарыята, аб соцыялізме і комунізме, аб Комуністычным Інтэрнацыянале. Трэба растлумачваць слухачам, «Што пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, будуць існаваць у нас шкоднікі, шпіёны, дыверсанты і забойцы, засылаемыя ў нашы тылы агентамі замежных дзяржаў» **(Сталін).**

Няправільным з'яўляецца таму маючаеся ў «Политбеседах» Інгулава (стар. 160) наступнае цверджанне: «У той час як пераход ад капі-

талізма да соцыялізма робіцца ва ўмовах разлютаванай класавай барацьбы пролетарыята супроць эксплаататараў, пераход ад соцыялізма да комунізма адбываецца ўжо ў грамадстве, у якім класы ліквідаваны, дзе, значыць, няма супраціўлення пераходу да новага грамадскага ладу».

Не цяжка заўважыць, што цверджанне, што пераход ад соцыялізма да комунізма робіцца ў абстаноўцы, калі быццам няма супраціўлення варожых класаў, знаходзіцца ў вялізнай супярэчнасці з сапраўднасцю.

Нельга забываць об тым, што ў нашай краіне ёсць астаткі разбітых эксплаататарскіх класаў, якія азлоблена супраціўляюцца соцыялізму, і нельга забываць аб капіталістычным акружэнні.

Ва ўсім ходзе вывучэння палітграматы трэба растлумачыць слухачам, што барацьба за ўмацаванне і развіццё соцыялізма, якую вядуць зараз працоўныя Совецкага Саюза пад кіраўніцтвам ВКП(б) і вялікага Сталіна, адбываецца ў абстаноўцы капіталістычнага акружэння, калі фашысцкія і іншыя імперыялістычныя дзяржавы засылаюць у краіну соцыялізма сваіх шпіёнаў, усякім способам прабуюць ажывіць асколкі разбітых эксплаататарскіх класаў, сярод якіх першае месца займаюць трацкісцкія і правыя рэстаўратары капіталізма—гэтыя фашысцкія бандыты, шкоднікі, шпіёны і дыверсанты.

У падручніках толькі спамянута аб працэсе трацкісцкага паралельнага цэнтра (Пятакоў, Радэк і інш.) і—зусім зразумела—не сказана аб працэсе фашысцкіх шпіёнаў і шкоднікаў: Тухачэўскага, Якіра і інш. Усе вывады і ўрокі, якія выцякаюць у адносінах трацкізма ў сувязі з працэсамі трацкісцка-зіноўеўскай банды, у падручніку палітграматы не асветлены.

Таму прапагандысты павінны будуць самі папоўніць новымі матэрыяламі характарыстыку той эвалюцыі, якую прарабілі трацкісты і правыя ўхілісты за апошнія гады, растлумачыць слухачам у адпаведнасці з дакладам таварыша Сталіна і яго заключным словам на лютаўска-сакавіцкім Пленуме ЦК ВКП(б), што трацкісты і правыя даўно ўжо перасталі быць палітычнай плынню ў рабочым класе, што з антыленінскай палітычнай плыні, якою яны былі калісьці, яны даўно ўжо ператварыліся ў безыдэйную і беспрынцыпную банду тэрарыстаў, шпіёнаў, дыверсантаў, шкоднікаў, якія знаходзяцца на службе япона-германскіх разведак, і паставілі сабе задачай пры дапамозе фашысцкай інтэрвенцыі дабіцца аднаўлення капіталізма ў СССР.

Пры праходжанні тэмы аб Комінтэрне трэба будзе асвятліць здрадніцкую работу трацкістаў у Іспаніі. У раздзелах аб Комінтэрне не расказваецца аб той барацьбе, якую Комінтэрн вёў у сваіх радах з правымі рэнегатамі і з трацкістамі, якія складаюць у сучасны момант замежныя рэзервы трацкісцка-бухарынскай банды.

Пры праходжанні тых раздзелаў і гутарак падручнікаў, дзе гаворыцца аб будове партыйных органаў і аб унутрыпартыйнай дэмакратыі, прапагандысты павінны растлумачыць слухачам рашэнні лютаўска-сакавіцкага Пленума ЦК ВКП(б) аб падрыхтоўцы партыйных арганізацый да выбараў у Вярхоўны Совет СССР па новай выбарчай сістэме і адпаведнай перабудове партыйна-палітычнай работы. Асабліва трэба будзе растлумачыць (што не адлюстравана ў падручніках) пытанне аб устанаўленні пры выбарах парторганаў закрытага (тайнага) галасавання кандыдатаў. Ва ўсім ходзе вывучэння палітграматы трэба растлумачваць сэнс і значэнне высунутага таварышом Сталіным лозунга авалодвання большэвізмам, укараняючы ў свядомасць слухачоў,

што авалодванне вучэннем Леніна-Сталіна—гэта ўменне лавіць і знішчаць трацкістаў і правых—германа-японскіх шпіёнаў і дыверсантаў.

Раздзелы падручнікаў, у якіх характарызуюцца важнейшыя моманты ў гісторыі партыі, маюць рад недахопаў, даюць няверную перыядызацыю гісторыі ВКП(б). Няма перш за ўсё дакладнага ўказання на тое, што РСДРП як марксісцкая партыя была створана ў 1903 годзе. У «Политбеседах» Інгулава, у гутарцы восьмай, у параграфе «Стварэнне Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі», ёсць супярэчнасць з тымі ўказаннямі, якія даў таварыш Сталін адносна перыядызацыі гісторыі ВКП(б). У гэтым параграфе стварэнне Расійскай соцыял-дэмакратычнай рабочай партыі няправільна датыруецца з адбыўшагася ў Менску ў 1898 годзе Першага з'езда.

Не паказана таксама, што перыяд 1903—1912 гадоў з'яўляецца перыядам, калі бальшэвікі і меншавікі фармальна знаходзіліся ў адной партыі, за выключэннем кароткачасовага этапу пасля III з'езда РСДРП (хаця ў падручніку Воліна і Інгулава і правільна сказана, што «пасля Пражскай канферэнцыі бальшэвіцкая партыя стала канчаткова самастойнай, парваўшы нават фармальныя сувязі з меншавікамі» (гл. стар. 57).

Няправільна датыруецца ў падручніках перыяд уздыму рабочага руху перад першай імперыялістычнай вайной. У падручніку Воліна і Інгулава напісана, што новы ўздым масавага рабочага руху пачаўся з лета 1910 года (стар. 56), між тым, як пачаткам гэтага перыяда ўздыму ў сапраўднасці з'яўляецца 1912 год, які азнамянован ленскімі падзеямі і паследаваўшымі за імі палітычнымі стачкамі.

У падручніку няправільна гаворыцца, што перыяд перамогі пралетарскай рэвалюцыі вызначаецца прамежкам часу верасень-кастрычнік 1917 года (стар. 65). У кастрычніцкія дні рэвалюцыя перамагла толькі ў Петраградзе; у правінцыі гэта перамога зацягнулася на канец 1917 і на 1918 год, так што перыяд падрыхтоўкі і правядзення Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі цягнуўся з красавіка 1917 па 1918 год.

Знішчыць гэтыя недахопы пры праходжанні падручніка палітграматы не азначае, што слухачы гурткоў палітграматы павінны зусім адмовіцца ад праходжання гэтага раздзела падручніка і што азнаямленне іх з важнейшымі момантамі ў гісторыі партыі трэба весці таксама, як і ў гуртках, якія спецыяльна вывучаюць гісторыю ВКП(б). Прапагандысту трэба мець на ўвазе ўказаныя вышэй памылкі і растлумачыць іх слухачам, кіруючыся пісьмом таварыша Сталіна ўкладальнікам падручніка па гісторыі ВКП(б).

Звяртаем увагу прапагандыстаў на наступную апячатку ў тэксце падручніка Карпінскага, якая скажае сэнс. На стар. 411 і 470 падручніка В. Карпінскага надрукавана: «Партыя бярэцца за соцыялістычную перабудову народнай гаспадаркі», замест «... змагаецца за соцыялістычную перабудову народнай гаспадаркі».

Аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б) прапанаваў Партвыдату, каб у кароткі тэрмін былі зроблены ўсе неабходныя выпраўленні і выпушчаны новыя выданні гэтых падручнікаў.

**(«В помощь партийной учебе»).**

---

# Аб падрыўной дзейнасці фашысцкіх разведак у СССР і задачах барацьбы з ёю*)

За апошні час савецкая разведка выкрыла рад шпіёнаў, дыверсантаў, шкоднікаў—агентаў фашысцкіх разведак. Следства і суд над бандытамі раскрылі страшэнныя злачынствы фашысцкіх наймітаў—злейшых ворагаў народу—трацкістаў, бухарынцаў, тухачэўскіх, гамарнікаў, якіраў і інш. Уся гэта здрадніцкая падаль атрымала па заслугах.

Сталінскі заклік да пільнасці і бязлітаснай барацьбы з фашысцкімі шпіёнамі знайшоў гарачы водгук у самых шырокіх масах савецкага народу. Выкурваючы шпіёнаў з іх нор і шчылін, працоўныя нашай вялікай соцыялістычнай радзімы знаёмяцца з подлымі сродкамі і спосабамі падрыўной дзейнасці фашысцкіх разведак, вучацца распазнаваць, выкрываць ворага, пад якой-бы маскай ён ні скрываўся.

I

Рыхтуючы напад на СССР, фашызм задаецца каварнай мэтай—папярэдне, да адкрытага ўдару, падарваць абаронную магутнасць нашай краіны падпольнай, тайнай вайной. Для гэтай гнуснай і подлай тайнай вайны ворагі Савецкага Саюза маюць спецыяльныя ўстановы—разведкі. Прамая задача фашысцкіх разведак заключаецца ў тым, каб выведаць нашы дзяржаўныя і ваенныя тайны, узрываць нашы фабрыкі, заводы, электрастанцыі, чыгункі, з-за вугла забіваць працоўных і іх кіраўнікоў, шкодзіць Савецкаму Саюзу любымі спосабамі, не грэбаючы нічым. Засылаючы сваіх агентаў адна да другой, фашысцкія дзяржавы засылаюць да нас, у тылы Савецкага Саюза, як гаварыў таварыш Сталін, «удвоя і ўтрая больш шкоднікаў, шпіёнаў, дыверсантаў і забойцаў, чым у тылы любой буржуазнай дзяржавы».

Разведкі капіталістычных краін—гэтыя штабы тайнай вайны супроць СССР—служаць фашызму. Яны з'яўляюцца злейшым ворагам дэмакратыі, ворагам палітыкі міру. Унутры сваіх краін буржуазія выкарыстоўвае разведку для барацьбы з нарастаючым рэволюцыйным рухам працоўных мас. З дапамогай шпіянажу і правакацый фашысты распраўляюцца з народам—з рабочым класам, сялянствам, інтэлігенцыяй. Але хто-ж ажыццяўляе заданні разведчых органаў капіталістычных дзяржаў? Каго выкарыстоўваюць разведкі для таго,

---

*) Артыкул перадрукоўваецца з „Праўды" за 29 і 30 ліпеня 1937 г.

каб выкрадваць ваенныя тайны Савецкага Саюза, праводзіць шкодніцтва на нашых прадпрыемствах, рабіць дыверсіі, узрывы, падпалы, забойствы працоўных.

Фашысцкія разведкі не могуць разлічваць на тое, каб прыцягнуць у рады сваіх агентаў працоўных—рабочых, сялян, інтэлігенцыю сваіх краін. Разведкі капіталістычных дзяржаў добра ведаюць, што сімпатыі працоўных мас усяго чэснага чалавецтва—на старане Савецкага Саюза. Ды і як можа фашысцкая разведка прапанаваць працоўнаму ісці падпальваць савецкія заводы, забіваць рабочых СССР, шпіёніць, падрываць магутнасць першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы. Кожны чэсны чалавек ва ўсім свеце з абурэннем адкіне гэту гнусную прапанову.

Толькі брудныя рукі могуць рабіць брудную справу.

На службе замежных разведак знаходзяцца чалавечыя адкіды. Капіталістычныя разведкі набіраюць сабе работнікаў з свету крымінальных злачынцаў, прастытутак, авантурыстаў, дэкласаваных элементаў. Мярзаўцы, для якіх няма ні ідэй, ні прынцыпаў, нічога свяшчэннага, правакатары, здраднікі, гатовыя пайсці на ўсё дзеля грошай, грабежнікі, наёмныя забойцы, машэннікі, белаэміграцкая падаль, выкінутая Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай Рэволюцыяй за межы нашай краіны,—усё гэта чалавечае смецце пастаўляе супрацоўнікаў разведкам капіталістычных дзяржаў.

Разведкі капіталістычных краін будуюць сваю работу на выкарыстанні самых нізкіх пабуджэнняў і ўласцівасцей. Карыснасць і брудныя парокі, звярыная нянавісць да народу і безыдэйнасць—вось на чым трымаецца іх дзейнасць.

Яркім прыкладам можа служыць заява на імя пракурора Саюза ССР тав. Вышынскага, напісаная пасля арышту буйным дыверсантам, які арудваў у нашай краіне.

«Перад тым, як прадстаць перад судом СССР, я хачу растлумачыць Вам прычыны, штурхнуўшыя мяне на злачынства. Я сазнаю, што, займаючыся разведвальнай дзейнасцю, рыхтуючы разбуральныя акты, нанёс вялікую шкоду інтарэсам той краіны, якая дала мне прытулак і работу. За ўсё сваё жыццё я ніколі не цікавіўся палітыкай, яна мне чужда. Усё маё жыццё складалася з куцяжоў, жанчын і карт. Я вёў разгульнае жыццё і не зварочваў увагі на тое, што тварылася ў той краіне, у якой я жыў. Таму, калі мне прапанавалі заняцца шпіянажам, я не стаў раздумваць і згадзіўся на злачынства. Чаму? Я адказваю на гэта проста—мне патрэбны былі грошы, а мне іх прапанавалі. Калі-б хто другі прапанаваў мне займацца шпіянажам для разведкі любой краіны, я таксама-б згадзіўся, абы плацілі грошы. Да шпіянажу я прыцягваў людзей, якія вялі такое-ж жыццё, як і я.

З усіх прыцягнутых мной да шпіянажу Вы не знойдзеце ні аднаго чэснага чалавека. Усе любілі шырокі разгул і грошы і таму лёгка ішлі на злачынства».

Так гавораць самі аб сабе агенты замежных разведак.

У СССР разведкі замежных дзяржаў маюць сваю агентуру ў асобе рэштак варожых нам класаў, разгромленых антысавецкіх партый і груповак, у асаблівасці—трацкістаў і правых здраднікаў. Разведкі ахвотна вярбуюць агентаў з былых кулакоў, белагвардзейскіх афіцэраў, рэштак контррэволюцыйных партый, меншавікоў,

эсэраў, анархістаў, буржуазных нацыяналістаў: дашнакаў, мусаватыстаў, нацыянал-дэмакратаў, барбістаў, барацьбістаў, алашордынцаў.

Але асабліва прыгоднымі для ролі агентаў фашысцкіх разведак аказаліся злейшыя ворагі народу—трацкісты і правыя здраднікі.

Трацкісцка-зіноўеўскія і бухарынска-рыкаўскія бандыты—адданыя халопы фашысцкіх разведак, бо яны не грэбаюць самымі гнуснымі, самымі агіднымі сродкамі барацьбы супроць сваёй радзімы. Загадае замежная разведка наладзіць крушэнне на чыгунцы, узарваць мост, атруціць рабочых, забіць партыйнага або совецкага работніка—трацкісцкая мразь і правыя здраднікі гатовы на ўсё, пойдуць на любое злачынства. Уся-ж гэта контррэволюцыйная падаль злобна ненавідзіць социялістычны лад і прагне аднаўлення капіталізма.

Трацкісцкія і правыя выра́дкі прыгодны для ролі фашысцкіх агентаў галоўным чынам таму, што яны—вопытныя двурушнікі, добра замаскаваныя лазутчыкі, прайшоўшыя вялікую «школу» тайнай падрыўной барацьбы супроць партыі і совецкай улады.

Трацкісты і правыя здраднікі недарма стараліся выкарыстаць партыйны білет як сродак маскіроўкі сваёй гнуснай дзейнасці.

> «... Маючы партыйныя білеты і прыкідваючыся прыяцелямі совецкай улады, яны,—гаварыў таварыш Сталін,—ашуквалі нашых людзей **палітычна,** злоўжывалі давер'ем, шкодзілі ўціхамолку і адкрывалі нашы дзяржаўныя сакрэты ворагам Совецкага Саюза. «Перавага» сумніцельная па сваёй палітычнай і маральнай каштоўнасці, але ўсё-ж «перавага». Гэтай «перавагай» і тлумачыцца, уласна, тая акалічнасць, што трацкісцкія шкоднікі, як людзі з партбілетам, маючыя доступ ва ўсе месцы нашых установ і арганізацый, аказаліся прамой знаходкай для разведчых органаў замежных дзяржаў» *).

Таварыш Сталін паказаў таксама, з каго складаюцца рэзервы трацкісцкіх шкоднікаў, шпіёнаў, дыверсантаў—агентаў замежных разведак у СССР, а таксама за рубяжом. У СССР—гэта рэшткі разбітых эксплаататарскіх класаў—памешчыкаў, буржуазіі, кулацтва.

За межамі СССР рэзервы трацкізма складаюцца з цэлага раду груп і арганізацый, варожых Совецкаму Саюзу. Такія здраднікі, як Шэфло ў Нарвегіі, Суварын ва Францыі, Рут Фішэр, Маслоў, Урбанс з Германіі, Істмен у Амерыцы, трацкісцкія групкі ў Іспаніі, трацкісцкі контррэволюцыйны IV Інтэрнацыянал, «складаючыйся,—як указаў таварыш Сталін,—на дзве трэці з шпіёнаў і дыверсантаў»,—усё гэта рэзервы разведак капіталістычных дзяржаў.

## II

Фашысцкія разведкі праводзяць специяльную падрыхтоўку агентаў, намячаемых імі для перакідкі ў СССР. На асобых курсах будучыя шпіёны, дыверсанты і шкоднікі вывучаюць тэхніку дыверсій, фатаграфію, радыёсправу, тайнапісь. Для таго, каб шпіён, будучы ў СССР, мог лепш маскавацца, ён вывучае совецкую літаратуру, чытае совецкія газеты. Зварачаецца ўвага на тое, каб шпіён вывучаў быт совецкага народу, ведаў нашы песні, усвоіў мову, новыя выразы, словы.

---

*) **Сталін.** Аб недахопах партыйнай работы і мерах ліквідацыі трацкісцкіх і іншых двурушнікаў. Партвыдат ЦК ВКП(б), 1937 г., стар. 16.

Пасля такой падрыхтоўкі разведкі ажыццяўляюць перакідку агента ў СССР. Для перакідкі шпіёнаў ужываюцца самыя рознастайныя спосабы. У адных выпадках разведка дапамагае свайму агенту тайна перайсці граніцу. У другіх выпадках разведка стварае свае арганізацыі, дзейнічаючыя пад «комуністычным» сцягам. У гэтыя арганізацыі насаджаюцца мацёрыя шпіёны. Затым інсцэніруецца «правал» «комуністычнай» арганізацыі і «пабег» яе работнікаў у СССР.

Так дзейнічала, напрыклад, польская разведка, насадзіўшая сваіх агентаў, правакатараў, шпіёнаў у арганізацыі комуністычнай партыі Заходняй Украіны, у «Беларускую Грамаду».

Недарма кадры польскай разведкі выхаваны Пілсудскім, які, як вядома, яшчэ ў 1904—1905 гг. быў звязан з японскай разведкай.

Побач з польскай разведкай можна назваць японскую, стварыўшую шпіёнскія арганізацыі ў Карэі пад выглядам «левых» груп і партый.

Адзін шпіён суседняй краіны быў перакінут на тэрыторыю СССР наступным чынам:

Па заданню разведкі гэты шпіён—назавем яго Ц.—напіўся ў адным з рэстаранаў правінцыянальнага гарадка, дзе ён пражываў, і ўчыніў п'яны дэбош. У п'яным выглядзе Ц. спяваў «Інтэрнацыянал». На наступны дзень у мясцовай газеце з'явілася заметка, якая падрабязна апісвала выпадак з Ц., як выхадку скрытага бальшэвіка.

З выразкай з газеты ў кішэні Ц. быў нелегальна перапраўлен разведкай на наш бок. Ён сам з'явіўся да пагранічнай аховы і ў якасці «рэкамендацыі» прад'явіў заметку з газеты.

Нярэдка перабегшы граніцу шпіён з'яўляецца да совецкіх пагранічнікаў і заяўляе, што ён дызертыраваў з арміі суседняй дзяржавы. Распісваючы сваё «жаданне» жыць і працаваць у СССР, такі шпіён разлічвае астацца ў Совецкай краіне, устроіцца на работу і затым пачаць шпіёнска-дыверсійную дзейнасць. Часам шпіён, перайшоўшы граніцу, «выкрывае» сябе перад пагранічнай аховай. Ён «расказвае» аб атрыманых ім ад замежнай разведкі заданнях. Такім шляхам шпіён прабуе адвесці ад сябе якое-б там ні было падазрэнне. У гэтым выпадку фальшывае «самавыкрыццё» выкарыстоўваецца для лепшай маскіроўкі сапраўднай шпіёнскай работы.

Нямала шпіёнаў перакідваецца ў СССР пад выглядам замежных спецыялістаў. Так, напрыклад, фашыст, германскі падданы, інжынер Штыклінг выкарыстаў сваё становішча «спецыяліста» на Кемераўскіх рудніках для шкодніцтва і падрыўной дзейнасці разам з сваімі трацкісцкімі наймітамі. На судзе Штыклінг прызнаў, што ён прыбыў у СССР з мэтай нанесці шкоду совецкай дзяржаве, для шкодніцкай работы і дыверсій. Асуджаны па справе антысовецкага трацкісцкага цэнтра, здраднік і дыверсант, германскі шпіён трацкіст Шэстоў расказаў на судзе, што ў Заходняй Сібіры арудавала цэлая шайка нямецкіх дыверсантаў, якія прабраліся на прадпрыемствы ў якасці замежных спецыялістаў.

Шпіёны былі ў складзе групы японскіх спецыялістаў, працаваўшых у 1930 годзе ў СССР на транспарце.

Шпіёны перакідаюцца ў СССР таксама пад выглядам «інтурыстаў».

Разведкі прыкладаюць вялікія старанні для таго, каб заманіць у свае сеці совецкіх грамадзян, прыязджаючых за граніцу па справах службы.

Так, японская разведка развіла шырокую вярбоўку сваіх агентаў

сярод супрацоўнікаў Кітайска-Ўсходняй чыгункі, пражываючых на працягу раду год у Харбіне.

Зварот совецкіх грамадзян—служачых КУЧ—у СССР пасля продажу КУЧ Японіі японская разведка скарыстала для перакідвання завербаваных ёю шпіёнаў і дыверсантаў.

Перакідваемы ў СССР шпіён-дыверсант атрымлівае ад свайго начальства яўкі да шпіёнаў, ужо дзеючых на совецкай тэрыторыі, а таксама заданні па шпіянажу, дыверсіях, шкодніцтву.

Часта шпіёну не даюць ніякіх явак, а за атрыманнем матэрыялаў і з інструкцыямі прысылаюць у далейшым спецыяльнага агента—сувязніка.

Для падрыўной дзейнасці сваіх агентаў замежныя разведкі намячаюць асноўныя вузлы народнай гаспадаркі СССР—транспарт, буйныя заводы, прадпрыемствы абароннага значэння, ваенныя склады, электрастанцыі, вадаправод і т. д. Агенты замежных разведак стараюцца выканаць тое, аб чым пісаў сваім прыспешнікам верхавод шпіёнскай банды—Іуда Троцкі: «наносіць адчувальныя ўдары ў самыя адчувальныя месцы».

У мэтах лепшай маскіроўкі шпіёну прапануюць спачатку «пусціць карэнні» на совецкай глебе, трывала ўгрунтавацца і толькі потым разгортваць падрыўную дзейнасць. Шпіён стараецца таму ўвайсці ў давер'е акружаючых, заваяваць аўтарытэт, прасунуцца па службе.

Асаблівыя старанні прыкладаюцца для таго, каб здабыць партыйны білет. Шпіён імкнецца зарэкамендаваць сябе «сваім» чалавекам, адданым совецкай уладзе і партыі. Ён надзяе на сябе лічыну чэснага совецкага грамадзяніна, часам і лічыну комуніста, каб утаіць сваю подлую работу.

Прабраўшыся ў нашы прадпрыемствы, установы, у партыю, у комсамол, гэтыя ворагі народу хаваюць свой сапраўдны твар—агентаў замежных разведак—шпіёнаў, дыверсантаў, шкоднікаў, трацкісцкіх, правых і іншых двурушнікаў.

У сваім дакладзе на Пленуме ЦК ВКП(б) таварыш Сталін паказаў, што метадам работы гэтых мярзаўцаў з'яўляецца «маскіроўка сваіх поглядаў, ліслівае і падхалімскае выхваленне поглядаў сваіх праціўнікаў, фарысейскае і фальшывае ўтоптванне ў гразь сваіх уласных поглядаў». Напрыклад, польскі шпіён Ч., перакінуты ў 1925 годзе ў СССР, выконваючы заданне польскай разведкі, прыняў совецкае грамадзянства, пралез у рады партыі, кончыў тэхнічную ВНУ і паступіў на буйнае прадпрыемства ў якасці інжынера. Толькі тады, г. зн. праз дзесяць год пасля перакідання ў СССР, Ч. прыступіў да выканання дыверсійных заданняў польскай разведкі. Маска маладога совецкага інжынера, кончыўшага совецкую вышэйшую навучальную ўстанову, члена партыі, прыкрывала яго гнусную дзейнасць. На прадпрыемстве, дзе ён працаваў, Ч. утварыў дыверсійную групу з трацкістаў і былых белагвардзейскіх афіцэраў. Ч. і яго прыспешнікі былі схоплены ў час падрыхтоўкі падпалу прадпрыемства.

## III

Перакідаючы сваіх агентаў на тэрыторыю СССР з-за рубяжа, разведкі капіталістычных краін адначасова прыкладаюць асаблівыя намаганні да таго, каб завербаваць шпіёнаў, дыверсантаў, шкоднікаў у самым СССР, сярод мясцовага насельніцтва. У завербаваных такім

чынам шпіёнаў—найбольш надзейнае прыкрыццё. Яны лепш за іншых ведаюць людзей, мясцовасць, мову, быт, норавы нашай краіны, якой яны здрадзілі. Ім лепш, чым перакідваемым з-за рубяжа шпіёнам, вядома наша ўнутранае жыццё, сродкі нашай работы і барацьбы.

Замежнай разведцы выгадней мець у якасці агентаў людзей, якія займаюць пэўнае становішча ў краіне, карыстаюцца давер'ем і таму могуць найбольш лоўка маскіраваць сваю подлую дзейнасць.

Спосабы вярбоўкі агентаў замежнымі разведкамі ў асяроддзі савецкіх грамадзян, што едуць за граніцу, ужо апісваліся ў нашым друку. Трэба спыніцца на тым, як вярбуюць сваіх агентаў замежныя разведкі на тэрыторыі Савецкага Саюза. Гэтыя спосабы рознастайныя. Фашысцкія разведкі загадзя ўважліва вывучаюць намечаных імі людзей, адшукваюць іх слабасці з тым, каб дзейнічаць без промаху.

Гэта вывучэнне вядзецца працяглы час. Намеціўшы чалавека, вярбоўшчык замежнай разведкі дэтальна высвятляе яго біяграфію, даведваецца аб яго палітычных настроях, аб людзях, з якімі ён сустракаецца, дружыць або знаходзіцца ў сваяцтве.

Асаблівая ўвага звяртаецца на нахілы таго ці іншага грамадзяніна, у якога фашысцкая разведка разлічвае завербаваць,—прагнасць да грошай, прыхільнасць да віна, нахіл да лёгкіх сувязей з жанчынамі, страсць да ўбранняў.

У залежнасці ад рэзультатаў такога вывучэння агент замежнай разведкі выбірае спосабы апрацоўкі аблюбаванага ім чалавека для таго, каб зацягнуць яго ў свае сеці. Вось, напрыклад, гісторыя аднаной здрады. Буйны спецыяліст адной з галін народнай гаспадаркі інжынер Ф. калісьці, у 1918 годзе, будучы на Украіне, прымаў удзел у гайдамацкім атрадзе петлюраўцаў. Пасля разгромуПетлюры і сканчэння грамадзянскай вайны Ф. паехаў з Украіны і пасяліўся ў адным з буйных індустрыяльных цэнтраў. Кіруючы цэхам на вялікім заводзе, Ф. нядрэнна працаваў, прасоўваўся ўперад. За 15 год работы ён праявіў сябе як ведаючы і растучы спецыяліст.

Але Ф. дапусціў буйнейшую памылку: ён утаіў свой удзел у гайдамацкім атрадзе ў 1918 годзе. Гэту акалічнасць і скарыстала разведка адной замежнай дзяржавы. Аднаго разу вечарам у кватэры Ф. пазваніў тэлефон. Ф. зняў трубку. Замежны спецыяліст, які з нядаўняга часу працаваў на тым-жа прадпрыемстве, што і Ф., прасіў спаткання па вельмі важнаму пытанню. Ф. згадзіўся.

У вызначаны час замежны спецыяліст быў у службовым кабінеце Ф. Ён напомніў Ф., што ведае яго з 1918 года па Украіне і бачыў яго там у петлюраўскім атрадзе. Пасля гэтага напамінку «спецыяліст» (які аказаўся потым буйным шпіёнам) папрасіў Ф. даць для замежнай дзяржавы інфармацыю аб новых канструкцыях мадэляў, вырабляемых у цэху, якім Ф. кіраваў. «Спецыяліст» абяцаў шчодрую ўзнагароду. Ф. быў абураны і гатоў быў выгнаць сабяседніка. Але «спецыяліст» з наглым халоднакроўем заявіў, што калі Ф. не згодзіцца стаць шпіёнам, то факт яго ўдзелу ў гайдамацкім атрадзе, ім утоены, стане заўтра-ж вядомым. Апрача таго, у выпадку калі Ф. паведаміць урадавыя органы аб іх размове, то «спецыяліст» заявіць, што Ф. яшчэ ў 1918 годзе быў звязан з замежнай разведкай і таму ўтойвае свой удзел у петлюраўскім атрадзе.

Замест таго, каб чыстасардэчна расказаць савецкім органам аб сваім мінулым і выкрыць наглы шантаж, Ф.—чалавек няўстойлівы—

утаіў сваю размову са шпіёнам. Хутка Ф. пачаў выконваць усё больш настойлівыя і наглыя патрабаванні шпіёна, а потым стаў актыўным дыверсантам—здраднікам радзімы.

Найбольш выгаднымі для замежных разведак агентамі з'яўляюцца трацкісты і правыя здраднікі. Іх, па сутнасці, і не даводзіцца вербаваць для шпіёнскай, шкодніцкай і дыверсійнай работы. Замежныя разведкі толькі «афармляюць» сваю сувязь з трацкістамі і бухарынскімі здраднікамі. Так было, напрыклад, з трацкісцкімі бандытамі—японскімі шпіёнамі, асуджанымі па справе антысавецкага трацкісцкага цэнтра. Мярзаўцы Ліўшыц, Князеў, Турок проста звязваліся з японскай разведкай. І мацёрыя трацкісты і японская разведка ведалі, што ў іх адны і тыя-ж мэты і сродкі барацьбы з савецкім народам.

Заслугоўвае ўвагі наступны выпадак. Нехта М., які належаў да трацкісцкай апазіцыі ў 1925—1927 гадах і потым падаў заяву аб адыходзе ад яе, быў у 1932 годзе паслан наркаматам у службовую камандзіроўку за граніцу. Па-двурушніцку выступаючы на сходах і ў друку за генеральную лінію партыі, М. на справе не парываў з трацкізмам.

Сустрэўшыся за граніцай з мясцовымі трацкістамі, М. адразу-ж увайшоў у трацкісцкую арганізацыю. Праз некаторы час М. быў выклікан у Гестапо. Прыняўшы М. чыноўнік Гестапо заявіў яму, што германскай тайнай паліцыі вядома, што ён, М., з'яўляецца трацкістам і што таму М. будзе ад гэтага часу весці шпіёнскую і дыверсійна-шкодніцкую работу ў СССР па заданнях германскай разведкі. У доказ цеснай сувязі германскай разведкі з трацкістамі чыноўнік паказаў М. рад распісак знаёмых яму трацкістаў, атрымліваўшых грошы за выкананне заданняў германскай разведкі.

Чыноўнік прапанаваў М. адразу-ж, звярнуўшыся ў СССР, актыўна ўключыцца ў работу падпольнай трацкісцкай арганізацыі.

Скора М. выехаў назад у Савецкі Саюз. Пры праездзе праз Польшчу ў вагон, дзе ехаў М., увайшоў невядомы, які адрэкамендаваўся «журналістам», і завёў з М. гутарку на тэму аб жыцці ў СССР. З гутаркі М. зразумеў, што яго палітычная фізіяномія таксама вядома польскаму «журналісту», як чыноўніку Гестапо ў Берліне. «Журналіст» паведаміў М., што ён ведае пра тое, што М. знаходзіцца ў трацкісцкай арганізацыі. М. пацвердзіў гэта. Тады «журналіст» заявіў, што ён з'яўляецца прадстаўніком польскай разведкі і ўпаўнаважан прапанаваць М. весці шпіёнскую і дыверсійную работу па заданнях польскай разведкі. М., ведаючы аб трацкісцкіх установках на «работу» ў карысць і Германіі і Польшчы, згадзіўся.

Так трацкіст аформіўся ў якасці шпіёна, служачага адначасова нават не адной, а двум фашысцкім разведкам.

Замежныя разведкі лёгка вярбуюць людзей, утаіўшых ад партыі сваю прыналежнасць да трацкізма або да правых у мінулым і захаваўшых сувязі з трацкістамі ці правымі здраднікамі. Так, напрыклад, быў завярбован інжынер З., член партыі, які ўтаіў ад партыі сваю сувязь з правай апазіцыяй. Сам факт абману партыі не быў выпадковым для З. Ён не быў цвёрдым комуністам з вялікай унутранай перакананасцю. Наадварот, З. не раз хістаўся ў важнейшых палітычных пытаннях. Вывучаўшыя З. шпіёны высветлілі, што З. можа быць без труднасці завярбован з прычыны яго палітычнай няўстойлівасці. Аднойчы ў службовы кабінет З. з'явіўся сакратар

замежнага консульства і, спасылаючыся на сувязь З. з правымі здраднікамі, прама патрабаваў выдачы сакрэтных вестак. З. спачатку адмовіўся ад ролі шпіёна і хацеў паведаміць аб візіце «дыпламата» органам дзяржаўнай безапаснасці. Тады сакратар консульства папярэдзіў З., што ў гэтым выпадку ён выкрые З., як удзельніка контррэвалюцыйнай арганізацыі правых. З. захістаўся. Гэтага толькі чакаў «дыпламат». Ён узмацніў націск на З., і скора апошні стаў агентам германскай разведкі.

Калі ў прыведзеным выпадку замежная разведка ўхапілася за тое, што няўстойлівы комуніст утаіў ад партыі факт сваёй палітычнай біяграфіі, то ў іншых выпадках шпіён вярбуе для сваіх мэт «пакрыўджанага». Так, напрыклад, нехта С., работнік аднаго з абаронных прадпрыемстваў, быў перамешчан на ніжэйшую пасаду, як чалавек, які не спраўляецца з даручанай яму справай, дрэнна выконвае заданні. Замест таго, каб прыняць перамяшчэнне як належны ўрок і пастарацца выправіцца, С. пакрыўдзіўся. Ён вінаваціў кіраўніцтва ў «несправядлівасці», стаў яшчэ горш працаваць. Скора С. быў запрошан для гутаркі супрацоўнікам другога аддзела таго-ж прадпрыемства, нейкім В. У гутарцы В. стаў падрабязна гаварыць аб тым, што С. на прадпрыемстве не «ацанілі», і потым прапанаваў яму работу ў сваім аддзеле. Ведаючы, што С. любіць выпіць і гуляць у карты, В.—які потым аказаўся шпіёнам—пачаў пазычаць грошы. Потым В. патрабаваў у С. выканання шпіёнскіх заданняў. «Абавязаны» В. сваёй новай работай, запазычыўшы яму значную суму грошай, С. заблытаўся ў сецях шпіёна і стаў яго пасобнікам.

## VI

Цэпкія шчупальцы замежных разведак з асаблівай ахвотай працягваюцца да совецкіх грамадзян, якія маюць за граніцай сваякоў і падтрымліваюць з імі сувязь. Граючы на сваяцкіх пачуццях, замежная разведка абвалаквае няўстойлівага совецкага грамадзяніна і робіць яго сваім пасобнікам.

Так, напрыклад, аказалася ўцягнутай у сеці замежнай разведкі адна сям'я ў Сібіры. Яшчэ ў гады грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі, калі Сібір наводнялі «саюзніцкія» войскі, дзяўчына з гэтай сям'і выйшла замуж за замежнага афіцэра і паехала з мужам на яго радзіму. Праз дзесяць год яна прыехала ў СССР «пагасціць» да сям'і. Браты яе, служачыя вялікага дзяржаўнага прадпрыемства, ахвотна знаёмілі сястру са сваёй работай, больш таго,—выбалтвалі ёй весткі аб тэхнічных удасканаленнях, увадзімых на прадпрыемстве.

Пасля двухмесячнага прабывання ў гасцях сястра паехала, снабдзіўшы братоў на развітанне замежнай валютай.

Праз некалькі месяцаў да аднаго з братоў, назавем яго Л., які знаходзіўся ў будынку прадпрыемства, падышоў нейкі грамадзянін і папрасіў тэрміновай гутаркі па важнай справе. Невядомы, калі яны асталіся з Л. удваіх, з вока на-вока, настойліва патрабаваў «інфармацыі» аб некаторых дэталях тэхналагічнага працэсу на гэтым прадпрыемстве. Калі абураны Л. намерваўся паведаміць завадскую ахову аб з'яўленні шпіёна на завадской тэрыторыі, апошні заявіў, што паслан яго сястрой і назваў яе прозвішча. Мала таго, шпіён заявіў, што ў выпадку яго арышту ён укажа на Л., як на агента фашысцкай разведкі, даючага шпіёнскія весткі замежнай дзяржаве. У доказ

шпіён напомніў сакрэты, аб якіх «па-роднаму» расказвалі браты сваёй сястры. Апрача таго, гаварыў шпіён, яму вядома, што інфармацыя, атрыманая сястрой Л., аплочана замежнай валютай. Л. захістаўся і прапанаваў шпіёну зайсці пасля работы на кватэру. Шпіён ахвотна згадзіўся прадоўжыць размову ў іншай абстаноўцы. Пазнаёміўшыся з усёй сям'ёй Л., шпіён прадаўжаў націск і не без поспеху: праз некаторы час уся сям'я Л. аказалася завербаванай у шпіёнскую арганізацыю.

Іншым спосабам разведка суседняй дзяржавы аблытала сваімі сецямі гр. С. У гр. С., які пражываў у буйным прамысловым цэнтры СССР, за рубяжом былі блізкія сваякі, з якімі ён быў у сістэматычнай перапісцы. Аднойчы гр. С. надумаў з'ездзіць са сваёй жонкай у час чарговага водпуску за граніцу пабачыцца з сваякамі. Атрымаўшы совецкі заграннічны пашпарт, гр. С. адправіўся ў замежнае консульства за атрыманнем неабходнай візы. Гр. С. меркаваў, што атрыманне візы— простая фармальнасць, якая будзе выканана на працягу некалькіх гадзін. Якое-ж было здзіўленне С., калі консульства адмовіла яму ў візе пад выглядам навядзення даведак. Расчараваны С. сабраўся пакінуць консульства, як раптам быў спынен адным з супрацоўнікаў. У гутарцы супрацоўнік консульства даў зразумець С., што візу трэба «заслужыць» інфармацыяй консульству аб той установе, дзе працуе С.

Дома гр. С. расказаў сваёй жонцы аб рэзультатах наведання консульства і аб гутарцы з супрацоўнікам апошняга. На другі дзень жонка гр. С.—набожная жанчына—пайшла да папа за парадаю. Поп уважліва выслухаў яе расказ і параіў згадзіцца на прапанову служачага замежнага консульства. Атрымаўшы «благаславенне» «духоўнага айца», жонка гр. С. угаварыла мужа пайсці зноў у консульства. Пасля доўгіх угавораў жонкі гр. С. звязаўся з консульствам і даў падпіску аб гатоўнасці прадастаўляць цікавячыя консульства весткі. С. разлічваў на тое, што ён ашукае консульства і апошняе не зможа прымусіць яго выканаць дадзенае ім абавязацельства. Віза на праезд гр. С. у суседнюю краіну адразу-ж была выдадзена. Гр. С. з'ездзіў пабачыцца з сваімі, а па звароце ў СССР быў уцягнут у шпіёнскую работу праз шантаж.

Паўстае пытанне: чаму ва ўсіх прыведзеных выпадках фашысцкія разведчыкі, схіляючы некаторых совецкіх грамадзян да жудаснага злачынства, да здрады радзіме, дзейнічалі з упэўненасцю? Чаму людзі, аб якіх расказана вышэй, паддаліся вярбоўцы?

Адказ на гэта пытанне можа быць толькі адзін. Разведка капіталістычных краін наўмысля шукае сваіх агентаў сярод людзей няўстойлівых—палітычна і маральна няцвёрдых, сярод шкурнікаў, ашуканцаў і трусоў.

У тых выпадках, калі фашысцкія разведчыкі прабуюць вербаваць стойкіх і адданых сваёй бацькаўшчыне совецкіх грамадзян, яны атрымліваюць належны адпор.

Ніякі шантаж, ніякія спробы вярбоўкі не могуць уздзейнічаць на вернага сына социялістычнай радзімы, адданага грамадзяніна совецкай краіны, перакананага будаўніка социялістычнага грамадства. Поўная шчырасць і чэснасць совецкага грамадзяніна ў адносінах да социялістычнай дзяржавы, да партыі паралізуе намаганні фашысцкіх разведак.

V

Мы прывялі некалькі прыкладаў каварных метадаў гнуснай дзейнасці фашысцкіх разведак. Веданне гэтых метадаў кожным совецкім грамадзянінам неабходна для таго, каб змагацца з подлымі ворагамі народу—агентамі фашысцкіх разведак—трацкісцка-бухарынскімі і іншымі шпіёнамі, дыверсантамі, шкоднікамі.

У дакладзе на Пленуме ЦК ВКП(б) таварыш Сталін выкрыў гнілую тэорыю, «якая гаворыць аб тым, што паколькі нас, большэвікоў, многа, а шкоднікаў мала, паколькі нас, большэвікоў, падтрымліваюць дзесяткі мільёнаў людзей, а трацкісцкіх шкоднікаў толькі адзінкі і дзесяткі, то мы, большэвікі, маглі-б і не звяртаць увагі на нейкую кучку шкоднікаў».

> «Што трацкісцкіх шкоднікаў падтрымліваюць адзінкі, а большэвікоў дзесяткі мільёнаў людзей—гэта, вядома, верна. Але з гэтага зусім не вынікае, што шкоднікі не могуць нанесці нашай справе сур'ёзнейшую шкоду. Для таго, каб напакасціць і нашкодзіць, для гэтага зусім не патрэбна вялікая колькасць людзей. Каб пабудаваць Днепрабуд, трэба пусціць у ход дзесяткі тысяч рабочых. А каб яго ўзарваць, для гэтага патрэбна можа быць некалькі дзесяткаў чалавек, не больш. Каб выйграць бой у часе вайны, для гэтага можа патрабавацца некалькі карпусоў чырвонаармейцаў. А для таго, каб праваліць гэты выйгрыш на фронце, для гэтага дастаткова некалькі чалавек шпіёнаў дзе-небудзь у штабе арміі або нават у штабе дывізіі, якія могуць выкрасці апературны план і перадаць яго праціўніку. Каб пабудаваць вялікі чыгуначны мост, для гэтага патрабуюцца тысячы людзей. Але, каб яго ўзарваць, на гэта дастаткова ўсяго некалькі чалавек. Такіх прыкладаў можна было-б прывесці дзесяткі і сотні.
>
> Стала быць, нельга ўцяшаць сябе тым, што нас многа, а іх, трацкісцкіх шкоднікаў, мала.
>
> Трэба дабіцца таго, каб іх, трацкісцкіх шкоднікаў, не было зусім у нашых радах» *).

Фашысцкія разведкі і іх агентура—гэта зброя нападу на Совецкі Саюз, гэта зброя падпальшчыкаў вайны супроць першай у свеце социялістычнай дзяржавы. Агенты гэтых разведак выконваюць задачу, якую германскія імперыялісты яшчэ многа год назад паставілі перад сваёй разведкай: «арганізаваць вайну ў часе міру».

Каб абараняць нашу социялістычную радзіму ад яе асцервянелых ворагаў, неабходна—побач з умацаваннем Чырвонай Арміі—зорка сачыць за ўсімі падкопамі ворага, вылаўліваць агентаў замежных разведак—шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў.

Своечасова вылавіць агента замежнай разведкі—значыць папярэдзіць пакражу нашай дзяржаўнай тайны, адхіліць дыверсію, г. зн. гібель матэрыяльных каштоўнасцей социялістычнай дзяржавы, гібель многіх соцень каштоўных жыццяў працоўных.

Своечасова праведзенае выкрыццё тайных намераў варожых шпіёнаў і дыверсантаў, раскрыццё шпіёнскіх гнёзд разбурае антысовецкія планы і разлікі фашысцкіх дзяржаў, адсоўвае напад на Совецкі Саюз.

*) І. Сталін. Аб недахопах партыйнай работы і мерах ліквідацыі трацкісцкіх і іншых двурушнікаў. Партвыдавецтва, 1937 г., стар. 27.

«Усякая рэволюцыя толькі тады чаго-небудзь варта, калі яна ўмее абараняцца ..», гаварыў В. І. Ленін.

Вялікая пролетарская рэволюцыя за дваццаць год свайго існавання даказала, што яна ўмее абараняцца.

На варце недатыкальнасці совецкіх граніц стаіць наша Чырвоная Армія на чале з жалезным наркомам Клімам Варашылавым. Непасрэдная барацьба з тайнымі ворагамі СССР унутры краіны—са шпіёнамі, дыверсантамі, шкоднікамі—агентамі фашысцкіх разведак—з'яўляецца задачай **совецкай разведкі.**

Выдатны і свяшчэнны мэты і задачы совецкай разведкі. Совецкая разведка ахоўвае мірную працу, радаснае і шчаслівае жыццё совецкага народу. Яна няспынна зоркая, заўсёды—на варце.

Совецкая разведка дабіраецца да самых замаскаваных асінавых гнёзд, дзе хаваюцца трацкісцка-бухарынскія і іншыя фашысцкія шпіёны, яна выкрывае прытаіўшыхся ворагаў, пад якім-бы абліччам яны ні хаваліся. Меткі ўдар совецкай разведкі насцігае тайных і каварных ворагаў соцыялістычнай дзяржавы, паралізуе іх подлую дзейнасць.

Ва ўсім свеце толькі совецкая разведка служыць інтарэсам народу. Выкрываючы злачынныя падкопы фашызма, фашысцкайваеншчыны, яна змагаецца за мір, супроць вайны. Кожны ўдар, нанесены совецкай разведкай тайнаму ворагу,—гэта ўдар па падпальшчыках вайны, па фашызму. Раскрываючы каварныя фашысцкія планы ўдушэння дэмакратыі і падрыхтоўкі новай вайны, совецкая разведка дзейнічае ў інтарэсах працоўных усяго свету, у інтарэсах чалавецтва. Нядарам з такой воўчай злобай сочаць за знішчальнымі ўдарамі совецкай разведкі фашысты, якія засылаюць у нашу краіну шпіёнаў, дыверсантаў, тэрарыстаў, шкоднікаў.

Совецкая разведка абараняе ад тайных і каварных ворагаў соцыялістычную краіну, якая знаходзіцца ў капіталістычным акружэнні.

Прынцыпы совецкай разведкі—гэта прынцыпы соцыялістычнай дзяржвы. Выдатны совецкі патрыятызм, большэвіцкая ідэйнасць і партыйнасць, высокая маральнасць—такі непахісны фундамент совецкай разведкі. Совецкая-ж разведка выхавана большэвіцкай партыяй, Леніным і Сталіным!

Работнік совецкай разведкі—гэта совецкі патрыёт, які горача любіць сваю радзіму, адданы народу і большэвіцкай партыі баец, кожную мінуту гатоў аддаць сваё жыццё на карысць соцыялістычнай бацькаўшчыны. Нядарам гісторыя совецкай разведкі, гісторыя барацьбы са шпіёнамі замежных разведак, поўна хвалюючых прыкладаў нечуванай адвагі і самаадданасці, найвялікшага гераізма і смеласці.

## VI

Совецкая разведка—гэта плоць ад плоці, кроў ад крыві працоўных першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы. Мэты і задачы совецкай разведкі—задачы абароны краіны Советаў ад яе тайных ворагаў. Кроўная сувязь з народам—вось што дае совецкай разведцы надзвычай вялікую зоркасць, сілу і непераможнасць! Совецкая разведка «узброена мільёнамі вачэй совецкіх патрыётаў», сказалі рабочыя і служачыя 1-га Дзяржаўнага падшыпнікавага завода імя Л. М. Кагановіча. Вось чаму, не гледзячы на ўвесь свой шматгадовы вопыт, на самыя тонкія хітраванні і маскіроўку, фашысцкія разведкі і іх агенты аказаліся люта бітымі разведкай совецкай краіны. Ніякае прыкрыццё не

выратавала здрадніцкіх падлюг, прадаўшых сваю радзіму. Зоркая совецкая разведка разгледзела шпіёнаў, дыверсантаў, шкоднікаў і спыніла іх подлую дзейнасць.

Кожны чэсны працоўны, кожны сын соцыялістычнай радзімы—памочнік совецкай разведкі. Кожны-ж працоўны кроўна зацікаўлен у тым, каб выкрыць шпіёна, схапіць крывавую руку трацкісцкага, бухарынскага ці іншага агента замежнай разведкі—дыверсанта, шкодніка.

«*У капіталістычным свеце органы разведкі з'яўляюцца найбольш ненавіснай часткай дзяржаўнага апарата для шырокіх мас працоўнага насельніцтва, паколькі яны стаяць на варце інтарэсаў пануючай* кучкі капіталістаў. У нас, наадварот, органы совецкай разведкі, органы дзяржаўнай безапаснасці стаяць на варце інтарэсаў совецкага народу. Таму яны карыстаюцца заслужанай павагай, заслужанай любоўю ўсяго совецкага народу».—Так гаварыў на пасяджэнні Прэзідыума ЦВК СССР 27 ліпеня г. г. слаўны кіраўнік совецкай разведкі, народны камісар унутраных спраў Нікалай Іванавіч Ежоў.

Колькі зладзейскіх спосабаў і мярзотных планаў шпіёнскіх і дыверсійных вылазак было папярэджана дзякуючы зоркасці і пільнасці працоўных—рабочых, калгаснікаў, служачых, чырвонаармейцаў! Буйнага японскага шпіёна і дыверсанта Кім-За-Ена, расстрэлянага потым па прыгавору пролетарскага суда, дапамаглі раскрыць рабочыя завода, на які здолеў у якасці «рабочага» прабрацца гэты мацёры шпіён.

Рабочыя тт. Ш. і А., гуляючы ў Петроўскім парку, убачылі Кім-За-Ена, як відаць чакаўшага кагосьці на краі дарогі. Заўважыўшы падыходзячых Ш. і А., Кім-За-Ен хутка зайшоў у грамадскую прыбіральню. Праз некалькі мінут т.т. Ш. і А. убачылі Кім-За-Ена выходзячым з грамадскай прыбіральні, але ў другім касцюме—у белай рубашцы замест пінжака і без акуляраў, з вузялком у руках. Пераапрананне паказалася падазроным тт. Ш. і А., і яны, прытаіўшыся за дрэвамі, сталі сачыць за Кім-За-Енам. Апошні стараўся ўйці ад іх, доўга кружыў па гораду, потым вярнуўся на ранейшае месца і паехаў у чакаўшым яго аўтамабілі аднаго з замежных пасольстваў. Паведамленне тт. Ш. і А. аб бачаным дапамагло выкрыць буйнейшага агента японскай разведкі.

На адным буйным заводзе рабочы-токар Л. заўважыў нешта няладнае ў рабоце змазчыка. Змазчык зачастую пакідаў нязмазанымі падшыпнікі матораў, ад чаго адбывалася псаванне машын. Л. стаў уважлівей прыглядацца да змазчыка. Аднойчы ён ўбачыў, што змазчык, затрымаўшыся па сканчэнню рабочага дня ў цэху, забівае цвікі ў падшыпнікі і аслабляе гайкі ў шківах трансмісій. Л. паведаміў аб заўважаным органам дзяржаўнай безапаснасці. Аказалася, што «змазчык» з'яўляецца ўдзельнікам шпіёнска-дыверсійнай шайкі, рыхтаваўшай знішчэнне завода.

Вядомы факт выкрыцця шпіёна комсамольцам—навуковым работнікам М.

Тав. М., супрацоўнік лабараторыі аднаго навукова-даследчага інстытута, прышоўшы на работу, не застаў свайго непасрэднага кіраўніка Т. Праз некаторы час запазніўшыся Т. прышоў.

Тав. М. звярнуў увагу на ўсхваляваны выгляд Т.

Праз мінут трыццаць Т. прапанаваў тав. М. аднесці ў склад трэбаванне на матэрыялы. М. быў заняты і хацеў пайсці ў склад пазней, тым больш, што трэбаванне не было тэрміновым. Але Т. настойваў на неадкладным выкананні свайго даручэння.

Гэта настойлівасць паказалася тав. М. падазронай. Выконваючы даручэнне Т., ён вышаў з лабараторыі, але рашыў праз мінуту вярнуцца—узглянуць, што робіць Т.

Адкрыўшы дзверы лабараторыі, тав. М. убачыў, што Т. стаіць ля адкрытай незгараемай шафы і кладзе туды нейкія дакументы. Пачуўшы шум адчыняемых дзвераў, Т. быстра абярнуўся і, непрыметна для сябе, выкінуў адну з папер на падлогу. М. не падаў віду, што заўважыў упаўшую паперу, і пазней падабраў яе. Папера аказалася сакрэтным дакументам. Тав. М. паведаміў аб сваёй падазронасці. Следства паказала, што Т.—агент замежнай разведкі—сістэматычна браў перад уходам з работы сакрэтныя дакументы з незгараемай шафы, дома фатаграфаваў іх, а на-раніцу непрыметна зноў клаў у незгараемую шафу. Так шпіён быў выкрыт дзякуючы пільнасці комсамольца.

Яшчэ больш яркім з'яўляецца прыклад выкрыцця шпіёнаў і дыверсантаў—агентаў японa-германскай разведкі, арудаваўшых на Орджанікідзеўскай чыгунцы.

Шайка гэта, па прамых заданнях замежных разведак, рыхтавала дыверсіі, тэрарыстычныя акты, крушэнні пяяздоў, узрывы і падпалы важнейшых дзяржаўных пабудаванняў, складаў і т. д.

Восенню 1936 года бандыты намецілі наладзіць крушэнне кур'ерскага поезда, у якім ехаў тав. Серго Орджанікідзе.

Для падрыхтоўкі злачынства дыверсантам патрэбен быў свой чалавек у дэпо.

Главар шайкі—мацёры японскі шпіён, які прабраўся на чыгунку і атрымліваў інструкцыі ад японскай разведкі праз прыехаўшага нелегальна з Японіі белагвардзейскага афіцэра,—рашыў завербаваць у шайку і прыцягнуць для ўтварэння дыверсій рабочага дэпо Р. Але бандыт жорстка пралічыўся. Р., выслухаўшы подлыя ўгаворы шпіёна і не жадаючы спугнуць шайку, абяцаў «падумаць» аб яго прапанове. Неадкладна пасля гутаркі Р.—чэсны сын совецкага народу, не баючыся помсты шпіёнаў, паведаміў аб рыхтаваўшайся дыверсіі органам дзяржаўнай безапаснасці.

Дзякуючы своечасоваму паведамленню Р. крушэнне поезда было прадухілена. Па ўказанню Р. былі выяўлены небяспечнейшыя злачынцы—удзельнікі шпіёнска-дыверсійнай банды на чыгунцы.

Можна было-б прывесці безліч выдатных прыкладаў рэволюцыйнай пільнасці совецкіх грамадзян у барацьбе з агентамі фашысцкіх разведак.

Стары рабочы прадзільна-ткацкай фабрыкі імя Вагжанава ў Калініне тав. Макараў ярка выказаў любоў совецкага народу да сваёй разведкі і гарачае жаданне дапамагчы яе гераічнай рабоце. На мітынгу па поваду суда над ваенна-шпіёнскай шайкай 11 чэрвеня 1937 г. тав. Макараў сказаў: «Усе мы павінны стаць добраахвотнікамі НКУС і па меры нашых сіл дапамагаць выводзіць на чыстую ваду шпіёнаў,—усіх, хто прабуе разбурыць наша шчаслівае жыццё, якое мы будуем пад кіраўніцтвам нашага любімага таварыша Сталіна».

Задача выкрыцця і разгрому трацкісцка-фашысцкіх агентаў замежных разведвальных органаў патрабуе ад совецкага грамадзяніна няўсыпнай рэволюцыйнай пільнасці, стойкасці ў барацьбе са злейшымі ворагамі народу.

Быць ва ўсеўзбраенні супроць тайных гнусных дзеянняў фашысцкіх разведак, быць пільным—не на словах, а на справе—значыць,

перш за ўсё, чэсна выконваць абавязкі совецкага грамадзяніна, запісаныя ў Сталінскай Канстытуцыі.

Трэба зразумець, што фашысцкія разведкі выкарыстоўваюць кожную шчыліну, трэшчыну ў нашай краіне. Адсутнасць працоўнай дысцыпліны на прадпрыемстве, ва ўстанове, разгільдзяйства і расхлябанасць, невыкананне совецкіх законаў,—усё гэта аблягчае падрыўную дзейнасць шпіёна, шкодніка, дыверсанта.

Наадварот, там, дзе працоўная дысцыпліна стаіць на належнай вышыні, дзе актыўнасць працоўных, большэвіцкая самакрытыка дапамагаюць неадкладна ўскрыць прычыны і знішчыць тое, што ў нас называецца «непаладкамі», там шпіён натыкаецца на сталёвую сцяну. Кожнае яго дзеянне, кожны яго крок будзе адразу-ж заўважан і выкрыт. Недарма Ленін, заклікаючы да бязлітаснай барацьбы з ворагамі працоўных, гаварыў:

> «... каб умець лавіць іх, трэба быць іскусным, асцярожным свядомым, трэба ўважлівейшым чынам сачыць за малейшым беспарадкам, за малейшым адступленнем ад добрасумленнага выканання законаў Совецкай улады» *).

У дакладзе таварыша Сталіна на Пленуме ЦК ВКП(б) 3—5 сакавіка 1937 года дадзена праграма ўсёй нашай работы і ўказаны метады ліквідацыі ворагаў народу.

Кожны працоўны павінен зрабіць для сябе практычныя вывады з указанняў таварыша Сталіна.

## VII

Адною з важных умоў барацьбы з агентамі замежных разведак з'яўляецца захаванне дзяржаўнай і ваеннай тайны. Варожыя нам дзяржавы і іх разведкі з усіх сіл стараюцца выведаць нашы дзяржаўныя і ваенныя сакрэты.

Веданне нашых сакрэтаў аблягчае ворагу магчымасць нападу на СССР, падрывае абаронную магутнасць нашай соцыялістычнай радзімы.

Само разуменне дзяржаўнай і ваеннай тайны куды шырэй, чым гэта думаюць некаторыя. Не толькі сакрэтныя весткі аб размяшчэнні воінскай часці або яе колькасным складзе з'яўляюцца ваеннай тайнай. Абаронная магутнасць краіны залежыць ад яе эканомікі—ад становішча і перспектыў развіцця прамысловасці, транспарту, сельскай гаспадаркі. Весткі аб эканоміцы краіны, статыстычныя матэрыялы, інфармацыя аб унутраным жыцці партыі, аб рабоце совецкага апарата,—усё гэта дапамагае ворагу будаваць планы нападу на СССР.

Няма вялікіх або малых дзяржаўных і ваенных тайн. Кожны дзяржаўны сакрэт, як-бы дробязным ён ні здаваўся, з'яўляецца каштоўным для ворага. Атрымліваючы-ж адрывачныя, нязначныя—на першы погляд—весткі, шпіён супастаўляе іх і атрымлівае ўяўленне аб важнейшай дзяржаўнай і ваеннай тайне ў цэлым.

У друку прыводзіцца прыклад таго, як замежны шпіён, скарыстаўшы злачынную балбатлівасць нашых газет, выведаў нашы ваенныя тайны.

> «Некалькі год назад быў арыштован адзін румынскі шпіён, які займаўся вывучэннем становішча воінскіх часцей Праваўзбя-

*) **В. І. Ленін.** Творы, т. XXIV, стар. 434.

рэжжа Украіны. Ён цікавіўся часцямі Чырвонай Арміі. У гутарцы пасля арышту ён паведаміў, што яго цікавілі правінцыяльныя газеты. Напрыклад, яго цікавілі газеты гарадоў Кірава і Нікалаева, дзе стаялі воінскія часці, а газеты Ленінграда, Масквы, Харкава яго не цікавілі. Ён па газетах мог складаць досыць дакладнае ўяўленне аб часцях Чырвонай Арміі. Калі ён быў пад арыштам, мы рашылі праверыць гэта: давалі яму рэгулярна некалькі правінцыяльных газет, давалі паперу і аловак. Праз месяц, напрыклад, па матэрыялах газет, якія яму давалі, ён склаў у асноўным правільны даклад аб гарнізонах. Як бачыце з гэтага прыкладу, можна прыйсці да заключэння, што па асобных ўрыўках, праслізгваючых у правінцыяльных газетах, якія не адзначаюцца маўклівасцю, вывучаючы і суміруючы гэтыя ўрыўкі, можна скласці даволі поўнае ўяўленне аб прадмеце, які цікавіць разведчыкаў» *).

Для паспяховай барацьбы з агентамі фашысцкіх разведак неабходна выхаваць у кожным працоўным уменне найстражэйшым чынам ахоўваць дзяржаўную тайну. Распушчанасць, ідыёцкая хвароба—бесклапотнасць у справе захавання дзяржаўнай тайны ў нас вельмі вялікія. У поездзе і ў трамваі, у парку, у кафэ, у тэатры, у сталовай зачастую вядуцца размовы аб плане прадпрыемства, аб новых мадэлях і канструкцыях, аб нашых узбраеннях, агалашаюцца сакрэтныя лічбы. Балбатун выбалтвае дзяржаўную тайну і ў гутарцы па тэлефону, і дома, у сямейным коле, або пры сустрэчы з прыяцелямі, а то і з малазнаёмымі або зусім незнаёмымі людзьмі.

На адным з партыйных сходаў абароннага завода ў Маскве было агалошана пісьмо, атрыманае ад супрацоўніцы Ваеннай Акадэміі. Яна пісала, што, едучы ў трамваі разам з групай рабочых гэтага завода, яна па іх разгавору без цяжкасці зразумела, на якім прадпрыемстве людзі працуюць і што там выраблеяецца.

Забываюць, што шпіёны напружваюць усе сілы для таго, каб раздабыць патрэбныя ім весткі, не скупяцца на грошы за атрыманую інфармацыю, стараюцца падслухаць, даведацца пра дзяржаўную тайну. Балбатун, які сам выдае дзяржаўныя сакрэты,—прамая знаходка для шпіёна. Некаторыя таварышы абавязкова хочуць праслыць «асвядомленымі», «інфармаванымі» лепш і раней іншых. Яны выхваляюцца даверанымі ім сакрэтнымі весткамі і заўсёды гатовы паведаміць «апошнюю навіну».

Толькі гэта і трэба «дапытліваму» агенту фашысцкай разведкі. Прыкрываючыся зацікаўленым гутаркай, выклікаючы субяседніка на яшчэ большую шчырасць, шпіён выцягвае неабходную яму інфармацыю. Ён не прапусціць выпадку пальсціць асвядомленасці расказчыка для таго, каб зрабіць таго яшчэ больш словаахвотлівым.

Вядомы наступны прыклад.

Урач М.—супрацоўнік аднаго навукова-даследчага інстытута—быў асвядомлен па роду сваіх заняткаў аб некаторых работах абароннага значэння, якія праводзіліся ў інстытуце. Для людзей, ведаўшых М., не была сакрэтам яго ўласцівасць—хвастацца сваёй асвядомленасцю і балбатаць у кампаніі прыяцеляў аб работах інстытута, якія з'яўляюцца ваеннай тайнай. Як словаахвотлівы балбатун, за якога «варта ўзяцца»,

*) **Л. Закоўскі.** Аб некаторых метадах і прыёмах замежных разведвальных органаў і іх трацкісцка-бухарынскай агентуры, стар. 11.

М. стаў вядомы буйнаму замежнаму шпіёну. Гэтаму шпіёну не каштавала шмат сіл пазнаёміцца з М. і ў гутарках з ім даведацца пра сакрэтныя весткі аб работах інстытута. Прыкідваючыся «здзіўленым» асвядомленасцю М., шпіён ільсціў яму і правакаваў урача на яшчэ большую шчырасць. Лісліваць «уважлівага» слухача падзадорвала балбатуна, і хутка ў шпіёна накапілася шмат сакрэтных вестак, выбалбатаных яму ўрачом. Тады ў адной з гутарак шпіён, да таго часу ўважліва слухаўшы расказы М., рэзка змяніў свае паводзіны. Ён проста абвясціў М., што той ужо з'яўляецца агентам замежнай разведкі, і патрабаваў ад М. выканання больш складаных шпіёнскіх заданняў. У доказ шпіён паказаў М. запісы сакрэтных вестак, выбалбатаных яму М. у часе гутарак. М.—чалавек няўстойлівы—не знайшоў у сабе грамадзянскай мужнасці паведаміць органам дзяржаўнай бяспаснасці аб наглым шпіёне і аб сваім злачынстве, і неўзабаве стаў агентам шпіёна.

Балбатуны любяць апраўдваць сваю балбатню спасыланнямі на тое, што дзяржаўную тайну можна расказваць таму, каму давяраеш. Гэтыя шкодніцкія разважанні толькі прыкрываюць бясклапотных балбатуноў—пасобнікаў замежных шпіёнаў. Каб затрудніць шпіёну доступ да дзяржаўнай і ваеннай тайны, трэба цвёрда ўсвоіць і праводзіць у жыццё асноўнае правіла канспірацыі: **сакрэтныя весткі павінен ведаць толькі той, каму яны паведамляюцца па роду работы.** Не можа быць ніякіх выключэнняў з гэтага правіла.

Нельга адкрываць дзяржаўнай, ваеннай або партыйнай тайны ні жонцы, ні мужу, ні сваякам, ні знаёмым. Толькі суровае выкананне правіл канспірацыі закрые шчыліны, праз якія пралязае шпіён.

Захаванне дзяржаўнай і ваеннай тайны патрабуе таксама пільных адносін да сакрэтных дакументаў. На нашых прадпрыемствах, установах многа яшчэ злачынна-варожых адносін да сакрэтных дакументаў. Колькі было ўскрыта выпадкаў, калі да захавання гэтых дакументаў дапускаліся ворагі! Як часта супрацоўнікі трымаюць сакрэтныя дакументы ў шуфлядзе простага стала або выносяць іх з сабой у партфелі, у кішэні піджакоў, замест таго, каб беражліва хаваць іх у незгараемай шафе.

Тав. Закоўскі ў сваёй брашуры расказвае, што «амерыканцы, працуючыя на ваенных заводах, або ў прамысловасці, якая складае якую-небудзь тайну, як правіла, ніколі з сабой папер не носяць і, як правіла, не маюць партфеляў».

Нярэдка можна бачыць такі малюнак. Стол супрацоўніка абступілі наведвальнікі, а на стале ляжаць адкрытымі для ўсеагульнага агляду сакрэтныя дакументы. Такая распушчанасць адкрывае шпіёну шырокія магчымасці. Вядомы выпадак, калі прадстаўнік замежнай фірмы прышоў «па справах» да дырэктара аднаго завода. У часе гутаркі з дырэктарам прадстаўнік фірмы ўкраў са стала сакрэтнейшы дакумент аб ваеннай прамысловасці.

Злачыннай распушчанасці ў справе захавання сакрэтных дакументаў спрыяе адсутнасць кантролю. Там, дзе няма сістэматычнай праверкі хавання сакрэтных матэрыялаў,—замежны шпіён лягчэй за ўсё можа авалодаць дзяржаўнай і ваеннай тайнай.

Для таго, каб справа аховы дзяржаўнай і ваеннай тайны стала ў сапраўднасці справай кожнага грамадзяніна савецкай краіны, трэба ліквідаваць цярпімыя, нават спагадлівыя адносіны да балбатуноў, да

праз меру дапытлівых людзей, да тых, хто, дзякуючы бясклапотнасці і распушчанасці, адкрывае дзяржаўную і ваенную тайну.

Трэба стварыць народную грамадскую думку, якая асуджае балбатуноў і празмерна дапытлівых людзей як вольных або нявольных пасобнікаў замежных разведак.

Савецкі грамадзянін павінен сачыць за тым, каб вораг не пралез праз шчыліны асабістага быту. Вядома, што шпіёны шырока выкарыстоўваюць бясклапотнасць некаторых грамадзян па частцы выпадковых знаёмстваў, «прыязных» кампаній з невядомымі людзьмі, асабліва з замежнікамі, пазычанне грошай у малазнаёмых.

Доўг савецкага грамадзяніна—уважлівей адносіцца да свайго акружэння, добра ведаць людзей, з якімі ён працуе, або знаходзіцца ў прыязных адносінах.

Чэсны савецкі грамадзянін павінен не толькі сам берагчыся шпіёнаў. Ён абавязан актыўна дапамагаць выкрыццю падрыўной дзейнасці агентаў замежных разведак.

На якім-бы ўчастку ні працаваў грамадзянін Саюза ССР, ён заўсёды павінен быць пільным, зорка глядзець за хітрымі прошукамі ворага. Першы абавязак савецкага грамадзяніна, натрапіўшага на след шпіёна, дыверсанта, шкодніка—гэта неадкладна папярэдзіць органы дзяржаўнай безапаснасці. Гэты абавязак не ўсімі ўсведамляецца. Яшчэ дзе-ні-дзе ў ходзе ложнае разуменне аб тым, што паведаміць органы дзяржаўнай безапаснасці аб сваіх падазрэннях, аб злачынствах другіх—значыць «выдаць» гэтага чалавека, «данесці» на яго.

Да суседа па кватэры ходзяць невядомыя людзі, вядуць антысавецкія размовы. Трэба паведаміць аб гэтым органам дзяржаўнай безапаснасці. Але некаторыя людзі, паграшыўшыя з галавой у абывацельшчыне, разважаюць інакш. Яны не хочуць «данесці» на суседа. Знаёмы зрабіў злоўжыванне на рабоце. Аб гэтым умаўчваюць, каб не «выдаваць» знаёмага, прыяцеля.

З гэтымі ложнымі паняццямі аб «выдачы» і «даносе» трэба пакончыць раз і назаўсёды. Не паведамляць органам дзяржаўнай безапаснасці аб заўважаных злоўжываннях, аб падазроным чалавеку—значыць рабіць злачынства супроць савецкай дзяржавы, супроць савецкага народу. Умаўчваць аб небяспецы, пагражаючай дзяржаве,—значыць стаць здраднікам сваёй радзімы, здраднікам, памочнікам шпіёна, дыверсанта, шкодніка. Савецкі грамадзянін павінен памятаць аб тым, што запісана ў Сталінскай Канстытуцыі:

> «Абарона бацькаўшчыны ёсць свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна СССР».

Няма большага злачынства, чым здрада сацыялістычнай радзіме, здрада савецкай дзяржаве. Недарма асноўны закон гаворыць:

> «Здрада радзіме: парушэнне прысягі, пераход на старану ворага, нанясенне шкоды ваеннай магутнасці дзяржавы, шпіянаж—караюцца па ўсёй суровасці закона, як самае цяжкае злодзеянне».

З другога боку неабходна таксама ўсвоіць, што толькі чэснае прызнанне органам дзяржаўнай безапаснасці дапаможа таму, хто аказаўся ў шпіёнскіх сецях.

Караючы па ўсёй суровасці законаў злосных злачынцаў, савецкая дзяржава заўсёды прыдзе на дапамогу чалавеку, які заблытаўся ў павуціне, звітай ворагамі народу. Толькі адно неабходна для таго,

каб атрымаць гэтую дапамогу: шчыра, без утойвання паведаміць органам дзяржаўнай безапаснасці аб шпіёнах, здолеўшых уцягнуць совецкага грамадзяніна ў сваю злачынную шайку.

* * *

Выкрыццё совецкай разведкай і ліквідацыя шпіёнскіх гнёздаў фашысцкіх агентаў—трацкісцка-бухарынскай і іншай нечысці—сведчаць аб сіле і магутнасці социялістычнай дзяржавы. Чым больш паспяхова наносіць совецкая разведка ўдары подлым ворагам, тым чысцей становіцца паветра на совецкай зямлі.

Кіруючыся ўказаннямі таварыша Сталіна, шырокія масы працоўных знаёмяцца «з мэтамі і задачамі, з практыкай і тэхнікай шкодніцка-дыверсійнай і шпіёнскай работы замежных разведвальных органаў».

На масавых сходах, у гутарках рабочыя, калгаснікі, чырвонаармейцы, служачыя, моладзь жыва абмяркоўваюць пытанні барацьбы з фашысцкімі шпіёнамі. Матэрыялы аб падрыўной дзейнасці замежных разведак, публікуемыя ў нашай прэсе, чытаюцца з выключнай увагай.

Велізарны інтарэс, праяўляемы да гэтых пытанняў працоўнымі, сам па сабе з'яўляецца паказчыкам растучай палітычнай актыўнасці мас і іх імкнення актыўна прымаць удзел у барацьбе з гнуснымі і каварнымі ворагамі народу.

Недарма фашысцкая і поўфашысцкая прэса вые па поваду таго, што совецкі народ вывучае сродкі і метады падрыўной дзейнасці фашысцкіх шпіёнаў. Фашысты добра сабе ўяўляюць, што працоўныя СССР, ведаючы прыёмы агентаў фашысцкіх разведак, змогуць хутчэй расправіцца са шпіёнамі.

Вядома, што азнаямленне з метадамі ворага ўжо дае свае рэзультаты: не адзін фашысцкі шпіён выяўлен дзякуючы павысіўшайся рэволюцыйнай пільнасці працоўных совецкай краіны.

Ворагам народу—трацкісцка-бухарынскім і іншым фашысцкім шпіёнам—мы жыцця не дадзім,—гэтыя словы сталі думкаю і воляй мільёнаў.

Павышаючы рэволюцыйную пільнасць і ўзмацняючы сувязі шырокіх народных мас з совецкай разведкай, краіна социялізма выкурыць з усіх нор фашысцкіх шпіёнаў і знішчыць іх, як шалёных сабак.

**Н. Рубін і Я. Сераброў.**

---

## Злачынныя адносіны Асвейскага РК КП(б)Б да партыйнай вучобы

Таварыш Сталін вучыць нас, што «неабходна ўзняць палітычную работу нашай партыі на належную вышыню, паставіўшы ў цэнтр увагі задачу палітычнай асветы і большэвіцкай загартоўкі партыйных, савецкіх і гаспадарчых кадраў».

Рашэннем ЦК ВКП(б) «Аб прапагандысцкай рабоце ў бліжэйшы час» непасрэдна на партыйныя камітэты і іх сакратароў ускладаюцца абавязкі кіраваць і правяраць, як працуюць партыйныя школы, гурткі, як засвойваецца пройдзены матэрыял, як выконваецца праграма. Гэта работа цалкам не павінна быць перадаверана прапагандысту. Нельга ацаніць работу партыйнай школы, гуртка па адных толькі данясеннях прапагандыста. Сакратар партыйнага камітэта, член партыйнага камітэта абавязкова павінен прысутнічаць на занятках, цікавіцца якасцю выкладання прапагандыста і засваеннем слухачамі пройдзенага матэрыялу.

Нажаль, партыйная вучоба ў Асвейскім раёне закінута. Ніхто ёю як след не кіруе. Прапагандысты, адчуваючы бескантрольнасць, часта адносяцца да работы абыякава, безадказна. Асабліва гэта адчуваецца ў кандыдацкай школе, што знаходзіцца ў раённым цэнтры, пад бокам райкома. Кожны раз падбіраецца новы прапагандыст, што прывяло да частага зрыву заняткаў. Былі выпадкі, калі прапагандыстаў т. Дземенцонка, Канавалёнка, Левіна лавілі на вуліцы і прымушалі непадрыхтаванымі ісці на заняткі.

Партыйныя школы і гурткі працуюць бескантрольна, сакратары і члены райкома партыйнымі заняткамі не цікавяцца, не наведваюць іх, не кіруюць партыйнай вучобай. Старшыня РВК тав. Мартынаў і заг. райза тав. Камдул дайшлі да таго, што замест дапамогі зрываюць заняткі. У вызначаны для партзаняткаў дзень яны склікаюць нарады ў раёне, абавязваючы прысутнічаць на іх комуністаў, якія займаюцца ў партшколах і гуртках.

Сваё злачынства яны афармляюць рашэннем райкома. Адсюль відаць, што райком партыі па сутнасці патурае зрыўшчыкам і правальвае партвучобу. Самавольна склікаюць комуністаў на розныя нарады ў дзень партвучобы і іншыя кіраўнікі раёна. Былы дырэктар МТС Ульяноўскі інструктаваў сваіх аграномаў, каб яны ў партдні склікалі праўленні калгасаў, адрываючы ад вучобы комуністаў—старшынь калгасаў. Сам Ульяноўскі і яго намеснік Чабатароў нідзе не вучыліся і не вучацца.

На ўсе гэтыя бясчынствы райком партыі не рэагуе. Зрыўшчыкі партыйнай вучобы застаюцца беспакаранымі.

Сам актыў райкома партыі на чале з сакратарамі нідзе не вучыцца.

З самага пачатку заняткаў (верасень 1936 года) райком ні разу не заслухаў справаздачы аб партвучобе. Наогул гэта пытанне ні разу не было прадметам абмеркавання райкома партыі. Зацвердзіўшы прапагандыстаў і намеціўшы сетку школ і гурткоў, райком палічыў, што яго місія па арганізацыі і кіраўніцтву партыйнаю вучобай у раёне на гэтым закончана.

Безадказныя адносіны райкома да кіраўніцтва і кантролю над партыйнай вучобай далі сябе адчуць і ў пярвічных арганізацыях. Паасобныя парторгі лічаць, што партвучоба ёсць справа прапагандыста. Парторг Кузьмінаў гатоў сарваць партвучобу, абы толькі РВК даў паперку аб пасылцы комуністаў у раён. Парторга Гваздзёва трэба сілаю цягнуць на заняткі. Падобных фактаў непартыйных адносін да партвучобы можна прывесці шмат, але хопіць і гэтых, каб ацаніць становішча партвучобы ў раёне.

Прапагандысты працуюць бескантрольна, як самі захочуць. Ніхто іх не правярае і нават не пытае, ці рыхтуюцца яны да заняткаў, што прапрацоўваюць у школе, як слухачы засвойваюць матэрыял, ці патрэбна ім дапамога.

Сакратары райкома ўспамінаюць аб прапагандыстах толькі тады, калі атрымаюць заданне прапрацаваць звыш праграмы тое ці іншае рашэнне партыі і ўрада. Тады склікаецца нарада партактыва. Але і тут прапагандыстам не даецца ўказання, як трэба вывучаць гэтыя рашэнні ў школе, гуртку. За апошні год не было таксама выпадку, каб райком ці парткабінет сабраў прапагандыстаў і даў ім кансультацыю. Усё гэта гаворыць аб тым, што партвучоба ў Асвейскім раёне пушчана самацёкам.

Культпроп Полацкага акругкома партыі тав. Кулікаў у раёне бывае не рэдка, але «не знаходзіць часу» пабываць у партшколах на занятках, праверыць як рыхтуецца прапагандыст, ці дапамагае комуністам у вучобе райком.

У райкоме партыі ўжо год як няма культпропа. Аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б аб гэтым ведае, але глядзіць абыякава і сам адзывае культпропаў. За 10 месяцаў змянілася два культпропы і ні адзін ў раёне не працуе. У далейшым такое становішча нецярпіма. Аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б павінен зрабіць з гэтага вывады і забяспечыць пастаноўку партвучобы так, як гэтага патрабуе пастанова ЦК ВКП(б).

У першую чаргу за гэту справу павінен узяцца райком партыі і яго сакратары, сістэматычна інструктуючы прапагандыстаў, арганізуючы для іх даклады па асноўных пытаннях міжнароднага і ўнутранага становішча, павышаючы іх тэарэтычны ўзровень праз семінары, кансультацыі і гутаркі, правяраючы падрыхтоўку прапагандыста да заняткаў. Сакратар і члены райкома павінны перыядычна прысутнічаць на партзанятках, ставіць справаздачы аб рабоце школ і гурткоў, павесці сур'ёзную барацьбу са зрыўшчыкамі вучобы.

Падрыхтаваць партыйныя кадры ідэалагічна, зрабіць іх ленінцамі-сталінцамі, здольнымі арыентавацца ва ўнутранай і міжнароднай палітыцы—важнейшая задача райкома партыі і партыйных арганізацый.

У аснову перабудовы партвучобы павінны легчы ўказанні партыі і яе правадыра таварыша Сталіна, што дасць магчымасць неадкладна выправіць дапушчаныя прарывы і недахопы.

**Кавалёнак.**

# Узняць палітагітацыю на ўзровень сучасных задач

Палітычная агітацыя ў сувязі з надыходзячымі выбарамі ў Вярхоўны Совет набывае выключна вялікае значэнне. Недаацэнка і неразуменне ў гэтых умовах значэння палітычнай агітацыі з'яўляецца справай шкоднай, а падчас і проста злачыннай.

Таварыш Сталін у свaім дакладзе і заключным слове і тав. Жданаў у сваім дакладзе на лютаўскім Пленуме ЦК ВКП(б), ускрываючы асноўныя недахопы партыйна-палітычнай работы, указалі на запушчанасць і слабасць яе, на недастатковую сувязь партыйных арганізацый з масамі.

Справаздачна-выбарчыя сходы і партыйная канферэнцыя Сталінскага раёна г. Менска ўдзялілі вялікую ўвагу пытанням агітацыі і ўскрылі цэлы рад сур'ёзных недахопаў ў кіраўніцтве ёю. З таго часу прайшло ўжо больш чатырох месяцаў, але справа палітычнай агітацыі ўсё яшчэ не наладжана. Ні райком партыі, ні пярвічныя партарганізацыі не прынялі для гэтага сур'ёзных мер.

Тав. Жданаў гаварыў на Пленуме ЦК ВКП(б) аб тым, што агітработай мы ахопліваем галоўным чынам рабочых і паасобныя калгасы, забываючы пра інтэлігенцыю, служачых, хатніх гаспадынь, дый не толькі пра іх. Гэта заўвага цалкам адпавядае становішчу ў Сталінскім раёне.

Больш сістэматычна праводзіцца палітагітацыя на асноўных прадпрыемствах раёна.

На буйнейшых прадпрыемствах пашыраным метадам агітацыі былі гутаркі ў час абедзенага перапынку ці чыткі з растлумачэннем. Аднак, асноўная маса рабочых усё яшчэ не ахоплена палітагітацыяй.

Партарганізацыя менскага завода імя Кірава паставіла агітработу некалькі лепш, але і тут застаецца неахопленай каля трэці рабочых. Па ўсіх цэхах, у сталоўцы, канторы і т. д. лічыцца 18 агітатараў. Аднак гэта толькі фармальны бок справы. Так, у новамеханічным цэху, дзе прымацаваны 3 агітатары (тт. Кацовіч, Козляк, Барсукова), фактычна працуе адзін Кацовіч. У старамеханічным цэху агітатарамі з'яўляюцца тт. Ерынгроз, Кісель, Пешкоў, а фактычна працуе адзін Ерынгроз.

Не наладжана агітработа і на вячэрніх зменах. У некаторых цэхах, як у старамеханічным, па новаму графіку зараз уведзен толькі поўгадзінны абедзены перапынак, і для палітгутарак не застаецца часу. Не ахоплена агітацыяй таксама група абслугоўваючых рабочых—унутрызаводскага транспарту і інш.

Палітгутаркі наведвае ўсяго 40—65% рабочых. У тав. Ерынгроза

замест 30 прысутнічае 12—15 чалавек. У цэху, дзе працуе агітатарам тав. Крывашэеў, рабочых 70 чал., а на гутарках бывае 30. Тав. Кацовіч абслугоўвае 90 чалавек, а на гутарках бывае значна менш.

На заводзе «Большэвік»—16 агітатараў. Але фактычна толькі 8 агітатараў абслугоўваюць да 700 рабочых. Тав. Ароцкер прымацован да цэха, дзе працуе 130 рабочых. На гутарках бывае 30—40 чал. Тав. Каган абслугоўвае больш 100 рабочых. У вячэрніх зменах не праводзіцца ніякай работы.

Не лепш абслугоўваюцца вячэрнія змены на фабрыцы «Комунарка» і іншых прадпрыемствах. Тлумачыцца гэта тым, што партарганізацыі не ўмеюць прыстасаваць формы агітацыі да ўмоў работы прадпрыемства. На другую змену рабочыя збіраюцца задоўга да званка, сядзяць у сталовай, у цэху, у канторы. Пры адпаведнай гібкасці іх можна было-б абслужыць палітагітацыяй да пачатку работы.

Важным участкам для агітацыі з'яўляюцца інтэрнаты. У раёне ёсць два інтэрнаты, дзе згрупавана па 400—500 рабочых (ф-кі імя Крупскай і МГЭС-2). Там жывуць рабочыя, якія працуюць на торфздабычы. Яны складаюць ⅔ усіх рабочых МГЭС-2. Большасць іх нядаўна прышла з вёскі. Да інтэрната МГЭС-2 прымацаваны 17 агітатараў, але работу вядуць толькі тт. Охлонін, заг. парткабінетам Пеўзнер і комсамольцы Старобін і Патапенка. Дырэктар станцыі і сакратар парткома таксама агітатары, але яны месяцамі не бываюць у інтэрнатах, якія знаходзяцца ў 15 метрах ад канторы.

Партарганізацыя МГЭС-2 мае аднак і невялікі станоўчы вопыт. Група з пяці агітатараў-комсамольцаў прымацавана да моладзі і спецыяльна працуе над маладзёжнымі пытаннямі. Моладзь пасля работы збіраецца ў сад пры станцыі, дзе агітатары праводзяць чытку газет.

На дробных прадпрыемствах з невялікай колькасцю комуністаў (птушкакамбінат, асфальтавы завод, вытворчыя арцелі) палітагітацыя пастаўлена дрэнна, а ў совецкіх установах часта падмяняецца кампанейскімі мерапрыемствамі.

У апаратах ЦС АСО, горсовеце і райсоветах АСО, у снабаддзеле, дэгазацыйным атрадзе, дзе працуе больш 150 работнікаў, палітагітацыя сёлета заключалася ў наступным:

У горсовеце АСО праведзена адна гутарка аб Канстытуцыі СССР. З работнікамі ЦС АСО праведзена адна гутарка па дакладу тав. Жданава на лютаўскім Пленуме ЦК ВКП(б). Даклад і заключнае слова таварыша Сталіна партарганізацыя і беспартыйныя работнікі не вывучалі. Партком і сакратар парткома тав. Сарокін не цікавяцца пытаннямі палітычнай агітацыі, не працуюць з вылучанымі агітатарамі.

Вось што расказвае пра гэта тав. Еўдакімаў:

> «Сакратар парткома даў мне «нагрузку» агітатара ў канцы мінулага года. З таго часу я правёў адзін мітынг аб пазыцы, рабіў даклад аб 8 сакавіка, на адкрытым партсходзе зрабіў даклад аб Канстытуцыі. Больш заданняў ад парткома не меў».

Да агітацыі часта падыходзяць фармальна-бюракратычна.

Партарганізацыя Наркомлеса вынесла рашэнне прымацаваць агітатараў да аддзелаў. У выніку тав. Шраера прымацавалі да аддзела кадраў, у якім працуе ўсяго два чалавекі: сам Шраер і Нікіфараў. Але Нікіфарава ў сваю чаргу прымацавалі агітатарам да аддзела кіраўніцтва справамі. Выходзіць, што Шраеру прыдзецца агітаваць

самога сябе. Пасля гэтага «мудрага» рашэння парторг больш не займаўся пытаннямі агітацыі.

Менхарчгандаль налічвае каля 1000 работнікаў, якія працуюць у 180 магазінах, раскіданых па ўсяму гораду. Партарганізацыя сяк-так наладзіла палітагітацыю ў апараце Менхарчгандля, а ў магазінах пусціла яе самацёкам.

Тав. Шэрман працуе ў адным з магазінаў Менхарчгандля. Вось што расказвае ён аб пастаноўцы агітработы: «У партарганізацыі Менхарчгандля больш 20 комуністаў. Большасць іх працуе ў самім апараце. Агітработа пастаўлена дрэнна. Мы лічымся агітатарамі толькі па спісу, а на самой справе не агітуем. Толькі раз сабраў нас сакратар парткома і прымацаваў кожнага прыкладна да дзесяці магазінаў. Бываем мы там ад свята да свята і на справе не ведаем, што ў іх робіцца. Па буйнейшых магазінах вывучалі Канстытуцыю і даклад таварыша Сталіна. Малыя магазіны, як правіла, агітработай не ахоплены. Другую змену таксама не абслугоўваем. Рашэнні VI пленума ВЦСПС распрацавалі толькі з першай зменай».

Самы закінуты ўчастак агітработы—гэта жакты.

У жакце пасёлка «Комінтэрн», дзе жывуць галоўным чынам рабочыя прадпрыемстваў Сталінскага раёна, ніякай агітацыйнай работы не вядзецца. Член горсовета тав. Ляўша расказвае, што па жактах за апошнія шэсць месяцаў агітатары Сталінскага райкома партыі правялі толькі 3 заняткі па Канстытуцыі і даклад аб Першым Мая. У жакце жыве да 40 комуністаў, але большасць іх ніякага ўдзелу ў рабоце жакта не прымае.

У агітацыйнай рабоце прыходзіцца сустракацца з цэлым радам differently розна... 

Рабочыя і служачыя вельмі цікавяцца пытаннямі міжнароднага становішча, асабліва падзеямі ў Іспаніі, у Кітаі, іх хвалююць каварныя метады шпіёнскай работы замежных разведак. Аднак агітатары ў сваіх бяседах не заўсёды даюць адказ на гэтыя пытанні. За апошні час у большасці буйных прадпрыемстваў і ўстаноў прачытана брашура Уранава, артыкулы Закоўскага, Вышынскага і рад іншых матар'ялаў.

Асабліва дрэнна пастаўлена справа ў совецкіх і гандлёвых арганізацыях.

У ГУМ'е, Гастраноме, Менхарчгандлі не паклапаціліся прапрацаваць нават пытанне аб зніжэнні цэн. Растлумачэнне «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР» зараз толькі разгортваецца і то галоўным чынам на прадпрыемствах і ўстановах. Хатнія гаспадыні і члены вытворчых арцелей гэтай справай не ахоплены.

Не гледзячы аднак на буйныя недахопы, агульны ідэйна-палітычны ўзровень палітагітацыі на асноўных прадпрыемствах павысіўся. Многія агітатары здолелі добра арганізаваць сваю справу. Сярод агітатараў ёсць таварышы, якія здолелі зрабіць свае гутаркі зразумелымі і даходчывымі. Лепшыя з іх поўна, шырока і своечасова даводзяць да мас асноўныя рашэнні партыі і ўрада і аб падзеях у краіне.

Прыводзім выпіску з дзённіка агітатара тав. Крывашэева (завод імя Кірава), у якой адлюстроўваецца тэматыка агітацыі сярод рабочых:

«27/V—паведамленне аб пасадцы на Паўночны полюс экіпажа Вадап'янава,

28/V—рашэнні VI пленума ВЦСПС,
29/V—пытанні прадпрыемства,
31/V—выступленне тав. Літвінава на сесіі Лігі нацый,
1/VI—вытворчы план прадпрыемства,
2/VI—сектанцтва і яго рэакцыйная роля,
3/VI—контррэвалюцыйны твар яўрэйскага духавенства,
7/VI—чытка перадавіцы «Праўды»: «Бязлітасна граміць і выкарчоўваць трацкісцка-правых шпіёнаў».
8/VI—чытка «Канал Волга-Масква»,
9/VI—Сучасны Кітай,
11/VI —, 13/VI — аб здрадніцкай бандзе Тухачэўскага,
14/VI — Аб Кітаі (працяг),
19/VI —, 20/VI —, 21/VI —, 23/VI — рашэнні VI пленума ВЦСПС,
25/VI — падзеі ў Іспаніі,
26/VI —, 27/VI — профсаюз, перавыбары заўкома,
28/VI — падзеі ў Іспаніі,
29/VI —, 1/VII —, 2V/II —, 3V/II — гутарка і падпіска на пазыку,
4/VII— чытка перадавіцы „Известий"—„Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР".

Тав. Альперовіч (завод «Большэвік») падрыхтаваў старога рабочага да выступлення аб гісторыі свайго завода, пачынаючы з 1920 года.

Тт. Крывашэеў і Ерынгроз (завод імя Кірава) прывучаюць рабочых да чыткі мастацкай літаратуры.

Ёсць яшчэ выпадкі, калі агітатары па-казённаму адносяцца да сваёй гутаркі, не цікавяцца яе вынікамі.

Агітатар тав. Зайцаў (Мясакамбінат) скончыў Промакадэмію. Не падрыхтаваўшыся да гутаркі аб падзеях у Іспаніі, ён пачаў расказваць рабочым яе гісторыю. Але час хутка прайшоў, і агітатар не паспеў закончыць сваю думку. Становішча ў Іспаніі так і засталося для рабочых нявыясненым.

Такая гутарка, вядома, не даходзіць да рабочых.

«Наша агітацыя павінна быць праўдзівай, наша агітацыя павінна адказваць на ўсе запытанні рабочых і не пакідаць іх без увагі, без адказу, бо, калі мы не адкажам, то за нас хто-небудзь адкажа,— «свята месца пуста не бывае» (Жданаў).

Яркай ілюстрацыяй гэтых слоў можа служыць факт на заводзе імя Варашылава. Увёўшы новыя нормы выпрацоўкі, кіраўніцтва завода злачынна запусціла сістэму аплаты. Выходзіла так, што чым больш рабочы выпрацоўваў, тым меншую меў зарплату. Рабочыя не раз узнімалі гэтае пытанне. Але агітатар начальнік цэха тав. Міньковіч, члены

партыі нарміроўшчык Базарынаў і іншыя расцанілі заявы рабочых аб няправільнай аплаце працы як «бузу» і не прыдалі ім ніякага значэння. Зварот рабочых да дырэктара таксама нічога не даў. Урэшце 20 старых кваліфікаваных рабочых падалі заявы аб уходзе з завода. Выявілася, што на падачу заяў рабочых падбухторваў нейкі Ратынец. Гэты сумніцельны тып сам не падпісаў заявы. Ратынцы, такім чынам, пралезлі туды, дзе комуністы праглядзелі і не рэагавалі. Гэты факт пацвярджае словы тав. Жданава аб тым, што «свята месца пуста не бывае».

Трэба сказаць, што хоць нашы агітатары і праводзяць работу па растлумачэнню рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б), матэрыялаў працэсаў над контррэволюцыйнымі трацкісцка-зіноўеўскімі бандамі, але ўсё-ж зусім яшчэ мала зрабілі для мабілізацыі пільнасці рабочых і служачых на выкрыццё і выкарчоўванне ворагаў.

На Мясакамбінаце былі яўныя контррэволюцыйныя вылазкі ворага Чэрэновіча, які здзекваўся над кантрольнымі лічбамі, а «комуніст», ён-жа і агітатар, Стэфановіч папярэдзіў ворага: «Ведаеш, за такія размовы могуць нават пасадзіць». Больш нікому Стэфановіч аб гэтым не сказаў. Зараз гэты Стэфановіч выкрыт, як прамы пасобнік ворагаў народу.

На заводзе імя Варашылава таксама палітагітатары не мабілізавалі рабочых на выкрыццё прытаіўшыхся ворагаў народу.

Слаба яшчэ ўкарэнены іншыя масавыя формы агітацыі, як палітдні, масавыя сходы рабочых і т. д.

На заводзе «Большэвік», імя Кірава і інш. за поўгода праведзена па 1—2 палітдні. У Менхарчгандлі, на Мясакамбінаце яшчэ не правялі ні аднаго палітдня. Агульныя сходы рабочых і служачых па пытаннях міжнароднага становішча і ўнутранай палітыкі краіны збіраюцца вельмі рэдка.

Дакладчыкі, якія пасылаюцца з райкома, прыходзячы на прадпрыемства, не ведаюць мясцовых умоў і фактаў, таму іх даклады носяць агульны характар, спрэчак звычайна не бывае.

Партарганізацыі зусім слаба працуюць з агітатарамі. Ёсць выпадкі, калі на агітработу ставяцца людзі, якія не адпавядаюць свайму прызначэнню. Самі кіраўнікі партарганізацый агітработы не вядуць. Сакратар парткома завода імя Кірава тав. Мацюш скардзіцца на тое, што няма кадраў агітатараў, а сам агітработы не вядзе. Таксама не вядуць агітработу старшыня заўкома Лапідус, заг. парткабінетам Пруслін і інш. На заводзе «Большэвік» сакратар парткома тав. Мінкін і дырэктар тав. Бандарчык, на фабрыцы імя Крупскай тт. Раскін, Каганаў агітработай не займаюцца.

Тое-ж самае і ў совецкіх установах. Рыжакаў (Наркомлес), Рэсін (Лесбел), Кудзельскі (горсовет) і рад іншых таварышоў не вядзе агітацыйна-масавай работы. Комсамольцы, спачуваючыя і непартыйныя большэвікі зусім слаба ўцягнуты ў гэту справу.

У Менхарчгандлі скардзяцца, што няма агітатараў. Тым часам у іх ёсць 20 комсамольцаў і спачуваючых, якія да агітацыйнай работы не прыцягнуты.

Галоўная бяда ў тым, што і РК КП(б)Б да апошняга часу слаба займаецца палітагітацыяй. У дрэннай пастаноўцы палітагітацыі ў Сталінскім раёне ў першую чаргу вінават райком партыі. Абыякавыя адносіны да гэтай важнейшай справы ў далейшым нецярпімы. У падрыхтоўцы да выбараў Вярхоўных органаў краіны на аснове Сталінскай Канстытуцыі і новага Выбарчага закона палітагітацыя будзе адыгры-

ваць выключную ролю, і ёй павінна быць удзелена самая сур'ёзная ўвага.

Зараз перад партыйнымі арганізацыямі стаіць выключна адказная задача—растлумачэнне новага Выбарчага закона. У большасці партарганізацый створаны гурткі па вывучэнню «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны совет СССР. Многія гурткі разгарнулі работу. Аднак паасобныя партарганізацыі ў гэтым напрамку яшчэ нічога не зрабілі, як Менхарчгандаль і інш. Гэта работа павінна быць праведзена так, каб кожны працоўны добра ўясніў новую выбарчую сістэму і парадак выбараў Вярхоўных органаў краіны.

Палітагітацыя—моцная зброя выхавання мас і мабілізацыі іх на выкананне ўсіх палітычна-гаспадарчых кампаній, на барацьбу за далейшыя перамогі соцыялізма. Партыйная арганізацыя Сталінскага райкома горада Менска, сталіцы БССР, для ўсіх астатніх партарганізацый рэспублікі павінна была служыць прыкладам пастаноўкі палітагітацыі. Аднак, у гэтай рабоце яна вельмі адстала. Буйнейшыя прарывы і недахопы патрэбна неадкладна ліквідаваць і паставіць палітагітацыю так, каб яна адпавядала сучасным задачам у сувязі з увядзеннем новай Сталінскай Канстытуцыі і новага Выбарчага закона.

Доўг і абавязак Сталінскага райкома—заняць адно з першых месц сярод усіх партарганізацый КП(б)Б у пастаноўцы палітагітацыі.

Палітагітацыя павінна быць арганізавана і пастаўлена так, каб яна ўзнімала рэволюцыйную пільнасць мас і садзейнічала выкарчоўцы ўсіх прытаіўшыхся ворагаў народу, мабілізавала масы на хутчэйшую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі і культуры.

**Азерскі.**

## Добра растлумачыць усім працоўным новы Выбарчы закон

На нарадзе сакратароў парткомаў і парторгаў Сталінскага райкома партыі выявілася, што большасць партарганізацый яшчэ не прыступіла да вывучэння і растлумачэння працоўным новага Выбарчага закона.

Партарганізацыі ф-кі імя Крупскай, спіртаводачнага завода, Рэзіназбыта, завода «Чырвоная зара» і інш. яшчэ не абмеркавалі на партсходах вынікаў чэрвеньскага Пленума ЦК ВКП(б). Кандыдаты партыі завода «Большэвік» тт. Рагозін, Надточын, Крэндзель і інш., хоць некаторыя з іх з'яўляюцца агітатарамі, самі не чыталі даклада тав. Якаўлева на сесіі ЦВК СССР і «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР». Агітатар завода «Чырвоная зара» не знайшоў часу правесці ў сваім цэху гутарку аб значэнні новага Выбарчага закона. Не пачыналі гэтай работы і партарганізацыі завода імя Варашылава, імя Кірава, ф-кі «Комунарка», МГЭС-2, Мясакамбіната, не гаворачы ўжо аб партарганізацыях совецка-гаспадарчых устаноў, вытворчых арцелей і т. д. Зусім не наладжана гэта работа з неарганізаваным насельніцтвам па жактах, з членамі сямей. Паасобныя комуністы лічаць, што калі яны адзін раз прачыталі палажэнне аб выбарах у Советы, то яно ўжо для ўсіх ясна. Гэта няправільная і шкодная думка.

Так далей быць не можа. Да выбараў у Вярхоўны Совет працоўныя масы праяўляюць вялікую зацікаўленасць. Наша першачарговая задача—падрабязна растлумачыць рабочым, служачым, іх сем'ям, кожнаму працоўнаму гістарычнае значэнне Сталінскай Канстытуцыі і новага Выбарчага закона, парадак і тэхніку выбараў у Вярхоўныя органы совецкай улады, палітычную абстаноўку, у якой будуць праводзіцца выбары, неабходнасць максімальна павысіць рэволюцыйную пільнасць, арганізаванасць і дысцыпліну. Аб усім гэтым гаварылі на нарадзе сакратары парткомаў і парторгі, але большасць арганізацый фактычна не прыступіла да справы.

На партсходах усіх пярвічных арганізацый, у гуртках партвучобы трэба неадкладна абмеркаваць і вывучыць рашэнні чэрвеньскага Пленума ЦК ВКП(б), даклад тав. Якаўлева і «Палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет СССР». На прадпрыемствах, ва ўстановах, па інтэрнатах стварыць спецыяльныя гурткі для вывучэння новага Выбарчага закона. Стварыць гурткі і па жактах для неарганізаванага насельніцтва і членаў сямей, абавязкова дабіўшыся, каб не было ні аднаго працоўнага, які-б не вывучыў і не засвоіў новы Выбарчы закон.

Для кіраўніцтва гурткамі райком партыі і пярвічныя партарганізацыі павінны вылучыць агітатараў, бяседчыкаў з ліку комуністаў, комсамольцаў і спачуваючых і сістэматычна дапамагаць ім у рабоце.

Для большай папулярызацыі і растлумачэння новага Выбарчага закона неабходна практыкаваць спецыяльныя агульназаводскія, агульнафабрычныя палітдні, падабраўшы добра кваліфікаваных дакладчыкаў з цэнтральнага, гарадскога і раённага актыва. У спецыяльным плане партком павінен прадугледзець усе тэхнічныя і практычныя бакі арганізацыі, падрыхтоўкі і правядзення палітдзён. Трэба паклапаціцца аб памяшканні, каб былі крэслы, лаўкі, графіны з вадой не толькі для прэзідыума, а і для ўсіх удзельнікаў сходу, каб працавалі дзіцячыя яслі, дзіцячыя пакоі, каб усе гэтыя і іншыя «дробязі» не тармазілі стопроцантнага збору рабочых з членамі сямей. За некалькі дзён да сходу неабходна вывесіць аб'явы, лозунгі, якія-б напаміналі рабочым аб неабходнасці прысутнічаць на палітдні.

Растлумачэнне новага Выбарчага закона—не звычайная палітычная кампанія. Яна павінна весціся паглыблена, планамерна. Нельга абмяжоўвацца правядзеннем палітдня. Трэба заняцца сістэматычнай настойлівай работай, каб кожны працоўны цалкам уясніў сабе кожны раздзел, главу і пункт новага Выбарчага закона і Сталінскай Канстытуцыі. Штодзенна вывучаць, тлумачыць і прапагандаваць новы Выбарчы закон—задача ўсіх партарганізацый і кожнага комуніста. Вывучэнне і папулярызацыя новага Выбарчага закона—баявая ганаровая задача ўсіх членаў і кандыдатаў партыі, усіх комсамольцаў і беспартыйных большэвікоў.

---

## Слабыя зрухі ў перабудове партработы

Дубровенскі райпартсход і райком прынялі цэлы рад нядрэнных пастаноў для рэалізацыі рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна. Аднак райком не забяспечыў правядзення іх у жыццё, забыўшы, што паспяховая рэалізацыя дырэктыў і рашэнняў партыі—не ў распрацоўцы і прыняцці добрых пастаноў, а ў добрай пастаноўцы і канкрэтнай арганізацыі работы ўсіх звенняў партарганізацыі.

У сваім гістарычным дакладзе на XVII з'ездзе ВКП(б) таварыш Сталін гаварыў:

> «Некаторыя думаюць, што дастаткова выпрацаваць правільную лінію партыі, абвясціць яе ўсеагульна, ізлажыць яе ў выглядзе агульных тэзісаў і рэзалюцый і прагаласаваць яе аднагалосна, каб перамога прыйшла сама сабой, так сказаць самацёкам... Так могуць думаць толькі непапраўныя бюракраты і канцылярысты... Добрыя рэзалюцыі і дэкларацыі за генеральную лінію партыі—гэта толькі пачатак справы, бо яны азначаюць толькі жаданне перамагчы, але не самую перамогу. Пасля таго, як дана правільная лінія, пасля таго, як дано правільнае вырашэнне пытання, поспех справы залежыць ад арганізацыйнай работы, ад арганізацыі барацьбы за правядзенне ў жыццё лініі партыі, ад правільнага падбору людзей, ад праверкі выканання рашэнняў кіруючых органаў... Больш таго: пасля таго, як дана правільная палітычная лінія, арганізацыйная работа вырашае ўсё, у тым ліку і лёс самой палітычнай лініі—яе выкананне, або яе правал».

Кіраўнікі Дубровенскай партарганізацыі і комуністы, пакрытыкаваўшы недахопы сваёй работы і прыняўшы разгорнутыя пастановы, на гэтым супакоіліся. Райком партыі не забяспечваў пярвічным арганізацыям канкрэтнай дапамогі ў ажыццяўленні прынятых выбарчымі сходамі пастаноў. У выніку Дубровенская партарганізацыя мае нязначныя зрухі ў перабудове арганізацыйна-партыйнай і палітмасавай работы. Таму не дзіўна, што большасць партарганізацый усё яшчэ працуе па-старому.

У партарганізацыі соўгаса «Станіслава» комуністы і спачуваючыя не ўцягнуты ў актыўную работу, партдаручэнні размеркаваны без уліку жадання і падрыхтаванасці комуністаў, якія не адчуваюць адказнасці, бо няма праверкі выканання. Не лепш пастаўлена і палітмасавая работа. Партыйная арганізацыя не кіруе работай чытчыкаў і бяседчыкаў, таму яны працуюць ад выпадку да выпадку, як каму ўздумаецца.

У выніку нізкага ўзроўню партыйна-масавай і палітвыхаваўчай работы ў соўгасе слаба разгорнута крытыка і самакрытыка. Увага рабочых і спецыялістаў не мабілізавана на павышэнне палітычнай пільнасці і выяўленне класава-варожых элементаў. Тым часам цэлы рад фактаў сведчыць аб тым, што ў соўгасе арудуе варожая рука. У пачатку веснавой пасеўкампаніі з адрамантаваных трактароў прапалі некаторыя часткі, без якіх нельга было выехаць у поле. На броварным заводзе ў машынах аказаліся болты, гайкі і іншыя жалезныя рэчы. Відавочна, што вораг імкнуўся сарваць работу завода. Класавы вораг арудуе і ў жывёлагадоўчай гаспадарцы: у соўгасе пала 26 працантаў маладняка. На выкрыццё канкрэтных віноўнікаў гэтай шкодніцкай дзейнасці партыйная арганізацыя не мабілізавала ўвагу калектыва рабочых соўгаса. Вораг, карыстаючыся стратай большэвіцкай пільнасці і бесклапотнасцю партарганізацыі, прадаўжае сваю контррэволюцыйную, шкодніцкую работу.

Не лепш справа і ў партарганізацыі Зарубскай МТС. З часу справаздачна-выбарчага сходу прайшло ўжо больш 4 месяцаў, а партарганізацыя не выканала яшчэ ні аднаго пункта прынятай сходам пастановы і нават не склала плана работы. Няма кантролю за выкананнем партыйных даручэнняў. Прымацаваныя да трактарных брыгад камуністы ніякай работы сярод іх не вядуць. У партыйнай вучобе—паўнейшы самацёк, няма партыйнай дысцыпліны. Камуністы Шумейка, Цыганкоў і іншыя сістэматычна прапускаюць заняткі гуртка.

У такім-жа, прыкладна, становішчы знаходзіцца арганізацыйна-партыйная і палітмасавая работа ў цэлым радзе іншых пярвічных партарганізацый Дубровенскага раёна (соўгас «Спаборніцтва», Дубровенская МТС, райАНА і інш.).

Дубровенская партарганізацыя, райком партыі і яго кіраўнікі не зрабілі для сябе сур'ёзных вывадаў з рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна. Прыняўшы рад пастаноў, яны працягваюць працаваць па-старынцы.

Бюро райкома партыі зусім выпусціла з поля зроку і работу з партактывам. Пасля райпартканферэнцыі не праведзена было ні аднаго сходу партактыва, які-б абмеркаваў пытанні арганізацыі і мабілізацыі беспартыйных мас на выкананне гаспадарча-палітычных задач, на ліквідацыю вынікаў шкодніцтва.

Бюро райкома вынесла пастанову па пытанню ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы раёна, але нічога не зрабіла для яе рэалізацыі.

Пярвічныя партарганізацыі не мабілізуюць рабочых і калгаснікаў на выкрыццё шкодніцкай дзейнасці ворагаў народу.

На фабрыцы «Днепроўская мануфактура» часты аварыі машын, выяўлена блытаніна ў выдачы зарплаты рабочым якраз перад апублікаваннем пастановы ўрада аб выпуску пазыкі ўмацавання абароны краіны, сарвана насценная газета. Усе гэтыя і рад іншых фактаў гавораць аб тым, што на фабрыцы арудуюць прытаіўшыяся класавыя ворагі. Аднак, ні партыйная арганізацыя фабрыкі, ні райком партыі не прынялі рашучых мер для таго, каб выявіць канкрэтных віноўнікаў гэтай антысовецкай шкодніцкай дзейнасці, не мабілізавалі ўвагу рабочых на завастрэнне рэволюцыйнай пільнасці.

Гэты няпоўны пералік сур'ёзных недахопаў у рабоце Дубровенскай партарганізацыі і яе кіраўніцтва гаворыць аб тым, што ўзросшая ў час справаздачна-выбарчых сходаў актыўнасць камуністаў не замацавана, што партыйная і палітмасавая работа пушчаны самацёкам.

* * *

Справаздачныя сходы і выбары кіруючых парторганаў на аснове закрытага (тайнага) галасавання і разгорнутай большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі былі толькі пачаткам, а не канцом перабудовы партыйна-палітычнай работы адпаведна з новымі задачамі партыі ў сувязі з паваротам у палітычным жыцці краіны. Гэтага, відаць, не зразумелі кіраўнікі Дубровенскай партарганізацыі і палічылі, што пасля справаздачна-выбарчых сходаў далейшае паляпшэнне ўсёй партыйна-палітычнай работы пойдзе самацёкам.

Такія шкодныя настроі маюць месца і ў радзе іншых раённых арганізацый.

Кожны партыйны кіраўнік павінен зразумець і засвоіць, што выбары парторганаў па-новаму з'яўляюцца толькі пачаткам перабудовы партыйнай работы, што справаздачна-выбарчыя сходы стварылі неабходныя ўмовы для сапраўды паспяховага выканання рашэнняў лютаўскага Пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна.

Дубровенская партарганізацыя і яе кіраўнікі не выкарысталі ўзросшую актыўнасць комуністаў і не дабіліся ліквідацыі выяўленых на справаздачна-выбарчых сходах недахопаў у партыйна-палітычнай рабоце. На радзе ўчасткаў Дубровенская партарганізацыя мае сур'ёзныя прарывы, што выяўлена ЦК КП(б)Б пры праверцы яе работы.

Дубровенскі райком партыі абавязан, не займаючыся славеснай дэкларацыйнасцю, арганізаваць неадкладнае выкананне сваіх пастаноў і рашэнняў, памятаючы ўказанні таварыша Сталіна аб тым, што поспех справы ў першую чаргу залежыць ад добрай пастаноўкі работы, ад правільнага падбору і расстаноўкі людзей, ад праверкі выканання рашэнняў партыі, ад авалодання большэвізмам.

Дубровенская партарганізацыя мае ўсе ўмовы для таго, каб у найкарацейшы тэрмін ліквідаваць недахопы і прарывы ў сваёй рабоце. Неабходна толькі працаваць так, як вучыць нас таварыш Сталін.

---

## Па-большэвіцку кіраваць стаханаўскім рухам

Набліжаецца XX гадавіна Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі. Да гэтага ўрачыстага свята мільённыя масы працоўных нашай краіны рыхтуюць свае каштоўныя падарункі—датэрміновае выкананне і перавыкананне вытворчых планаў народнай гаспадаркі.

Партыйныя арганізацыі павінны па-большэвіцку ўзначаліць гэты парыў працоўных, разгарнуць сапраўды масавае соцыялістычнае спаборніцтва.

Зараз ужо трэба кіраваць стаханаўскім рухам так, каб цэлыя брыгады, цэхі, агрэгаты, заводы ператварыць у суцэльна стаханаўскія. А для гэтага мы маем усе магчымасці. Пераважная маса рабочых гарыць жаданнем тварыць цуды ва славу сваёй любімай радзімы.

Ці адпавядае зараз кіраўніцтва стаханаўскім рухам патрабаванням дня?

Трэба прама сказаць—не адпавядае. Райком партыі і пярвічныя партарганізацыі нашых прадпрыемстваў дрэнна кіруюць стаханаўскім рухам, што тармозіць яго далейшае развіццё.

На Менскім машынабудаўнічым заводзе імя Варашылава справа дайшла да таго, што рабочыя не ведаюць, хто з іх лічыцца стаханаўцам. Наглядаецца вялікая цякучасць рабочай сілы. За май, чэрвень і ліпень завод пакінула каля 40 рабочых. І гэта кіраўнікі завода лічаць нармальным! Яны, відаць, забылі шэсць гістарычных умоў таварыша Сталіна, у якіх ён папярэджваў, што «цярпець цяпер цякучасць рабочай сілы—значыць разлажыць нашу прамысловасць, знішчыць магчымасць выканання вытворчых планаў, падарваць магчымасць паляпшэння якасці прадукцыі».

Ворагі народу, якія прабраліся на нашы фабрыкі і заводы, каб дэзарганізаваць прамысловасць, добра разумелі, што рабочая сіла ў нас—рашаючая сіла соцыялістычнай вытворчасці. Аднак палітычна блізарукія кіраўнікі завода гэтага не зразумелі і толькі скардзіліся на безупынную цякучасць рабочых, забываючы, што замацаванне рабочай сілы, работа сярод новых кадраў—адна з важнейшых умоў ліквідацыі вынікаў шкодніцтва, што цякучасць крыецца ў дрэннай арганізацыі працы і заработнай платы, у абязлічцы і ўраўнілаўцы, у слабасці палітвыхаваўчай работы.

На заводзе працвітае голае адміністраванне, выключна нячулыя, грубыя адносіны дырэктара, паасобных начальнікаў цэхаў і майстроў да рабочых. Калі рабочы інструментальнага цэха тав. Рубінсон заявіў, што за адзін дзень ён не зможа выканаць задання, бо яму не стварылі неабходных умоў, не забяспечылі інструментам, нач. цэха

Старжынскі груба аблаяў яго, назваў «лодырам», «сабатажнікам» і т. п.

Фрэзероўшчыца тав. Высеўка не можа цяпер выканаць сваю норму, і ніхто не пацікавіцца, чаму былая стаханаўка не дае нават нормы. Калі яна папрасіла дапамогі ў начальніка цэха Мінковіча, той аблаяў яе рознымі пахабнымі словамі.

Дырэкцыя і заводскі камітэт не звярачаюць увагі на скаргі рабочых. Тт. Лапатухін і Высеўка спачатку года працуюць на няспраўных станках. Калі Лапатухін заявіў, што станкі рамантуюцца нядобраякасна, то начальнік рамонтнага цэха комуніст Залагарэвіч даў яму «параду»: «А ты цішэй працуй, не пускай станок на ўсю магутнасць, дык ён і не адрамантаваны будзе добра працаваць». Начальнік цэха шырспажыва Ключ і майстар Жыжнеўскі не клапоцяцца аб павышэнні кваліфікацыі рабочых, а дырэкцыя і партком глядзяць на гэта безуважна.

Адсутнасць партыйна-палітычнай работы, бясплянавасць і неразбярыха ў цэхах, дрэнная арганізацыя працы, блытаніна ў сістэме заработнай платы, няўважлівыя адносіны да жывых людзей, ігнараванне сігналаў рабочых мас прывялі к таму, што за апошнія 2 месяцы каля 20 старых кваліфікаваных рабочых-стаханаўцаў (тт. Галышэвіч, Куферштэйн, Бузаноўскі. Талаеў і інш.) самага адказнага механічнага цэха падалі заявы аб уходзе з завода. У сваіх заявах яны паставілі перад заводскімі арганізацыямі рад зусім справядлівых патрабаванняў: разгарнуць стаханаўскі рух; арганізаваць культурную і палітмасавую выхаваўчую работу; уважліва прыслухоўвацца да голасу рабочых, своечасова, хутка і чула рэагуючы на іх скаргі і запросы; арганізаваць вытворчасць і сістэму аплаты такім чынам, каб усямерна павышаць прадукцыйнасць працы; хутчэй ліквідаваць вынікі шкодніцтва, мабілізуючы ўвесь калектыў рабочых на рашучае выкарчоўванне ворагаў народу.

Адзначыўшы рад непаладкаў у цэхах, факты бясплянавасці і безгаспадарнасці, няправільнага прымянення норм, сістэмы аплаты і т д., стаханаўцы пішуць: «Мы любім свой завод, на якім працуем шмат год. Мы не хочам яго пакідаць. А таму просім дырэкцыю прыняць меры да ліквідацыі непаладкаў у цэхах, бо інакш мы будзем вымушаны супроць нашай волі пакінуць завод».

У любым месцы, дзе кіруюць сапраўдныя большэвікі, такая справа, як значны ўход з завода, неадкладна прыцягнула-б увагу, заводскія кіраўнікі і партарганізацыя занялася-б расследваннем прычын такой з'явы. Нічога падобнага не здарылася на заводзе імя Варашылава. Заявы рабочых доўгі час ляжалі ў комуністаў—начальнікаў цэхаў, у майстроў Міньковіча, Гінзбурга і інш. Яны не прыдалі справе асаблівага значэння. Калі новы начальнік цэха тав. Каўнацкі давёў аб тэтым да ведама дырэктара Лісоўскага, той, спасылаючыся на «недахоп часу», з дня на дзень адкладаў разбор.

Партыйны камітэт некалькі раз збіраўся паставіць гэта пытанне, але таксама «не знайшоў часу». Нават пасля партсходу, на якім рабочыя ад станка патрабавалі неадкладна расследваць справу, партком доўгі час не даваў ёй належнага ходу і т. д.

Да ўвядзення новых норм і перабудовы прагрэсіўкі адміністрацыя аднеслася бюракратычна. Партком і заўком таксама не разгарнулі шырокай палітмасавай работы па мабілізацыі рабочага калектыва вакол гэтага важнейшага пытання.

* * *

Сістэма аплаты, якая існуе зараз на заводзе, тармозіць павышэнне прадукцыйнасці працы. Калі рабочы выпрацаваў акрамя масавай (серыйнай) прадукцыі хоць адзін процант індывідуальных заказаў, ён пазбаўляецца атрымання прагрэсіўкі за ўсю работу па серыйнай прадукцыі, гэта значыць, чым больш ён працуе і перавыконвае план, тым менш атрымлівае. Дарэчы кажучы, такая сістэма аплаты выцякае з таго, што кіраўніцтва завода механічна, некрытычна падышло да прымянення няправільнага загаду наркома мясцовай прамысловасці БССР Балціна. Гэты загад трэба неадкладна адмяніць, бо ён тармозіць павышэнне прадукцыйнасці працы і разгортванне стаханаўскага руху.

Новыя нормы разглядаліся без удзелу рабочых. Былі выпадкі, калі пасля зацвярджэння норм і расцэнак майстры і начальнікі цэхаў, асабліва нач. механічнага цэха Мінькові, самачынна змянялі іх і «выпраўлялі». Так, за апрацоўку стойкі да стругальнага станка ўстаноўлена расцэнка ў 5 р. 55 к., Мінькокіч-жа знізіў яе да 5 р. 11 кап. Тав. Талаеў і іншыя рабочыя перавыконваюць нормы на 120—140 проц., а зарабляюць менш, чым за норму ў 100 проц. Многія рабочыя не атрымалі яшчэ прэміяльнай аплаты за выдатную работу ў маі месяцы.

У цэхах часты прастоі не па віне рабочых. Устаноўлен парадак, што калі рабочы прастойвае цэлы дзень, яму аплачваюць за прастой, а калі ён працаваў хоць адну-дзве гадзіны, то астатнія 5—6 гадзін не аплачваюцца. Так званыя «лісткі адхіленняў», у якіх майстры ўлічваюць прастоі, начальнік механічнага цэха Міньковіч проста рваў і кідаў ў кошык, як гэта ён прывык рабіць з заявамі і скаргамі рабочых. Такім спосабам майстры і начальнікі цэхаў стараюцца скрыць сваю злачынную бяздзейнасць, а ў рабочага зніжаецца заработная плата. Гэта нішто іншае, як шкодніцтва. Яно прыдумана для таго, каб сарваць выкананне плана і стварыць настрої нездаволенасці сярод рабочых.

Гэта, безумоўна,—справа рук класавых ворагаў, яшчэ не выкарчаваных і не выгнаных з завода.

На заводзе ўсё яшчэ церпяць «тэхніка» Контуша. За яўна шкодніцкія праекты дырэкцыя зняла яго з работы ў цэху, але чамусьці прыняла ў кантору. Партыйная арганізацыя да апошніх дзён не прымала мер да такіх членаў партыі, як начальнік цэха Міньковіч, і Гінзбург, якія развалілі работу такарнага цэха, не занялася яшчэ комуністам Матусевічам, які пад выглядам перагрузкі адвільвае ад усякай партыйнай і грамадскай работы. Дырэкцыя і заўком доўгі час не прымалі ніякіх мер да рвача і ашуканца—былога члена цэхавага профкамітэта Вайцэховіча і нейкага Ратынца, які праводзіць разлагацельную шкодніцкую работу. Гэтым сумніцельным элементам партыйны камітэт фактычна патураў і нават рэкамендаваў іх у кіруючыя органы (Глушэц па рэкамендацыі парткома была абрана сакратаром камітэта комсамола, Матусевіч—намеснікам сакратара парткома).

На заводзе яшчэ не знішчана ўраўнілаўка. Майстар цэха атрымлівае толькі 300—350 рублёў у месяц, тым часам як менш кваліфікаваныя рабочыя зарабляюць па 400—500 рублёў. Маладыя рабочыя кадры ігнаруюцца, ім не дапамагаюць павышаць сваю кваліфікацыю. Так, комсамолец тав. Эстэркін працуе ў ліцейным цэху ўжо восьмы год і выконвае вельмі складаную работу, а заработную плату атрым-

ліваe па трэцяму разраду. У такім-жа становішчы знаходзяцца рабочыя-токары тт. Ганчарова, Юрэнка, Жураўлёў і многія дзесяткі маладых рабочых завода. Яны ўжо некалькі год працуюць па 3 разраду і выконваюць работу толькі нізкай кваліфікацыі. Тым часам яны свабодна могуць справіцца з больш складанай работай. Чым растлумачыць, што на працягу раду год рабочыя, аўладаўшыя тэхнікай вытворчасці, не пераводзяцца ў вышэйшы разрад,—ні дырэктар, ні заўком, ні партком «не ведаюць».

І гэта ўсё не выпадкова. Як зараз высвятляецца, сакратар парткома завода імя Варашылава Буевіч цесна звязан з ворагамі народу, са сваім дзядзькам эсэрам арганізатарам эсэраўскага паўстання ў Оршы ў 1918 годзе, што ён да гэтага часу скрываў ад партыі. Дырэктар завода Лісоўскі чамусьці вельмі добра адносіўся да белагвардзейца Кітовіча, зараз выкрытага НКУС як ворага народу, часта ездзіў «на паляванне» з ворагамі народу і т. д.

Для таго, каб аздаравіць работу на заводзе, Наркамату мясцовай прамысловасці і РК КП(б)Б трэба неадкладна высветліць палітычны твар сучасных кіраўнікоў завода.

А што робіцца на заводзе імя Кірава?

У новамеханічным цэху няма таго дня, каб рабочыя не прастойвалі па 3—4 гадзіны. 21 ліпеня станок № 154 па прычыне нясвоечасовай падрыхтоўкі абдзірачных разцоў прастаяў больш пяці гадзін. Непа сваёй віне часта робяць прастоі тт. Мінаеў, Сырцоў і рад іншых рабочых. Дырэкцыя завода добра ведае прычыну частых прастояў, але нічога не зрабіла для рамонту станкоў. На заводзе няправільна арганізавана праца. Бываюць выпадкі, калі аднаму рабочаму па некалькі раз у дзень без патрэбы мяняюць работу. Не створаны ўмовы для павышэння прадукцыйнасці працы. Некалькі дзён таму назад стаханавец тав. Ермак павінен быў спыніць станок і патраціць шмат часу на тое, каб знайсці патрэбныя дэталі.

Вельмі кульгае вытворчая дысцыпліна. Кожны дзень бывае па некалькі прагулаў і шмат спазненняў на работу. За два месяцы па заводу зарэгістравана каля паўтары тысячы прагулаў. Начальнікі цэхаў і майстры тт. Крывашэяў, Скрыпка, Абрамаў і інш. замест барацьбы са спазненнямі і прагуламі самі позняцца на работу на 30—40 мінут. У выніку завод імя Кірава за першае паўгоддзе 1937 года недадаў краіне больш чым на поўмільёна рублёў прадукцыі.

У кавальскім і ў іншых цэхах ужо забыліся пра той час, калі партком ці заўком успаміналі аб стаханаўскім руху або соцыялістычным спаборніцтве.

На МГЭС-2 кіраўніцтва станцыі—дырэктар Громаў, галоўны інжынер Юдзін, начальнік цэха Дземідаў і майстар Лукша ігнаруюць стаханаўцаў, тармозяць стаханаўскі рух.

Галоўны інжынер Юдзін і майстар цэха Лукша з ведама комуністаў-кіраўнікоў—начальніка цэха Дземідава і дырэктара станцыі Громава—цкуюць стаханаўцаў. Так было са стаханаўцамі тт. Лісоўцам, Насілоўскім і інш., якія былі вымушаны на цэлы дзень кінуць работу.

Парткомам завода імя Кірава і МГЭС-2 добра вядомы гэтыя злачынныя факты, але яны іх толькі рэгіструюць.

Усё гэта магло здарыцца таму, што гэтыя заводскія арганізатары—парткомы, заўкомы, дырэктары адарваліся ад рабочых мас, не ведаюць, што робіцца ў цэхах. Усё гэта атрымалася таму, што

кіраўнікі прадпрыемстваў яшчэ не зжылі палітычную бесклапотнасць і благадушша, нічога не зрабілі для выяўлення віноўнікаў шкодніцкай работы, для ліквідацыі вынікаў шкодніцтва.

Сталінскі райком партыі, які, дарэчы кажучы, вельмі слаба кіруе стаханаўскім рухам на прадпрыемствах, пасля неаднаразовых сігналаў, 11 ліпеня, абмеркаваўшы пытанне аб становішчы на заводзе імя Варашылава, прыняў бяззубае рашэнне. Райком партыі, замест сур'ёзнай праверкі і выяўлення канкрэтных віноўнікаў шкодніцкай дзейнасці на заводзе, абмежаваўся фармальным заслуханнем паведамлення дырэктара і сакратара парткома. Райком партыі аказаўся няздольным убачыць шкодніцтва на заводзе, а ўсе злачынныя дзеянні, якія мелі і маюць месца на заводзе, ацэньвае як «бяздушныя, казённа-бюракратычныя адносіны», тады як усе вышэйпрыведзеныя факты гавораць за тое, што на заводзе імя Варашылава дзейнічаюць прытаіўшыяся ворагі народу.

Сталінскі райком і Менскі гарком партыі абавязаны неадкладна заняцца выяўленнем прытаіўшыхся шкодніцкіх элементаў, прыняць канкрэтныя і дзейсныя меры па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва на прадпрыемствах гор. Менска і—не на словах, а на справе—узначаліць кіраўніцтва разгортваннем стаханаўскага руху.

Усё другое паўгоддзе павінна прайсці пад знакам самай гарачай, самай напружанай работы. Наверстаць упушчанае, поўнасцю выканаць і перавыканаць планы 1937 года—справа гонару ўсіх арганізацый.

* * *

Сістэматычнае партыйнае кіраўніцтва стаханаўскім рухам і соцспаборніцтвам вырашаюць справу выканання і датэрміновага выканання планаў 1937 года.

Стаханаўскі рух і соцспаборніцтва—не кампанія, якой можна займацца ад выпадку да выпадку. Партыйныя арганізацыі павінны дабіцца, каб усе комуністы, працуючыя на вытворчасці, былі стаханаўцамі, памятаючы, што статут партыі патрабуе ад кожнага комуніста «авалодваць тэхнікай сваёй справы, безупынна павышаючы сваю вытворчую дзелавую кваліфікацыю».

Разгортванне стаханаўскага руху і социялістычнага спаборніцтва можа быць забяспечана пры ўмове правільнай расстаноўкі партыйных сіл на рашаючых участках вытворчасці. Разгортванне стаханаўскага руху залежыць ад таго, наколькі сур'ёзна пастаўлена тэхнічная вучоба, перадача вопыту перадавых рабочых астатнім, кантроль за выкананнем стаханаўскага графіка работы. Поспех залежыць таксама ад якасці палітмасавай работы і палітагітацыі, якая апіраецца на канкрэтны і правераны жыццёвы вопыт.

Гэтыя ўмовы плюс асабісты прыклад комуністаў неабходны для таго, каб змесці з дарогі сабатаж стаханаўскага руху, што яшчэ сям-там наглядаецца, і ўзняць стаханаўскі рух на належную вышыню.

Нажаль, не ўсюды ўжо створаны гэтыя ўмовы, не ўсе комуністы сталі стаханаўцамі. Не сакрэт, што некаторыя партарганізацыі мала цікавяцца тым, як комуністы выконваюць нормы выпрацоўкі. Яшчэ не ўвашлі ў практыку справаздачы комуніста на парткоме ці партсходзе аб яго рабоце на вытворчасці: ці выконвае ён нормы, ці з'яўляецца на справе стаханаўцам, ці вядзе за сабою астатніх рабочых, як павышае сваю кваліфікацыю, у чым патрабуе дапамогі. Такі

кантроль за работай комуніста павысіў-бы яго асабістую адказнасць і адказнасць партыйных органаў за дапамогу і кіраўніцтва стаханаўскім рухам.

Таварыш Сталін заўсёды вучыў і вучыць нас, што стаханаўцамі трэба кіраваць і штодзенна дапамагаць ім у рабоце. На гістарычным лютаўскім Пленуме ЦК ВКП(б) таварыш Сталін асабліва падкрэсліў, што «... сам стаханаўскі рух мае патрэбу ў рэальнай дапамозе з нашага боку супроць усіх і ўсякіх махінацый шкоднікаў», што «барацьба за ліквідацыю шкодніцтва, абузданне шкодніцтва з'яўляецца ўмовай, неабходнай для таго, каб стаханаўскі рух мог разгарнуцца ва ўсю шыр».

Парткомы, новыя кіраўнікі партыйных арганізацый павінны дапамагчы комуністам стаць сапраўднымі стаханаўцамі, важакамі на вытворчасці, з поспехам змагацца за хутчэйшую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва.

Быць арганізатарам і кіраўніком соцыялістычнага спаборніцтва і стаханаўскага руху—вось што зараз патрабуецца ад кожнага партыйнага кіраўніка, ад кожнай партыйнай арганізацыі.

Разгортванне партыйна-палітычнай работы, усямернае павышэнне рэволюцыйнай пільнасці, выхаванне людзей у духу большэвізма і непрымірымай нянавісці да фашысцкіх троцкісцка-бухарынскіх бандытаў, япона-германскіх і польскіх шпіёнаў, дыверсантаў і ўсякіх ворагаў народу—вось важнейшы абавязак усіх партыйных арганізацый і кожнага комуніста.

Неабходна выкарыстаць усе сродкі большэвіцкай агітацыі і прапаганды: чыткі, бяседы аб важнейшых міжнародных падзеях, растлумачэнне рашэнняў партыі і ўрада, газеты, кнігі, радыё, кіно, мастацкія пастаноўкі і т. п. Палітагітацыя павінна быць жывой і яркай, ідэйна насычанай і палітычна завостранай, накіраванай супроць усякіх махінацый троцкісцка-бухарынскіх фашысцкіх бандытаў, своечасова выкарчоўваючы іх з усіх нор, у якіх-бы яны ні схаваліся.

Канкрэтна кіраваць і дапамагаць стаханаўцам, абагульваць і перадаваць вопыт лепшых стаханаўцаў усім рабочым, штодзенна клапатліва і любоўна вырошчваць і выхоўваць новыя кадры стаханаўцаў, шырока разгарнуць і арганізаваць соцыялістычнае спаборніцтва, клапаціцца аб бытавых патрэбах стаханаўцаў і ўсіх рабочых—абавязак партыйных, гаспадарчых і профсаюзных кіраўнікоў фабрык і заводаў.

Баявая задача ўсіх кіраўнікоў—партыйных і непартыйных большэвікоў—разгарнуць ва ўсю шыр стаханаўскі рух і па-большэвіцку ім кіраваць.

---

Галоўлітбел 2773.
Тыраж 5.885 экз.
316.800 друк. зн. ($5^3/_4$ арк.)
Здана ў набор 20/VII 37 г.
Падпісана да друку 19/VIII-37 г.

*Рэдкалегія* Л. Готфрыд, Н. Казюк

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1127.

